


КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАУ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ І УСЕКАБАНКУ

ЛІСТАПАД

№ 15-16

1929

МЕНСК

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА

2-гі год выданьня **НА 1930 ГОД** 2-гі год выданьня

на адзіную ўсебеларускую 2-тыднёвую каапэрацыйную часопіс

# „КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

на сваіх старонках шырока асьвятляе жыцьцё каапэрацыі ўсіх відаў БССР, СССР і замежнай каапэрацыі

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

шырока інфармуе сваіх чытачоў аб ўсіх навінах і зьменах у каапэрацыі, друкуе спрэчныя артыкулы.

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

шырока асьвятляе жыцьцё на мясцох, дае водгукі на новыя карысныя для каапэрацыі і сельскае гаспадаркі кніжкі.

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

удзяляе значную ўвагу на сваіх старонках кампаніям, якія праводзяцца.

Кожны каапэратыў, кожная крама, кожны каапэрацыйны актывісты, кожны пайшчык павінны выпісваць і чытаць сваю часопіс—

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 мес. | . — р. 50 к. | На 6 м-цаў | . 2 р. 80 к. |
| На 3 м-цы | . 1 р. 40 к. | На 12 м-цаў | . 5 р. 40 к. |

## ПАДПІСКА НА ЧАСОПІСЬ

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

прымаецца ва ўсіх каапэрацыйных арганізацыях, усімі інструктарамі, а таксама паштов. установамі, агэнтамі Бел. Дзярж. Выдавецтва і рэд. часопісі

**„КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.“**

**Рэдакцыя:** Менск, Савецкая, 43; **Бягучы рахунак:** ва Ўсекабанку № 797

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. Р.

**ДВУХТЫДНЕВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА,
ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

**ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

## № 15-16

**ЛІСТАПАД**





МЕНСК — 1929

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*



Галоўлітбел № 533. Заг. № 732 У ліку 1500 экз. Гомель, друкарня „Палесдрук".

С—К.

# Выканаць да тэрміну плян хлебазагатовак

Установуленыя тэрміны выкананьня плянаў хлебазагатовак да 1-га студзеня па паўднёвых і цэнтральных раёнах і да 1-га лютага па ўсходніх раёнах ня толькі ажыцьцявіліся на справе, але і аказаліся сапраўды перавышанымі.

Тэрмін у сучасны момант скарочаны на адзін месяц, і пляны хлебазагатовак павінны быць выкананы да 1-га сьнежня і да 1-га студзеня 30 года.

Вынікі хлебазагатовак на 15-е лістапада гэтага года даюць выкананьне плянаў хлебазагатовак на 87 проц. Ёсьць цэлы шэраг раёнаў, дзе хлебазагатоўчыя пляны выкананы да 10-га лістапада значна вышэй, напрыклад, Татрэспубліка—111,4 проц., Башрэспубліка—127,1 проц., Украіна—101,6 проц., Беларусь—107,2 проц., і раёны: Ніжагародзкі—118,2 проц., Іванаўскі—171,7 проц., Заходні—169,1 проц.

Адсталымі раёнамі зьяўляюцца: Паўночны Каўказ—61 проц., Сібір—66,2 проц., Казакстан—73,5 проц., ДУК—6,8 проц., Бурата-Манголія—13,5 проц.

Асноўная задача павінна выяўляцца ў тым, каб падцягнуць адсталыя раёны. Гэта адносіцца ня толькі да цэлых вобласьцяй, але і асобных акругаў, раёнаў і вёсак.

Загатоўчая праца разьвівалася пры значнай ўвазе да харчовых культур, і ў выніку доля харчовых культур значна павялічваецца.

Перавыкананы плян і па хлеба-фуражных культурах. Па загатоўцы сланечніку (падсолнуху) пляны выконваюцца вельмі слаба—на 1-е лістапада выканана толькі 38 проц. гадавога пляну.

На бліжэйшы час уся ўвага павінна быць сканцэнтравана на ўзмацненьні загатовак як харчовых культур, гэтак і масьлічнага насеньня.

Ацэнку працы раёнаў па хлебазагатоўках варта рабіць ня толькі па тым, як выкананы пляны хлебазагатовак у цэлым, але і па тым, як выкананы пляны па харчовых культурах і масланасеньні.

Асноўнай перашкодай пасьпяховага выкананьня хлебазагатовак зьяўляецца супраціўленьне кулака і заможніка і слабая яшчэ барацьба з гэтымі супраціўленьнямі з боку загатоўшчыкаў і мясцовых арганізацый.

Часткова ўжо пляны хлебазагатовак у вёсцы ці раёне выкананы ці блізка да гэтага, а кулацка-заможная частка пляны ня выканала. У такіх выпадках неабходна павесьці шырокую праверку выкананьня даведзеных да двара плянаў сельскімі камісіямі садзейнічаньня ў сваячасовым і поўным выкананьні. У адносінах тых, якія злосна ўхіляюцца ад выкананьня загатовак, неабходна ўжываць рашучыя меры ўзьдзейнічаньня: байкоты, штрафы, адданьне пад суд.

Ня ўсюды яшчэ і вясковы актыў прадаў свае таварныя лішкі, і ня ўсюды яшчэ праведзена праверка здачы гэтых лішкаў каапэрацыйным актывам.

Неабходна выявіць усіх ня здаўшых, прымяніўшы да іх меры грамадзкага ўзьдзейнічаньня: вымовы, запіс іх на чорную дошку, часовае спыненьне водпуску тавараў.

Тыя асобы, якія злосна не здаюць, павінны быць выключаны з ліку сяброў каапэрацыі.

Пытаньні таваразабясьпечаньня хлебазагатоўчых раёнаў набываюць к канцу хлебазагатовак вялікае значэньне. Забясьпечыўшы беднату прамтаварамі шляхам вылучэньня пэўнай часткі іх, патрэбна астатнія прамтавары выкарыстаць для пад'ёму хлебазагатовак.

Прэміяльныя фонды, якія вылучаюцца для хлебаздатчыкаў, павінны накіроўвацца ў раёны хлебаздатчыкаў, выканаўшых раней ўстаноўленых тэрмінаў пляны хлебазагатовак.

З хлебазагатоўкамі павінны быць зьвязаны ня толькі пытаньні таваразабясьпечаньня, але і пытаньні збору сродкаў: авансы, с.-г. падатак, страхавыя зборы і інш.

Сваячасовае выкананьне плянаў хлебазагатовак можа быць ажыцьцяўляема з большым посьпехам, калі будуць сваячасова выкананы кантрольныя заданьні па збору сродкаў з насельніцтва. Да гэтых пытаньняў павінна быць прыцягнута ўвага грамадзкасьці, бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас.

Значны пад'ём бядняцка-серадняцкіх мас выліўся ў арганізацыю чырвоных абозаў. Па Цэнтр. Чарназемнай вобласьці (у Барысаглебскай акрузе) у кастрычніку такіх абозаў па 41-ым спаж. т-ве было 80, пры чым адзін абоз налічваў 3500 фурманак.

Арганізацыю чырвоных абозаў неабходна і далей разгортваць, лічачы гэта за лепшую форму арганізацыі грамадзкасьці вакол хлебазагатовак.

Рабочыя брыгады, якія пасланы ў вёскі, робяць вялікую дапамогу сялянскаму актыву ў арганізацыі бядняцка-серадняцкіх мас для барацьбы з супраціўленьнем кулака, а таксама ў пасьпяховым выкананьні плянаў загатовак.

Брыгады мабілізуюць увагу актыву і ўзмацняюць загатоўкі. Брыгады павінны і надалей працягваць сваю працу, асабліва ў тых раёнах, дзе пляны выкананы слаба.

Там, дзе брыгады працавалі не фармальна, а ўцягвалі бядняцка-серадняцкія масы ў працу выкананьня хлебазагатовак, мерапрыемства вылучэньня брыгад сябе апраўдала.

Украіна, асобныя акругі Ніжняе Волгі, Цэнтр. Чарназем. вобласьць зьяўляюцца ў гэтай справе паказальнымі. Трэба гэта мерапрыемства праводзіць і далей з такім разьлікам, каб ахапіць брыгадамі ўсе раёны загатовак.

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на праверку выкананьня плянаў, устаноўленых для кожнага двара, для кожнае заможнае і кулацкае гаспадаркі. Уся хлебазагатоўчая кампанія павінна закончыцца падагуленьнем вакол хлебазагатовак сацыялістычнага спаборніцтва.

Трэба правесьці шырокі грамадзкі кантроль над выкананьнем умоў, зробленых паміж сёламі, раёнамі, акругамі і групамі сялян.

Раёнамі, якія пасьпяхова закончылі сваю працу, можна будзе лічыць тыя, якія правільна паставяць справу захаваньня загатоўленага збожжа і арганізуюць правільны вучот хлебазагатовак.

Уся ўвага павінна быць цяпер зьвернута на адгрузку, транспартаваньне і хаваньне збожжа. Вакол гэтых задач таксама павінны быць разгорнуты шырокая грамадзка-масавая праца і грамадзкі кантроль.

С. Кудзінаў

# Масавая калектывізацыя ў БССР

## Грунтоўнейшая задача

Наша Беларусь—спрадвеку краіна землеробства. Але ў выніку гістарычных умоў, якія склаліся для яе, узровень нашае сельскае гаспадаркі вельмі нізкі, а таварнасьць яе вельмі слабая. У нас наглядаюцца вялікая аграрная перанасялёнасьць, вострае малазямельле і надзвычайная разрозьненасьць сельскае гаспадаркі. Вось чаму камуністычная партыя і савецкая ўлада са ўсёй рашучасьцю паставілі ў якасьці першачарговае задачы вытворчае каапэраваньне сялянства і, на гэтай падставе, паступовы пераход сельскіх гаспадарак на рэйкі буйное вытворчасьці—калектыўную апрацоўку глебы на падставе інтэнсыфікацыі і машынізацыі землеробства. Партыя і савецкая ўлада паказалі адзіны шлях да сацыялізму, які ляжыць у кірунку ад дробнай індывідуальнае гаспадаркі да буйное калектыўнае гаспадаркі на падставе высокай машыннай тэхнікі.

Асноўная задача партыі і ўлады на вёсцы—гэта са ўсёю сілаю і рашучасьцю праводзіць работу па ўзмацненьні і ўзбуйненьні калгасаў і саўгасаў, рашуча разгортваць калгаснае будаўніцтва, як рашаючы шлях, які забясьпечвае магутны ўздым бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і сацыялістычную рэканструкцыю ўсяе сельскае гаспадаркі. Нарастаючыя тэмпы калектывізацыі сельскае гаспадаркі патрабуюць падпарадкаваньня гэтай задачы ўсіх мерапрыёмстваў зямельных органаў і каапэрацыйных сыстэм як у галіне земляўпарадкаваньня, фінансаваньня, сельска-гаспадарчага крэдыту, гэтак і ў галіне машыназабесьпячэньня, арганізацыі трактарных калён і г. д. У бок палягчэньня працэсу калектывізацыі неабходна накіраваць усю нашу ўвагу, усе сілы і сродкі.

## Мэтады работы па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі

Цяпер шырока разгортваецца напружаная, упартая, вялізарнейшая па сваім ажыцьцяўленьні работа па вытворчай перабудове дробнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці. На гэтым шляху мы ўжо маем вялікі шэраг дасягненьняў: будаўніцтва буйных калгасаў, ахоп калгасным будаўніцтвам новых галін сельскае гаспадаркі, пераход большасьці акруг да суцэльнае калектывізацыі ня толькі сельсаветаў, але і цэлых раёнаў, новыя формы арганізацыі буйное мэханізаванае гаспадаркі, пераход сельска-гаспадарчае каапэрацыі на вытворчыя рэйкі, масавае ўцягненьне серадняка ў калгасы і г. д. (што дае магчымасьць вырашаць праблему перабудовы нашае адсталае сельскае гаспадаркі на новай тэхнічнай базе), хуткі тэмп росту нашае прамысловасьці, рост цяжкай індустрыі, сельска-гаспадарчае машынабудоўлі і трактарабудоўлі. Наша барацьба за калектывізацыю і каапэраваньне, барацьба за буйное абагуленае землеробства ёсьць барацьба за сацыялізм, барацьба з капіталізмам, за выкарчоўваньне карэньняў капіталізму ў нашай краіне.

Пагэтаму нашай галоўнейшай задачай зьяўляецца яшчэ большае аб'яднаньне беднаты і сераднякоў навокал партыі і ўлады, мабілізацыя творчай энэргіі пралетарыяту, вясковых пралетарыяў — батрацтва, шырокіх мільённых мас беднаты і сераднякоў на справу сацыялістычнае перабудовы вёскі, на справу калектывізацыі, на хуткае падвышэньне сельскае гаспадаркі, падвышэньне ўраджайнасьці і г. д.

## Мерапрыёмствы па пашырэньні масавае калектывізацыі

Для больш хутчэйшага ўздыму вытворчасьці сельскае гаспадаркі неабходна, каб да калектыўнае формы вядзеньня гаспадаркі пераходзілі ня толькі паасобныя групы беднякоў і серадьнякоў, але і цэлыя пасёлкі і вёскі, пры гэтым трэба ствараць буйныя калгасы, уцягваючы ў іх усё насельніцтва гэтых пасёлкаў і вёсак. Бязумоўна, ні ў якім разе ня трэба дапушчаць у калгасы варожы, шкодны, кулацкі элемэнт.

Пры масавым пераходзе цэлых вёсак у калгасы земляўпарадкаваньне іх значна спрошчваецца ў параўнаньні з групавой калектывізацыяй. Усё гэта дасьць магчымасьць накіраваць большую частку сродкаў, замест пераносу і пабудовы будынкаў (апроч некаторых гаспадарчых), на набыцьцё сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, прадукцыйнае жывёлы, палепшанага насеньня, угнаеньня і на інш. вытворчыя патрэбы гаспадаркі. Ахоп калектывізацыяй цэлых вёсак і пасёлкаў можа пачынацца ня толькі па лініі абагуленьня палявое гаспадаркі і жывёлагадоўлі, але і праз абагульненьне іншых галін гаспадаркі (закладка агародаў, ягаднікаў, садоў, выхавальнікаў і г. д.), арганізацыю тэхнічных прадпрыёмстваў па пераапрацоўцы прадуктаў сельскае гаспадаркі і доўгатэрміновую кантрактацыю. Для стварэньня належных умоў масавае калектывізацыі сельскае гаспадаркі неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на абслугоўваньне прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў—пасялковых, мэліарацыйных і інш., ствараючы належныя ўмовы для хутчэйшага і лягчэйшага пераходу іх у калгасы.

У мэтах палягчэньня справы масавае калектывізацыі неабходна ўвесьці належныя зьмены ў зямельны кодэкс, забараніўшы стварэньне і земляўпарадкаваньне хутароў, атрубоў і дробных пасёлкаў. Пры земляўпарадкаваньні трэба арганізоўваць выключна толькі больш буйныя пасёлкі, якія ў далейшым павінны стаць базаю для будучых калгасаў. Трэба наогул ужыць усе магчымасьці па арганізацыі буйных калгасаў пры правядзеньні земляўпарадкаваньня.

## Ад масавай да суцэльнае калектывізацыі

Калгасны рух на Беларусі асабліва шырока разгарнуўся ў канцы 1929 года. Праведзены 14-го кастрычніка г.г. дзень калектывізацыі даў Беларусі новыя сотні калгасаў і новыя тысячы гэктараў абагуленае плошчы. Толькі па аднэй Бабруйскай акрузе арганізаваны новыя калгасы на плошчы каля 40000 га. У Клімавіцкім раёне, Магілеўскай акругі, за гэты дзень арганізавана новых калгасаў на плошчы 15000 га. Значна разгарнулася калектывізацыя і па іншых акругах і раёнах БССР.

Цяпер мы маем шэраг раёнаў, дзе калектывізацыя прыняла масавыя памеры, і абагуленая плошча зямлі дасягае 30—40 і звыш. проц. Гэта сьведчыць аб тым, што калектывізацыя сапраўды набывае масавы, суцэльны характар. Пры гэтых тэмпах калектывізацыі ўжо да канца 1930 года мы будзем мець цэлыя раёны, калектывізаваныя на ўсе 100 проц. *Клімавіцкі раён* першым на Беларусі перайшоў на рэйкі суцэльнае калектывізацыі. Калі на 1-е студзеня 1929 года ў раёне налічвалася 17 калгасаў з агульнай плошчай у 2031 га, дык да 15-га жніўня 1929 г. было арганізавана 18 новых калгасаў, якімі было ахоплена 9477 га. Калгаснае будаўніцтва Клімавіцкага раёну набыло масавы характар калектывізацыі цэлых пасёлкаў, вёсак і нават цэлых сельсаветаў. На 25/X-29 г. у Клімавіцкім раёне ўжо калектывізавана звыш 53000 га зямельнае плошчы, альбо звыш 50 проц. раёну. У раёне няма ніводнага сельсавету, дзе ня

быў-бы арганізаваны калгас. Савініцкі, Пуцімельскі, Дубравіцкі, Кісялёва-Будзянскі, Гусарскі, Судзілавіцкі і Хатовіцкі сельсаветы калектывізаваны амаль на 100 проц. кожны. Да пачатку студзеня 1930 г. Клімавіцкі раён будзе калектывізаваны ня менш, як на 65—70 проц., а да канца 1930 г. года—ва ўсе 100 проц.

## Масавая калектывізацыя ў іншых раёнах Беларусі

На Мазыршчыне найбольш шпаркім тэмпам ідзе калектывізацыя па Калінкавіцкім раёне. Да 1/X-29 г. на працягу года ў раёне арганізавана 32 новых калгасы з сярэдняй плошчай кожнага ў 350 га. Цэнтрам калектывізацыі ў раёне зьяўляецца Даманавіцкі сельсавет. Гэты сельсавет, з існаваўшай у ім да апошняга часу хутарскай, сталыпінскай сыстэмай землякарыстаньня, зараз перайшоў на суцэльную калектывізацыю. Ён першы на Беларусі сельсавет, які раней другіх калектывізаваўся на ўсе 100 працантаў.

У сельсавеце арганізавана 11 калгасаў на плошчы 11000 га. Больш паловы гэтых калгасаў—буйныя, якія превышаюць кожны 1000 га. Усе калгасы сельсавету аб'яднаюцца ў адзін Даманавіцкі Куст.

Па Бабруйскай акрузе намечаны да масавае калектывізацыі Рагачэўскі, Жлобінскі, Старобінскі, і Чырвонаслабодзкі раёны. У гэтых раёнах цяпер выяўляецца суцэльная масавая калектывізацыя, прыстасаваная да буйных калгасаў. У самых лепшых умовах калектывізацыі знаходзіцца Сьвержанска-Гарадзецкі падраён (Рагачэўшчына), які мае масыў у 40000 га плошчы, мяжуючы са Жлобінскім раёнам у тэй частцы, дзе таксама вызначаны сельсаветы да суцэльнае калектывізацыі (Куст Расьсьвета). У Сьвержанска-Гарадзецкім падраёне 15 проц. сялянства абагулілі свае гаспадаркі, а ў паасобных сельсаветах процант калектывізацыі даходзіць да 50 і звыш. Сьвержанска-Гарадзецкі падраён будзе поўнасьцю калектывізаваны да 1/X-30 г. Паколькі гэты падраён мяжуе са Жлобінскім раёнам, дзе таксама праводзіцца работа па масавай калектывізацыі, магчыма будзе стварыць самастойны раён суцэльнае калектывізацыі паміж Рагачэўскім і Жлобінскім раёнамі, з ахопам плошчы каля 80000 га. На Магілеўшчыне, апроч Клімавіцкага раёну, масавай калектывізацыяй ахапляецца цэлы шэраг іншых раёнаў. З іх асабліва шпарка калектывізуецца сумежны з Клімавіцкім Хоцімскі раён, які дагэтуль ужо калектывізаваны на 35 проц. У гэтым раёне таксама арганізоўваюцца буйныя калгасы, з якіх буйнейшы мае плошчу ў 6000 га.

У далейшым Клімавіцкі, Хоцімскі, Крычаўскі (калектывізаваны на 25 проц.) і Касьцюковіцкі раёны складуць вялізарнейшы масыў суцэльнае калектывізацыі ў 200-300 тыс. га. Па Гомельскай акрузе на 20 проц. калектывізаваны Лоеўскі раён, дзе цэнтрам калектывізацыі зьяўляецца Ручаёўскі сельсавет. Таксама шпарка калектывізуюцца і ідуць па шляху суцэльнае калектывізацыі Юравіцкі раён (Мазыршчына), Расьнянскі раён (Аршаншчына), Сьмілавіцкі раён (Меншчына) і шэраг раёнаў у іншых акругах Беларусі.

## Трэба стварыць калгасныя кадры.

Наша Беларусь больш чым слаба забясьпечана трактарамі. Нават у такіх раёнах суцэльнае калектывізацыі, як Клімаўшчына, на сёньня ёсьць толькі 2 трактары. Шмат тысяч беларускіх вёсак дагэтуль і ня бачылі трактара. Пагэтаму калектывізацыя гэтых вёсак, рэканструкцыя іх сельскае гаспадаркі на падставах высокай агра-тэхнікі, машынізацыі і інтэнсыфікацыі зьяўляецца вельмі складанай і вельмі цяжкай справай. У нас

вельмі мала аграномаў-калгасьнікаў, ды і тыя яшчэ недастаткова падрыхтаваны для такой вялізарнейшай справы, як сацыялістычная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі. Мы знаходзімся пад пагрозай няпоўнага замацаваньня тых дасягненьняў, якія ёсьць ў галіне калектывізацыі на сёньня. Ды і што могуць зрабіць 3-4 аграномы ў раёне з 50-60 калгасамі, з якіх шмат маюць плошчу ад 1000 да 10000 га. Адзін такі калгас-волат, як „Камунар Магілеўшчыны“, па тэрыторыі буйней усіх, разам узятых, саўгасаў Магілеўскай акругі. Але ў кожным саўгасе ёсьць цэлы штат агра-працаўнікоў, цэлы рахунковы апарат (бухгальтар, рахункавод і г. д.). У кожным саўгасе ёсьць розныя складаныя машыны і г. д. Між тым Клімавіцкі масыў суцэльнае калектывізацыі, які мае 100.000 га зямельнае плошчы, на сёньня зусім пазбаўлены ўсяго гэтага. Зараз у нас, на Беларусі, дужа мала трактараў, мала складаных машын, але ў яшчэ больш цяжкім становішчы знаходзіцца пытаньне з агранамічнымі кадрамі, з кадрамі кіраўнікоў калгасаў. Дзеля таго, каб забясьпечыць далейшы посьпех калгаснага будаўніцтва на Беларусі, неабходна ў самым тэрміновым парадку даць калгассыстэме цэлую армію спэцыялістых па ўсіх галінах сельскае гаспадаркі—аграномаў-арганізатараў, аграномаў-індустрыялізатараў і эканамістых і г. д., а таксама шмат тысяч моцных кіраўнікоў калгасамі, трактарыстых і іншых. Гэта—першачарговая і неадкладная задача.

---

**Т. т. каапэратары, пайнікі, пішэце ў сваю часопісь „Каапэрацыя БССР“ аб тым, як праходзіць у вас сацыялістычнае спаборніцтва, што шкодзіць выкананьню некаторых пунктаў. Пішэце аб працы вашых каапэратываў, высьвятляйце добрыя і дрэнныя бакі яго.**

**Рэдакцыя чакае матар‘ялаў.**

# ГРАМАДЗКАЕ ХАРЧАВАНЬНЕ НА АГЛЯД

**І. Гармізэ**

## Забясьпечаньне харчамі гарадоў і спажывецкая каапэрацыя

(*працяг* [1])

Пераходзячы да характарыстыкі рынку малочных прадуктаў, заўважым, што агульнае становішча жывёлы ў 1928-29 годзе абумовіла зьніжэньне таварнае часткі малочных прадуктаў. У зьвязку з гэтым, па папярэдніх дадзеных ЦСУ, норма спажываньня масла на 1 душу ў 1928-29 г. зьнізілася супроць 27-28 году на 20 проц. Апрача значнага колькаснага недазабясьпечаньня каапэрацыі па ўмовах, плянавасьць забясьпечаньня парушалася ў дадатак да гэтага несупаданьнем сэзоннасьці спажываньня з ходам загатовак і дастаўкі масла. Адсутнічаньне, а іншы раз і крайняя недастатковасьць рэзэрваў, не давала магчымасьці манэўраваньня і забясьпечаньня насельніцтва маслам у несэзонны час.

Вызначаемы ў 1929-30 годзе працэс павялічэньня жывёлы, рост валавой і таварнае прадукцыі малочнае гаспадаркі і, у зьвязку з гэтым, значны рост загатовак абагульненага сэктару адчыняюць пэрспэктывы на лепшае і больш поўнае забясьпечаньне рабочага насельніцтва маслам, аднавіўшы норму спажываньня ў 1929-30 годзе на ўзроўні 1927-28 году, гэта значыць, у 5 клгр. у сярэднім на душу.

Агульны памер спажываньня і ахоп яго каапэрацыяй уяўляюцца ў наступным выглядзе:

| | Фактычн. спажыв. на 1 душу насельніцтва ў год | Спажыв. капэрав. насельніцтва | Прададзена каапэрацыяй | У тым ліку для забясьпечаньня розных устаноў | Прададзена пайшчыкам з крамаў | % ахопу каапэрацыяй спажыўца |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1928-29 г. . | 4,00 клгр. | 2100 тон | 900 тон | 300 тон | 600 т. | 27 |
| 1929-30 г. | 4,5 „ | 2327 „ | — | — | 1238 „ | — |
| %% к папярэдн. году | +12,8 | +11,8 | — | — | +106,3 | 53,4 |

Удзельную вагу рабочае каапэрацыі ў забясьпечаньні пайшчыкаў маслам ёсьць намер павесьці ў 1929-30 годзе з 27 проц. да 53,4 проц., пры значным росьце звапотаў (106,3 проц.) Фактычны водпуск на аднаго каапэраванага едака ўзрастае ў год з 1,6 клгр. у 1928-29 г. да 2,4 клг. у 1929-30 годзе.

Прасочым, у якой ступені, прыкладна, арыентыровачная спажыўнасьць арганізаванага забясьпечаньня адбываецца плянавымі загатоўкамі:

| Выдатак: | | Прыбытак: | |
|---|---|---|---|
| Забясьпечаньне насельніцтва . . . | 1573 тоны | Плянавая загатоўка . | 2217 тон |
| Павялічэньне рэзэрву на 1930-31 г. | 217 тон | | |
| Установы, вытворчасьць і інш. . . . | 754 тоны | Дэфіцыт . . . . . . . . | 327 „ |
| Усяго . . . . | 2544 тоны | Усяго . . . . | 2544 тоны |

[1]) Гл. № 13—14 „Каап. БССР“.

Гэтыя дадзеныя паказваюць, што, пры ўмове поўнага выкананьня запраэктаваных загатовак, мы ў 1929-30 годзе будзем мець дэфіцыт, прыкладна, у 327 тон. Адгэтуль вынікае неабходнасьць эканомнага і нармаванага забясьпечаньня выключна каапэраванага насельніцтва і прыняцьця мер да завозу масла з-за межаў БССР у колькасьці, адпавядаючай дэфіцыту.

Што тычыцца іншых груп малочных прадуктаў, неабходна адзначыць, што забясьпечаньне рабочай каапэрацыяй насельніцтва малаком не атрымала дастатковага разьвіцьця па прычынах недастатковае прыстасаванасьці самой каапэрацыі і неакуратнасьці ў дастаўцы малака з боку асноўных загатоўцаў—Малакасаюзу і Сельтрэсту.

Агульнае спажываньне насельніцтва па 12 гарадох арыентыровачна складае 35 міл. клг. Звароты рабочае каапэрацыі ў 28-29 г. склалі 7 міл. клг., г. зн. ахоплена 20 проц. у сярэднім. Улічваючы, што ў больш дробных гарадох насельніцтва забясьпечваецца само, спажываньне буйных гарадоў здавальнялася каапэрацыяй трохі больш—прыкладам, у 25-28 проц.

У 29-30 г. ёсьць намер ахапіць патрэбы каапэраванага насельніцтва, прыкладам, на 50 проц.

Рашучае правядзеньне ў жыцьцё рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, як павялічэньне пунктаў, абанэмэнтная сыстэма з дастаўкаю на дом значна павялічыць якасьць абслугоўваньня, якое ў сучасны момант характарызуецца вельмі нізкай ацэнкай.

У зьвязку з перабоямі і недастатковым забясьпечаньнем насельніцтва маслам значна ўзрос попыт на галяндзкі сыр, звароты з якім рабочая каапэрацыя ў 28/29 г. значна пашырыла. Ня маючы вестак аб зваротах з сырам за папярэднія гады, адзначым, што Менскі ЦРК пашырыў звароты з 5000 пудоў у 1927/28 годзе да 11.000 пудоў у 28/29 годзе. Звароты ўсіх ЦРК за мінулы год выяўляюцца ў 450 тон, агульнай каштоўнасьцю ў 650 тысяч рублёў, у 1929/30 годзе вызначаецца давесьці звароты да 800 тон, што забясьпечыць норму ў 1,4 клг. на 1 душу каапэраванага насельніцтва.

Узьнікшы попыт на галяндзкі сыр і неабмежаванасьць кантынгентаў для яго задавальненьня ставяць пытаньне аб уцягненьні ў сфэру нармаванага водпуску і гэтага прадукту выключна каапэраванаму насельніцтву. Сэзоннасьць вытворчасьці галяндзкага сыру патрабуе рэзэрваваньня яго на зімні пэрыод каля 150 тон.

Далёка недастатковую ўвагу ўдзяляла рабочая каапэрацыя забясьпечаньню насельніцтва яйкамі. Апрача таго, разьвіцьцё працы з гэтай галінаю выклікала цяжкасьці неадпаведнасьці загатовак попыту, пры адсутнічаньні ў распараджэньні каапэрацыі спэцыяльных прыстасаваных памяшканьняў для хаваньня рэзэрваў. Прыкладны ахоп каапэрацыяй спажываньня яек рабочым насельніцтвам складае ў 27/28 годзе 13 проц., у 28/29 г.—35 проц., а ў 29/30 г. запраэктавана ахапіць 40 проц., што пры выключным водпуску каапэраванаму насельніцтву складзе 43 яйкі на 1 душу ў год. У агульным падлічэньні зварот рабочае каапэрацыі ўзрастае з 300 тысяч рублёў ў 1927/28 годзе і 500 тысяч рублёў у 28/29 г. да 800 тысяч рублёў ў 29/30 г. Неадпавядальнасьць паміж колькасным ростам ахопу спажываньня (60 проц.) і прыростам каэфіцыенту ахопу (ўсяго на 5 проц.) вытлумачваецца значна прадпалагаемым прыростам спажываньня гарадзкім насельніцтвам у 29-30 годзе з 26,4 тыс. скрынак у 28-29 г. да 30,2 тыс. скрынак у 29-30 г. Аднак-жа, выкананьне запраэктаваных каапэрацыяй звароту і ахопу спажываньня зьвязана з вылучэньнем ёй (каапэрацыі) з агульнага пляну загатовак у 20,8 тысяч скрынак ня менш 12 тысяч скрынак, як забясьпечваючы мінімальную норму на 1 душу каапэраванага насельніцтва ў год. З прычыны сэзоннага характару прапановы продажу яек вызначаецца назапасіць 2000 скрынак на зімовы час.

Пераходзячы да забясьпечаньня насельніцтва ўсімі відамі гародніны, неабходна адзначыць, што рынак гародніны, асабліва па частцы ёмістых культур, як бульба, агуркі, капуста і інш, надзвычайна мала ахоплен каапэрацыяй. Спажывец у значнай ступені па частцы задавальненьня сваіх патрэб у гародніне яшчэ зьвязаны з неарганізаваным рынкам. Прычына гэтага знаходзіцца ў інэртнасьці многіх арганізацый да разьвіцьця працы з гароднінай і часткова непадрыхтованасьці і недастатковасьці тэхнічнае базы для хаваньня запасаў на зімовы і вясеньні пэрыоды. Адсутнічаньне канкурэнтнай здольнасьці ў рабочай каапэрацыі на гароднінным рынку знаходзіць свой адбітак у тым, што восеньню, калі вытворцы выкідаюць на рынак значную колькасьць гародніны і танных фруктаў, каапэрацыя ня мае магчымасьці назапасіць іх і прапанаваць спажыўцу гэтыя прадукты па больш выгодных цэнах, чым на рынку, узімку і ўвясну. Усё ж нельга не адзначыць значнага росту зваротаў рабочае каапэрацыі за апошнія гады, калі яны (звароты) з гароднінай ўзрасьлі з 300 тысяч рублёў у 1927-28 г. да 1 міл. 100 тысяч рублёў у 1928-29 г., а ў 1929-30 г. ёсьць намер давесьці зварот да 1 міл. 500 тысяч рублёў. Ахоп каапэрацыяй выдаткаў рабочай сям'і на гародніну, па бюджэтных дадзеных ЦСУ, складае ў 1926-27 г. 1,5 проц., у 1927-28 г.—6 проц. і ў 1928-29 г.—32 проц.; па фруктах у тыя-ж гады—17 проц., 28 проц. і 50 проц. Неабходна адзначыць, што калі ў мінулыя гады рабочая каапэрацыя працавала амаль з завознымі дарагімі фруктамі, недаступнымі шырокаму спажыўцу, то ў 1929-30 годзе значна пашыраецца зварот за кошт мясцовае гародніны і фруктаў. Па бульбе намечана пашырыць зварот з 600 тысяч пудоў у мінулым годзе да 1500 тыс. пудоў у 1929-30 годзе. Пашырэньне зваротаў зьвязана з больш фарсаваным будаўніцтвам будынкаў для захаваньня гародніны і крамаў для продажу яе, якіх у сучасны момант не хапае.

Першараднае месца ў арганізацыі забясьпечаньня насельніцтва павінна быць адведзена арганізацыі матар'яльнага апарату разьмеркаваньня. У гэтай арганізацыі высоўваецца, як неабходная і неадкладная задача, пашырэньне крамачнай сеткі і запаўненьне тых пропускаў, якія стварыліся ў выніку недастатковага замяшчэньня каапэрацыйнаю сеткаю крам ліквідуемага прыватніка. У гэтых адносінах каапэрацыя не стварыла нармальных умоў для абслугоўваньня спажыўца асабліва сель.-гас. прадуктамі, што нават на сёньняшні дзень прымушае нас кваліфікаваць крамачную праблему, як найбольш вузкае месца ў працы каапэрацыі. Асабліва незапоўненымі застаюцца гарадзкія ўскрайны Нельга, бязумоўна, абмінуць тыя значныя дасягненьні, якія мае рабочая каапэрацыя БССР у пашырэньні крамачнай сетцы, нават у параўнаньні з сярэдня-саюзнымі паказальнікамі, што відаць з наступнай табліцы:

| | I/X—1928 г. | I/X—1929 г. | I/X—1930 г. |
|---|---|---|---|
| **I СЕТКА:** | | | |
| БССР: Лік гандлёвых адзінак | 535 | 848 | 1080 |
| Штогодны прырост у %% | +43 | +58,5 | + 27,3 |
| СССР: Штогодны прырост у %% | +32 | +24,2 | + 28,6 |
| **II. Колькасьць насельн. на 1 гандл. пункт:** | | | |
| БССР | 1045 | 690 | 555 |
| %% штогодн. зьмяншэньня | —26 | —34 | — 19,3 |
| Колькасьць штогодн. зьмяншэньня | —358 | —355 | — 135 |
| СССР | 1117 | 917 | 760 |
| %% штогодн. зьмяншэньня | | —16,7 | — 17,4 |
| Колькасьць штогодн зьмяншэньня | | —200 | — 157 |

З гэтае табліцы нам відавочна, што ўсе колькасныя і зьвязаныя з імі якасныя паказальнікі на баку БССР—колькасныя прыросты крамаў па БССР значна вышэй сярэдня-саюзных і ў адпаведнасьці гэтаму па БССР значна ніжэй колькасьць абслугоўваемага насельніцтва на 1 гандлёвы пункт. Зусім зразумела, што ўсё гэта абумоўлівае большыя затраты рабочай каапэрацыі на абслугоўваньне насельніцтва. У той час, як фонд заработнае платы ў параўнаньні да звароту складае па СССР 2,83 проц., рабочая каапэрацыя БССР выдаткоўвае на ўтрыманьне пэрсаналу 2,98 проц. ва ўмовах больш нізкага становішча па БССР, чым у сярэднім па Саюзе. Адгэтуль і вынікае больш нізкая рэнтабельнасьць рабочай каапэрацыі БССР у параўнаньні з рабочай каапэрацыяй Саюзу. Гэты бок пытаньня патрабуе больш пільнае ўвагі як з боку самае каапэрацыі, так і рэгулюючых органаў у сэнсе забясьпечаньня нармальных накапленьняў, тым больш, што разгортваньне працэсаў, зьвязаных з палепшаньнем абслугоўваньня спажыўца, павінна атрымаць сваё далейшае значна ўзмоцненае разьвіцьцё.

Агульнае разьвіцьцё сеткі рабочае каапэрацыі за апошнія гады і ў праэктыроўцы на 1929-30 год відаць з наступнае табліцы:

| | У абсалютнай велічыні | | | Абс. рост ці зьмяншэнне за год | | У %% да папярэдн. году | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1/X-28 г. | 1/X-29 г. | 1/X-30 г. | 1/X-29 г. | 1/X-30 г. | 1/X-29 г. | 1/X-30 г. |
| 1. Усяго гандлёвых адзінак | 535 | 848 | 1080 | +313 | +232 | +58,5 | +27,3 |
| У тым ліку сталых гандл. пунктаў (харчовых і нехарчовых) | 474 | 743 | 880 | +269 | +137 | +56,7 | +19,2 |
| У тым ліку ларкоў і палатак (харчовых і нехарчовых) | 61 | 105 | 200 | +44 | +95 | +72.1 | +90,5 |
| У тым ліку прадуктовых пунктаў | 351 | 533 | 643 | +182 | +110 | +52,0 | +20.6 |
| Насельніцтва на 1 краму | 1045 | 690 | 555 | —355 | —135 | —34,0 | —20.0 |
| У тым ліку на сталую | 1185 | 790 | 685 | —395 | —105 | —33,3 | —13,3 |
| Апрача таго: | | | | | | | |
| Разьв. латкоў і кіёскаў | 1 | 12 | 277 | +11 | +265 | — | — |

Даваць камэнтарыі да гэтае табліцы мы лічым лішнім, паколькі мы ўжо вышэй спыніліся на крамачнай сетцы. Мы жадалі толькі адзначыць запраэктыроўкі для 1929-30 году значнага росту сеткі ларкоў і палатак і развознага гандлю, як да гэтага часу, не атрымаўшых амаль ніякага разьвіцьця ў гарадох БССР, а разам з тым ўяўляючых у даных умовах найбольш гнуткую і даступную, з пункту фінансавых магчымасьцяў, форму абслугоўваньня насельніцтва. Значны эфэкт у выкарыстаньні крамачнай сеткі павінны будуць даць мерапрыёмствы, якія праводзяцца па пераводу гандлю на бесьперапынны тыдзень, $1^1/_2$ і 2-х зьменную працу. Пастаўленая перад рабочай каапэрацыяй задача па пераводу на бесьперапынны гандлёвы тыдзень ня менш 50 проц. гандлёвых прадпрыёмстваў павінна быць поўнасьцю ажыцьцёўлена. Зразумела, што пераход на бесьперапынны тыдзень, $1^1/_2$ і 2-хзьменную працу ў асноўным захопіць харчовыя пункты. Значна большую ўвагу прыдзецца зьвярнуць на ўнутраную рацыяналізацыю ўсіх працэсаў абслугоўваньня спажыўца. Гэта галіна працы зьяўляецца пакуль што непачатай. Нескарыстаны яшчэ ўсе магчымасьці, закладзеныя ў каапэрацыі, як масава-грамадзкай арганізацыі.

Мы, канешне, спыніліся ў гэтым артыкуле на асноўных пытаньнях, зьвязаных з пастаўленымі перад рабочай каапэрацыяй задачамі, на адным з адказнейшых і важнейшых яе вучасткаў. Ад якасьці працы і манэўраздольнасьці матар'яльнага апарату разьмеркаваньня ў абагуленым сэктары амаль цалкам увайшоўшага ў апарат спажкаапэрацыі, у значнай ступені залежыць найбольш поўнае забясьпечаньне рабочага насельніцтва; найлепшая арганізацыя спажываньня і ажыцьцяўленьне эканоміі ў выкарыстаньні харчовых рэсурсаў—на выкананьне гэтых задач павінна быць зьвернута ўся ўвага каапэрацыйнай і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці.

Л. Мазелеў

# Грамадзкае харчаваньне адстае ад магутнага тэмпу індустрыялізацыі БССР

Вялікае значэньне мае грамадзкае харчаваньне для шырокіх мас і для разьвіцьця народнай гаспадаркі. Асабліва важнае значэньне яно мае ў сучасны момант пры наяўнасьці харчовых цяжкасьцяў, а таксама ў сувязі з увядзеньнем непарыўнага тыдню працы, які пасуне наперад справу ломкі старога сямейнага укладу і цавялічыць попыт і цягу да грамадзкага харчаваньня. Гэта выклікае вострую неабходнасьць моцна ўзьняць тэмп разьвіцьця гэтай галіны гаспадаркі, паставіць яе на адпаведную вышыню з іншымі галінамі народнае гаспадаркі, з якімі яна, гэта галіна, непарыўна зьвязана.

Між тым гэтай галіне народнай гаспадаркі БССР яшчэ да гэтага часу не ўдзелена дастатковае ўвагі і канкрэтнае дапамогі да яе разьвіцьця з боку дзяржаўных установ і самой каапэрацыі. Дзякуючы гэтаму яна ідзе наперад маруднымі крокамі, самацёкам, і нават ёсьць тэндэнцыя да „затухаючага“ тэмпу яе разьвіцьця, у той час, як гэта галіна гаспадаркі яшчэ мае гіганцкія магчымасьці для свайго разьвіцьця.

Дадзеныя ЦСК за лістапад 1928 г. паказваюць разьмер выдаткаў на харчаваньне ў процантах да агульнай сумы ўсіх выдаткаў 47,6 проц. Грунтуючыся на гэтых дадзеных, выходзіць, што выдаткі на харчаваньне ўсіх рабочых і служачых (акрамя працуючых у с. г.) складаюць у год каля 77 міл. руб., а ў канцы пяцігодкі, прыкладна, 130 міл. руб., у той час, як зварот усіх сталоўняў, чайных за 1928-29 г. ледзь дасягае 6 міл. рублёў (а гэта ўжо па максымальнаму варыянту Белкаапсаюзу), а на 1932-33 г. вызначана каля 11 міл. руб. звароту па грамадзкаму харчаваньню. Таксама калі паглядзім штодзённы ахоп арганізаваных груп грамадзкім харчаваньнем, дык убачым гэтакі малюнак: па кантрольных лічбах дзяржплянам запраэктавана была на 1928-29 г. колькасьць найманых рабочых і служачых (акрамя працуючых у с. г.) 231 т., ня лічучы іх сямей (з апошнімі прыкладна будзе каля 600 т.), у той час, як за 1928-29 г. фактычна адпушчана каля 6,6 міл. абедаў, што складае ў сярэднім абслугоўваньне 18.000 чалавек у дзень, а запраэктавана ў 1932-33 г. абслугоўваньне 30.000 чал. у дзень, пры запраэктаванай колькасьці наёмнай рабочай сілы (бяз с.-г.) у БССР у 316 000 чал. (а з сем'ямі гэта будзе звыш 800 000 ч.). Ці нармальна гэтакая разьбежка, адставаньне? Ні ў якім разе. Гэта простая пагроза зрыву справы ўзьняцьця вытворчасьці працы, перабудовы быту, г. з. простая перашкода пасьпяховаму разьвіцьцю індустрыялізацыі краіны,

Асабліва ня можа здаволіць тэмп будаўніцтва грам. харчаваньня ў адносінах забесьпячэньня абслугоўваньня рабочых прамысловасьці. За апошнія гады колькасьць заводзкіх сталоўняў узьнімалася штогодна на

7 адзінак, пры чым гэткія былі заўсёды невялікай прапускной здольнасьці. На 1/X—1929 г. маецца гэтакіх 23 (з іх тры для сэзоньнікаў) з прапускной здольнасьцю ўсіх каля 6.000 абедаў у дзень, што зьяўляецца вельмі нязначнай цыфрай, параўнаючы з лікам фабрычна-заводзкіх рабочых.

Між тым красавіковы пленум (1929 год) ЦК КП(б)Б у рэзалюцыі па дакладу „аб прадукцыйнасьці працы і працоўнай дысцыпліне" адзначыў:

„У мэтах узмацненьня ўздыму прадукцыйнасьці працы і палепшаньня бытавых умоў рабочых мас, лічыць неабходным пашырыць і *палепшыць* арганізацыю рабочых сталоўняў... і г. д.".

Далей у гэтым-жа пункце II значыцца:

„У мэтах палепшаньня культурна-бытавых умоў рабочых, лічыць неабходным пры ўсіх буйных прадпрыемствах, што нанова будуюцца, будаваць памяшканьні для культурнай і бытавой работы (сталоўні і г. д.). Даручыць ВСНГ і ЦСПСБ у месячны тэрмін унесьці ў бюро ЦК свае канкрэтныя прапановы".

Здаецца, выразна сказана пра задачы ў галіне грамадзкага харчаваньня і нават даручана ў месячны тэрмін (і канкрэтна камусьці) унесьці ў бюро ЦК свае канкрэтныя прапановы, але гэтыя дырэктывы ЦК пакладзены пад сукно, і справа грам. харчаваньня працягвае разьвівацца гэтакім-жа куцым тэмпам (нават з убываючым тэмпам узросту), дзякуючы няўвазе да гэтай працы з боку ЦСПСБ, ЦП саюзаў, гаспадарчых органаў і самай каапэрацыі, якая шчэ дагэтуль праводзіць гэтую працу між іншым

Да гэтага яшчэ трэба дадаць, што плянам зусім не прадугледжваецца абслугоўваньне пралетарскага студэнцтва, беспрацоўных, дзяцей, саўгасаў і калгасаў. Само будаўніцтва ідзе саматужным парадкам. Будуюцца або запраэктаваны пабудовы сталоўняў з малой прапускной здольнасьцю, ня улічваючы прырост рабочых, а таксама і іх сямей і акрамя гэтага цэлы шэраг буйных прамысловых прадпрыёмстваў зусім не прадугледжаны па пляну абслугоўваньнем грамадзкім харчаваньнем. Адсюль прыходзіцца канстатаваць: няпрыгоднасьць пляну і неабходнасьць яго пераскладаньня з аптымальным варыянтам, з абавязковым удзелам у гэтай рабоце, а таксама фінансаваньні ВСНГБ. Асабліва заўважаюцца няўважлівыя адносіны з боку ВСНГБ, ЦБ Саюзаў і АПБ да справы грамадзк. харчаваньня (на пасланы ім яшчэ ў верасьні 1928 г. пасьля пастановы прэзыдыуму ЦСПСБ варыянт пяцігодкі па грамадзкаму харчаваньню, ніхто з іх ня даў свайго заключэньня па гэтаму пляну, вялікую памылку зрабілі, што ня была прыцягнута пралетарская грамадзкасьць да абгаварэньня гэтага пляну, што трэба зараз-жа выправіць.

Таксама цяжка гаварыць аб масавым ахопе рабочых і іх сямей грам. харчаваньнем, калі цэны усё яшчэ зьяўляюцца для значнай колькасьці іх недаступнымі. Большасьць абедаў адпушчаецца па цане 40-50 кап. У 1928-29 г. абедаў цаною да 35 кап. адпушчана было ўсяго 210 т., мяркуецца у 1929-30 г.—толькі 300 т.

Ад 35 да 54 кап.—5,3 міл., у 1929-30 г. вызначана 8,6 міл., ад 54 і вышэй 1 міл., вызначана 1,2 міл. Калі яшчэ прымем на ўвагу тое, што больш танныя абеды ў большасьці адпушчаюцца з меншай нормы прадуктаў, таксама абслугоўваньне пастаўлена горш, затым вялікія налічэньні на буфэтны водпуск, прыходзіцца зрабіць вывад аб неабходнасьці перагляду палітыкі цэн і прадастаўленьня ільгот для абедаў, адпушчаемых па заводах, у прыватнасьці, для нізка аплачваемых груп, шматсямейных і водпуску на дом. Зрабіць памяншэньне накідак на буфэтны водпуск, пры чым гэта галоўным чынам павінна пайсьці за лік рацыяналізацыі вытворчасьці і зьмяншэньня накладных выдаткаў. На дом адпушчаецца ўсяго каля 6 проц. (ў сярэднім) адпушчаемых абедаў і то не па ўсіх гарадох, што пры сучаснай перагрузцы сталовых нельга лічыць нармальным. Тлумачыцца гэта дарагоўляй

абедаў, непрадастаўленьнем ільгот для шматсямейных і тое, што некаторыя ЦРК не адпушчаюць абеды на дом па ільготным цэнам ў параўнаньні з водпускам ў сталоўні, а наадварот некаторыя умудраюцца так накінуць цэны на асобныя блюды, што калі возьмеш цэльны абед, то каштуе 45 к., а калі возьмешь блюда паасобку, дык абед выйдзе ужо 65 кап. і г. д. Упаўнаважаны Нархарч СССР па БССР, які павінен займацца рэгуляваньнем цэн, да гэтага часу гэтым пытаньнем не займаўся, таксама з боку Белрабсэкцыі не наладжана праверка выкананьня дадзеных ёй шматлікіх дырэктыў у гэтым напрамку.

Культае і арганізацыйны бок працы сталоўняў. Побач з дрэнным кіраўніцтвам сталоўняў з боку праўленьняў ЦРК, апошнія займаюцца дробязнай апекай над загадчыкамі сталоўняў, не прадастаўляючы ім адпаведных правоў. Затым загадчыкі сталовых часта атрымоўваюць пэнсію меней чым кухар сярэдняй рукі, што адбівае ў іх зацікаўленасьць да працы. Таксама слабы тэмп ўзняцьця вытворчасьці працы, які прадугледжаны на 5 год — 45 проц., у той час, як у прамысловасьці ня менш 100 проц., што сьведчыць аб адсутнічаньні рацыяналізацыі гэтай галіны гаспадаркі.

Яшчэ горш абстаіць пытаньне з кадрамі. У гэтым напрамку каапэрацыя праводзіць сабезаўскую лінію—чакае, пакуль саміна родзяцца кухары і адміністратары. Па самых мінімальных падліках для БССР патрабуецца на першыя чатыры гады ня менш 300 кваліфікаваных кухароў і 60 высокакваліфікаваных спэцыялістых (старшыя кухары, інструктары, загадчыкі сталоўняў і г. д.). Між тым мерапрыемствы, якія прымаюцца каапэрацыяй, настолькі нікчэмныя, што проста зьдзіўляе, няўжо можна быць настолькі блізарукім і сур'езна думаць добра весьці гаспадарку, ня маючы кадраў, ў якіх ужо на сёньняшні час маецца вострая патрэба Ня ідуць на сутрэчу гэтаму і не аказваюць дапамогі органы Наркамасьветы. У гэтым напрамку неабходна пайсьці па шляху арганізацыі па Менску, Гомелю і Віцебску ФЗВ па 30 чал., цэнтральных 6-ці месячных курсаў загадчыкаў сталоўняў і кухароў вузкай спэцыяльнасьці, для чаго асыгнаваць вызначаны Цэрабсэкцыяй СССР 1/2 процанту са звароту грам. харчаваньня, што ня будзе вельмі вялікім накладным выдаткам, а затое наведвальнікі атрымаюць новую масу культурных кваліфікаваных рабочых, якія будуць лепш іх абслугоўваць, чым зараз.

Яшчэ да гэтага часу не наладжаны навуковае дасьледваньне і рацыяналізацыя справы грамадзкага харчаваньня, якое ўпіраецца ў кансэрватыўнасьць Наркамздраву і яго інстытутаў, а таксама і неасыгнаваньне пэўнай сумы сродкаў з бюджэту на гэтую мэту Неабходна арганізаваць сапраўдную дапамогу (шэфства) адданых савецкай уладзе вучоных для садзейнічаньня разьвіцьцю, рацыяналізацыі і пастаноўцы на належную вышыню грам. харчаваньня, а таксама арганізаваць спэцыяльны інстытут харчаваньня пры НКАЗдароўя.

Інтарэсы рацыяналізацыі гэтай галіны гаспадаркі патрабуюць таксама рацыяналізацыі справы капітальнага будаўніцтва прадпрыемстваў грам. харчаваньня. Мэтад драбленьня атрымліваемых пазык для здавальненьня ўсіх гарадоў, які не даваў магчымасьці нікому што-небудзь эфэктыўна будаваць і зьнішчаў эфэктыўнасьць капіталаўкладаньняў, павінен быць зьнішчаны. У далейшым неабходна пайсьці па шляху буйнога будаўніцтва, якое дасьць пэўную эфэктыўнасьць ад капіталаўкладаньняў, а таксама дасьць магчымасьць рацыяналізаваць і зьменшыць выдаткі вытворчасьці і падзешавіць цану абедаў, зьнішчыўшы выпуск недобраякаснай прадукцыі, што зьяўляецца ў сучасны момант характэрным для ўсіх сталоўняў. Але гэта патрабуе ўстанаўленьня жорсткай дысцыпліны і адказнасьці каапэрацыйных арганізацый за справу мэтазгоднага і своечасовага скарыстаньня сродкаў на капітальнае будаўніцтва і рамонты, што на сёньняшні час адсутнічае,

Наяўнасьць гэтых вялікіх задач у галіне грам. харчав. перад каапэрацыяй патрабуе ўважлівага садзейнічаньня апошняй з боку ўсіх арганізацый. Неабходна, каб пры пераглядзе пяцігадовага пляну грамадзкага харчаваньня былі прадугледжаны па прамфінплянах ВСНГБ, а таксама і пры разьмеркаваньні ФУБР'У пэўныя сумы, вызначаныя на пашырэньне і палепшаньне існуючай сеткі сталоўняў і забясьпечаньне галоўным чынам абслугоўваньня рабочых прамысловасьці гарачымі абедамі. У гэтай справе, як мінімальны варыянт, трэба вызначыць падваеньне намечанае па варыянту БКС колькасьці водпуску абедаў у 32-33 г. замест 13 міл. ня меньш 25 міл. Таксама неабходна з удзелам Белпаляводсаюзу і Белкалгасцэнтру скласьці ўплян абслугоўваньня грам харчаваньнем саўгасаў, калгасаў, асабліва раёнах суцэльнай калектывізацыі. Пасьпяховае разьвіцьцё грам. харчав. патрабуе вялікае актыўнасьці з боку грамадзкасьці навокал гэтага пытаньня. Неабходна спэцыяльнай лістоўкай-брашурай, а таксама і пастаноўкай адпаведных дакладаў на рабочых сходах-канфэрэнцыях папулярызаваць справу грам. харчаваньня, арганізацыйна падрыхтаваць паступовы арганізаваны пераход рабочых фабрык на поўнае здавальненьне ў сталоўнях па меры росту апошніх. Неабходна ўсюды стварыць сталовыя камісіі, а таксама ўстанавіць добрае кіраўніцтва імі з боку ЦРК, чаго дагэтуль ня было. Трэба абавязкова стварыць курсы па падрыхтоўцы членаў сталовых камісій і культпрацаўнікоў для сталовых, чайных і гэтым забясьпечыць сталы грамадзкі кантроль над іх працай, пры чым для большай адказнасьці перад масай загадчыкаў сталовых і інструктароў неабходна практыкаваць выбарнасьць на сходах рабочых, якія сталуюцца ў дадзенай сталоўні, або на вытворчых сэкцыях сходаў упаўнаважаных, пры гэтым трэба найбольш выяўляючых сябе актывістых-членаў сталовых камісій высоўваць на адміністрацыйныя пасады ў сталоўнях, чым яшчэ больш забясьпечыцца сувязь сталоўняў з рабочай масай, а таксама ўстанавіць пэўную адказнасьць работнікаў сталовняў перад сваім сапраўдным гаспадаром—рабочай масай.

Хутка пытаньне аб грамадзкім харчаваньні будзе абгаварвацца ў дырэктыўных органах, дзе неабходна дамагчыся вырашэньня высунутае праблемы, паставіўшы гэту галіну народнае гаспадаркі на належную вышыню, каб яна магла выканаць пастаўленыя перад ёю задачы.

Каапэрацыя яшчэ да гэтага часу працавала ў гэтай галіне саматужна, ня здолела паставіць гэтую галіну гаспадаркі як належыць, кіруючыся на самацёк, што павінна быць катэгарычна зьнішчана.

Грамадзкае харчаваньне павінна зрабіцца масавым, і яго прадукцыя—добраякаснай, г. зн. зрабіцца сапраўдным „шляхам да камунізму".

---

З. Шац

# Становішча і пэрспэктывы грамадзкага харчаваньня

*(па Гомельскаму Цэрабкоопу)*

Усім вядома, што справа грамадзкага харчаваньня зьяўляецца аднэю з галоўных задач савецкага будаўніцтва.

Грамадзкае харчаваньне пры правільнай пастаноўцы дапамагае карэннай перабудове быту, падняцьці вытворчасьці працы, падвышэньню матар'яльнага ўзроўню рабочых мас, забясьпечвае эканомію выдаткаў на харчаваньне, а таксама дапамагае найбольш рацыянальнаму і эканомнаму скарыстаньню прадуктаў, што вельмі важна ў сучасны момант у зьвязку з цяжкасьцямі набыцьця прадуктаў харчаваньня.

Попыт на грамадзкае харчаваньне з кожным днём усё больш і больш узрастае. Ня гледзячы на тое, што ў параўнаньні з мінулым годам сетка прадпрыемстваў па грамадзкаму харчаваньню значна пашырана, прадпрыёмствы, якія існуюць у сучасны момант, не здавальняюць попыту спажыўцоў на грамадзкае харчаваньне.

Сетка прадпрыёмстваў Гом. ЦРК па грамадзкаму харчаваньню на сёньняшні дзень выяўляецца наступнымі адзінкамі: 5 сталоўняў, з якіх адна новапабудованая ў Новабеліцы і адна знаходзіцца ў месцы знаходжаньня вайсковай часткі, 1 кухня-разьмеркавальнік, 1 культурная чайная, 1 чырвонаармейская чайная, 2 буфэты пры прадпрыёмствах і 1 буфэт пры школе ў Новабеліцы. З гэтых прадпрыёмстваў штодня адпускаецца 8000 з лішнім адзінак.

Існуючыя сталоўні па свайму памеру не прыстасаваны да прыгатаўленьня раздачы такой вялікай колькасьці абедаў, сьнеданьняў і вячэры, якія яны гатуюць і адпушчаюць у сучасны момант. Такое становішча. бязумоўна адбіваецца на якасьці гатуемае стравы, стварае вялікія чаргі, а таксама адбіваецца на санітарным становішчы прадпрыёмства. Усё гэта разам узятае выклікае цэлы шэраг незадавальненьняў з боку спажыўца.

Улічваючы такое становішча, праўленьне Гом. ЦРК вызначае цэлы шэраг мерапрыемстваў па палепшаньню стану існуючых прадпрыёмстваў грамадзкага харчаваньня, а таксама вызначае плян пашырэньня сеткі па грамадзкаму харчаваньню на 1929-30 год.

Якія мерапрыёмствы зробіць ЦРК у адносінах ужо існуючай сеткі прадпрыёмстваў па грамадзкаму харчаваньню?

Трэба сказаць, што на сёньняшні дзень грамадзкім харчаваньнем, ня гледзячы на яго стратнасьць, карыстаецца ня толькі працоўнае насельніцтва, якое ў большасьці сваёй зьяўляецца пайшчыкам ЦРК, але і людзі, нічога агульнага з каапэрацыяй ня маючыя.

У бліжэйшы час гэта зьвішча будзе выпраўлена. Правам карыстаньня грамадзкім харчаваньнем па танейшай цане будуць карыстацца выключна пайшчыкі. Для гэтай мэты пайшчыкам будзе выдадзен адпаведны абанэмэнт, а для няпайшчыкаў будуць устаноўлены больш высокія цэны. Гэта мерапрыёмства часткова будзе дапамагаць зьмяншэньню дэфіцыту і дасьць больш выгады пайшчыку. Наогул тое, што ЦРК займаецца пытаньнем аб тым, каб для неарганізаванага спажыўца, г. зн. няпайшчыкаў, арганізаваць асобныя сталоўні па падвышаных цэнах з тэю мэтаю, каб існуючая сетка сталоўняў абслугоўвала выключна арганізаванага спажыўца г. зн. для пайшчыкаў каапэрацыі, дапаможа разгрузіць сталоўні. Распрацоўваецца пытаньне аб папярэднім продажы абанэмэнтаў на сьнеданьні, абеды і вячэры, што вызваліць ад лішняга стаяньня ў чарзе каля касы. Будзе перагледжана сыстэма водпуску абедаў у бок яе палепшаньня, будзе арганізавана кулінарная камісія з удзелам дактароў і цэлы шэраг другіх мерапрыёмстваў па абслугоўваньню і тэхніцы прыгатаўленьня абедаў.

Плянам ЦРК па грамадзкаму харчаваньню прадугледжана на 1929-30 г. наступнае:

1) распрацоўка праэкту і адшуканьня сродкаў для пабудовы ў Гомелі новай больш мэханізаванай сталоўні,

2) арганізацыя 2-х раённых кухняў-разьмеркавальнікаў у найбольш населеных пунктах, якія знаходзяцца на далёкай адлегласьці ад існуючай сеткі прадпрыёмстваў. Гэтыя кухні-разьмеркавальнікі павінны будуць адыграць вялікую ролю ў справе абслугоўваньня гарачымі сьнеданьнямі рабочых будаўнікоў. Гэта вельмі важна, бо ў бліжэйшыя гады на будаўнічых працах будзе занята вялікая колькасьць рабочых,

3) арганізацыя 4-х разьмеркавальнікаў гарачага харчаваньня пры вялікіх дамох-жактах



4) арганізацыя 3-х раённых чайных: адна сялянская для абслугоўваньня прыяжджаючых сялян у горад, адна ў Манастырку для абслугоўваньня жыхароў рабочага гарадку і адна ў горадзе,

5) адчыніць дыэта вэгетарыянскую сталоўню,

6) адчыніць дзіцячую сталоўню,

7) адчыніць сталоўню для абслугоўваньня пралетарскага студэнцтва,

8) арганізацыя пры кухнях-разьмеркавальніках і чайных продажу гарачага вару на вынас, пашырэньне сеткі чырвонаармейскіх чайных, а таксама пашырэньне сеткі буфэтаў пры школах і прадпрыёмствах, абслугоўваньне ня менш 10-ці прадпрыёмстваў гарачымі сьнеданьнямі, а таксама абслугоўваньне пляжу ў летні пэрыод часу.

Усе гэтыя мерапрыёмствы пры ўсё большым узрастаньні попыту на грамадзкае харчаваньне вельмі неабходны.

У першую чаргу праўленьне ЦРК высоўвае на першы плян арганізацыю трох сталоўняў: студэнцкай, дзіцячай і дыэта-вэгетарыянскай сталоўняў, бо ў сучасны момант у арганізацыі іх ёсьць найбольшая патрэба.

Улічваючы адсутнічаньне кваліфікаванай рабочай сілы па грамадзкаму харчаваньню і неабходных кваліфікаваных работнікаў у гэтай справе, галоўным чынам кухароў, Гомельскі ЦРК арганізаваў курсы кухарак, дзе вучацца 15 чалавек, а таксама ў бліжэйшы час павінна быць адчынена прафтэхшкола кухароў на 30 чалавек.

Зусім зразумела, што сам ЦРК правесьці ў жыцьцё ўсе намечаныя мерапрыёмствы, нават арганізацыю толькі студэнцкай, дыэта-вэгетарыянскай і дзіцячай сталоўні, адзін ня здолее. У справе разьвіцьця грамадзкага харчаваньня ЦРК патрэбна аказаць максымальную зацікаўленасьць, а таксама і матар'яльную дапамогу з боку ўсіх зацікаўленых органаў— гарсавету, саюзных арганізацый, органаў нарасьветы і аховы здароў'я. Прамысловасьць таксама павінна прымаць удзел у гэтай справе. Развозка сьнеданьня на прадпрыёмствы выклікае значныя выдаткі, а таму частка фонду палепшаньня быту рабочых павінна быць адпушчана на гэту справу.

Грамадзкае харчаваньне патрабуе да сябе большае ўвагі. Неабходна арганізаваць камісію, якая-б ведала пытаньнямі грамадзкага харчаваньня, з прадстаўнікоў: ГЦРК, акрпрафсавету, гарсавету, нарасьветы і аховы здароў'я. Толькі пры канцэнтрацыі сіл і сродкаў мы справімся з тымі задачамі, якія стаяць перад намі ў галіне пастаноўкі на належную вышыню вельмі важнае справы—справы грамадзкага харчаваньня.

**Індустрыялізацыя нашае краіны і калектывізацыя савецкае вёскі—галоўны шлях умацаваньня абароназдольнасьці СССР.**

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Ваўкавіцкі

## Папярэднія вынікі выкананьня рацмінімуму спажыўсыстэмы

Палепшаньне абслугоўваньня спажыўца, барацьба з чаргамі зьяўляецца сталай задачай каапэрацыйных арганізацый, і ў гэтым кірунку павінна весьціся штодзённая праца з боку апошніх.

Ні для каго не сакрэт, што чаргі ў большасьці сваёй ствараюцца таму, што ў спажыўсыстэме абслугоўваньне спажыўца пастаўлена не на належную вышыню. Неарганізаванасьць і непарадкі ў гандлёвай працы часта-густа ствараюць чаргі і справядлівыя нараканьні з боку спажыўца. Па пытаньні абслугоўваньня спажыўца адпаведнымі органамі былі дадзены шэраг дырэктыў. У прыватнасьці, праўленьне БКС, прэзыдыум Белрабсэкцыі, на аснове дадзенага Цэнтрасаюзам абавязковага рацмінімуму, яшчэ ў пачатку верасьня распрацавалі канкрэтныя ўстаноўкі для кожнага ЦРК у асобнасьці, забясьпечваючыя палепшаньне абслугоўваньня спажыўца. Ня гледзячы на ўсё гэта, большасьць ЦРК і да гэтага часу працягваюць не ўдзяляць увагі такому важнаму і сур'ёзнаму пытаньню.

Зробленае спэцыяльнае абсьледваньне апаратам БКС выявіла, што выкананьне рацмінімуму па гарадзкой сетцы адбываецца недастатковым тэмпам і зусім слаба па сельскай сетцы. Калі што-колечы і зроблена, то аб гэтых мерапрыемствах ніхто ня ведае, бо яны прапрацоўваюцца і праводзяцца апаратным шляхам. Каапэрацыйны актыў ня прыцягнуты да ўдзелу ў правядзеньні рацмінімуму.

У такім буйным ЦРК, як у Гомельскім, ня было зроблена ніводнага дакладу аб рацмінімуме на сходзе актыву. Нават асобныя загадчыкі магазынаў ня ведаюць аб наліччы такога рацмінімуму і што ён з сябе ўяўляе. Шмат якімі ЦРК ня былі складзены канкрэтныя пляны правядзеньня рацмінімуму. З 12-ці ЦРК толькі ў 5-ці былі складзены гэтыя пляны. У выніку нестварэньня грамадзкае думкі вакол рацмінімуму, маем такія факты, калі асобныя працаўнікі прылаўку Рэчыцкага ЦРК ставілі такое пытаньне: „нам ніякія рацмінімумы не патрэбны, дайце пабольш тавараў, тады ня будзе чаргі". Гэта прышлося чуць у такім ЦРК, дзе чарга ствараецца ў большасьці сваёй дзякуючы неарганізаванасьці і непарадкам у гандлёвым абслугоўваньні, дзе правядзеньне рацмінімуму дало-б значныя вынікі ў барацьбе з чаргою.

У крамах ЦРК ствараюцца чаргі за атрыманьнем хлеба таму, што хлебапякарня не пасьпявае развозіць хлеб па крамах. Так, 29 кастрычніка ў крамах адсутнічаў хлеб, стварыўся панічны настрой. Зараз-жа зьявілася чарга ў чаканьні хлеба, прадаўцы хваляваліся, бегалі па краме і крычалі пра вынікі галавацяпства нашага праўленьня.

Ня будзем ужо спыняцца на якасьці печанага хлеба. Гэта пытаньне амаль усюды зьяўляецца хваравітым. У Рэчыцкім ЦРК у адзін прыгожы дзень пекары сапсавалі 4000 кілё хлеба, у Бабруйскім ЦРК 9 лістапада пайшчык № 1020 прынёс у праўленьне куплены ў краме ЦРК хлеб, у якім у сярэдзіне знойдзены быў цьвік, гэты-ж пайшчык заявіў, што месяц таму назад ён знайшоў у хлебе іголку з ніткаю.

Вось як звярочваецца ўвага на выпуск печанага хлеба. Па гэтым пытаньні трэба ўжыць рашучыя меры, трэба раз назаўсёды пакончыць з гэтым злом.

З 12-ці ЦРК толькі ў 2-х (Менскім і Бабруйскім) вылучаны асобы, адказныя за правядзеньне рацмінімуму. Адгэтуль можна зрабіць вывад, якая ўвага ўдзяляецца пытаньню рацмінімуму.

Відавочна, што асобныя працаўнікі не ўсьвядомілі важнасьці і значэньня правядзеньня рацмінімуму.

Ніводнае праўленьне, за выключэньнем Бабруйскага ЦРК, не заслухала папярэдніх вынікаў выкананьня рацмінімуму.

Такое мерапрыемства рацмінімуму, як трыманьне крам у чыстаце, асобнымі ЦРК яшчэ не праводзіцца ў жыцьцё. У Мазырскім ЦРК крама знаходзіцца далёка ня ў чыстым выглядзе.

Папярэдняе разважваньне тавараў у асобных ЦРК слаба разьвіта таму, што працаўнікі ня ўлічваюць таго, якое вялікае значэньне ў сэнсе паскарэньня водпуску тавараў спажыўцом можа адыграць папярэдняе разважваньне. Так, зробленае абсьледваньне Цэнтрасаюзам хуткасьці водпуску тавараў паказала, што паштучныя тавары, як папяросы адбіраюць у прадаўца 5-8 сэкунд, запалкі—5-10 сэкунд, чай—3-4 сэкунды, хлебнае віно—10-11 сэк., сшыткі—5-6 сэк., а развokажаныя: мука—45 сэк., цукравы пясок—37-40 сэк., цукар-рафінад—30-40 сэк., соль—50-54 сэк.

Адгэтуль відаць, што тавары, якія патрэбна разважваць, патрабуюць у 5-6 раз больш часу на водпуск, чым тавары паштучныя.

Калі ўсе гэтыя тавары раней разважваць, то яны па хуткасьці водпуску могуць быць прыраўнаваны к паштучным таварам. Недастаткова прапрацавана пытаньне аб рэарганізацыі тэхнікі гандлю. У Аршанскім ЦРК дзеля атрыманьня булкі за 8 кап. прыходзіцца прастойваць падвойную чаргу.

Такім чынам, з матар'ялаў абсьледваньня прыходзіцца канстатаваць, што ў адносінах якаснага палепшаньня абслугоўваньня спажыўца, пакуль прароблена недастатковая праца, і тут яшчэ ёсьць неабсяжнае поле дзейнасьці, і ў бліжэйшы час усе мерапрыемствы, прадугледжаныя рацмінімумам, павінны быць ажыцьцёўлены. Зусім зразумела, што сыстэма не павінна абмежавацца рацмінімумам і ў сэнсе палепшаньня абслугоўваньня спажыўца павінна весьці сталую штодзённую працу.

Адначасова трэба адзначыць, што не ва ўсіх ЦРК ёсьць спэцыяльныя рацыяналізатары. У Гомельскім ЦРК да гэтага часу ня вылучан працаўнік па рацыяналізацыі. У Бабруйскім ЦРК на рацыяналізатара ўсклалі функцыі кантралёра.

Побач з гэтым ёсьць аб'ектыўныя ўмовы, якія тармозяць сваячасовае і поўнае правядзеньне рацмінімуму, а менавіта: адсутнічаньне падрыхтаваных кадраў працаўнікоў прылаўку. У Рэчыцкім ЦРК прышлося зачыніць краму на ўскрайне толькі таму, што адзіны працаўнік крамы захварэў.

У зьвязку з адсутнічаньнем падрыхтаваных кадраў працаўнікоў прылаўку нельга стварыць рэзэрваў. Такі буйны ЦРК, як Менскі, ня мае рэзэрву.

Далей адсутнічаньне садзейнічаньня з боку мясцовых арганізацый у прадастаўленьні крамачных памяшканьняў. Мазырскі Гарсавет чамусьці дае крамачныя памяшканьні ўсім арганізацыям, толькі ня ЦРК.

Якія колькасныя паказальнікі па гарадзкому сэктару на 1 лістапада ў параўнаньні з паказальнікамі на 1 жніўня, г. зн. пасьля таго часу, як быў уведзен рацмінімум.

| ГАНДЛЁВАЯ СЕТКА | На 1 жніўня | На 1 лістапада | % павяліч. |
|---|---|---|---|
| Харчовыя магазыны | | | |
| у тым ліку спэц. крамы | 515 | 544 | 7,5 |
| а) хлебныя | 84 | 86 | — |
| б) мясныя | 124 | 136 | — |
| в) гародніны | 26 | 32 | — |
| Не харчовыя крамы | 199 | 226 | 13,6 |
| Усяго | 714 | 770 | 7,8 |

На 1 лістападаназіраецца павялічэньне крам на 56 адзінак, з якіх 29 за кошт харчовых і 27 за кошт так званых мяшаных магазынаў.

Колькасьць палатак, кіёскаў і ларкоў павялічылася на 1 лістапада ў параўнаньні з лікам на 1 жніўня на 35,3 проц. (на 1 жніўня—184, на 1 лістапада—249).

Дзеля атрыманьня малюнку аб сетцы прывядзём паказальнік пра колькасьць насельніцтва на адну краму і адну гандлёвую адзінку па асобных ЦРК.

| НАЗВА АРГАНІЗАЦЫІ | Колькасьць гарадзк. насельніцтва на 1/VIII | | Колькасьць гарадзкога насельніцтва на 1/XI | |
|---|---|---|---|---|
| | На 1 краму | На 1 гандл. адзінку (кольк. ларкоў, кіёск і палат) | На 1 краму | На 1 гандл. адзінку |
| Менскі ЦРК | 812 | 712 | 730 | 603 |
| Віцебскі „ | 852 | 575 | 780 | 433 |
| Гомельскі „ | 863 | 838 | 838 | 815 |
| Бабруйскі „ | 755 | 500 | 737 | 450 |
| Аршанскі „ | 783 | 710 | 722 | 612 |
| Мазырскі „ | 420 | 310 | 384 | 300 |
| Магілеўскі „ | 700 | 583 | 626 | 540 |
| Полацкі „ | 807 | 471 | 709 | 430 |
| Барысаўскі „ | 646 | 615 | 574 | 517 |
| Добрускі „ | 512 | 410 | 410 | 362 |
| Рэчыцкі „ | 448 | 368 | 448 | 368 |
| Шклоўскае гар. спаж. т-ва | 354 | 342 | 342 | 312 |
| Усяго па ўсіх ЦРК | 746 | 600 | 700 | 508 |

З паказаных дадзеных відаць: а) што ў Гомельскім ЦРК сетка недастаткова яшчэ разьвіта; б) што на 1/XI колькасьць насельніцтва на адну краму ўсяго зьменшылася на 46 і што ў прамысловых цэнтрах колькасьць насельніцтва на 1 краму яшчэ вялікая. Праўда, значна пашырылася ларковая і палатачная сетка, якая палягчае нагрузку крамачнай сеткі.

Параўноўваючы колькасьць працаўнікоў па асобных ЦРК на 1/VIII і на 1/XI, атрымаем наступны малюнак:

| НАЗВА АРГАНІЗАЦЫІ | Колькасьць працаўнікоў прылаўку на 1/VIII | Колькасьць працаўнікоў прылаўку на 1/XI | Колькасьць жыхароў на 1 працаўніка прылаўку на 1/VIII | Колькасьць жыхароў на 1 працаўніка прылаўку на 1/XI |
|---|---|---|---|---|
| Менскі ЦРК | 804 | 1128 | 177 | 120 |
| Віцебскі „ | 623 | 832 | 155 | 119 |
| Гомельскі „ | 669 | 642 | 152 | 135 |
| Бабруйскі „ | 286 | 320 | 179 | 160 |
| Мазырскі „ | 64 | 72 | 150 | 135 |
| Полацкі „ | 128 | 160 | 218 | 175 |
| Добрускі „ | 25 | 25 | 206 | 206 |
| Рэчыцкі „ | 159 | 115 | 152 | 143 |
| Усяго па 8 ЦРК | 2608 | 3294 | У сярэд. 163 | У сярэд. 130 |

На 1/XI рост працаўнікоў прылаўку выяўляецца ў памеры 26 проц., ці павялічэньне на 686 чал. Адгэтуль відаць, што было зроблена дадатковае ўкамплектаваньне апарату і ў зьвязку з гэтым зьменшылася колькасьць жыхароў на 1 працаўніка прылаўку на 20 проц. Адстае Гомельскі і Бабруйскі ЦРК. У першым яшчэ не ўстаноўлены цьвёрдыя штаты

для кожнае крамы і магазыну. Становішча там такое: загадчык магазыну ня ведае, які штат ён мае. Вельмі часта адбываецца перакіданьне працаўнікоў з аднае крамы ў другую. Адзін з працаўнікоў прылаўку у працягу месяца столькі разоў пераходзіў з аднае крамы ў другую, што ўвесь час быў затрачан на гэта, і бухгальтэрыя ня ведала, як выплачваць яму зарплату. У Бабруйскім ЦРК ёсьць падрыхтоўчыя памяшканьні дзеля адчыненьня новых крам і апошнія не адчыняюцца з прычыны адсутнічаньня падрыхтаваных кадраў. Гэта пытаньне зьяўляецца вострым *амаль* ва ўсіх ЦРК.

Значны зрух назіраецца ў сэнсе перавядзеньня крамачнай сеткі на бесьперапынны тыдзень і павялічаныя гадзіны гандлю. Вынікі па асобных арганізацыях маюць такі выгляд:

| НАЗВА АРГАНІЗАЦЫІ | % пераводу крам на бесьперапын. тыдзень | | % пераводу на 2 зьмены | | % перав. на павяліч. гадз. гандл. (10—12 г.) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1/VIII | На 1/XI | На 1/VIII | На 1/XI | На 1/VIII | На 1/XI |
| Менскі ЦРК | 1,2 | 42,2 | 14,8 | 36.6 | 11,1 | 28.3 |
| Віцебскі „ | — | 53,1 | 8,0 | 23.0 | — | 8,0 |
| Гомельскі „ | 22,0 | 75,7 | 19,0 | 18.4 | 39,0 | 42,7 |
| Бабруйскі „ | — | 30.0 | 7,3 | 8,4 | 4,4 | 4,3 |
| Аршанскі „ | 3,6 | 48,3 | — | 10,0 | 10,7 | 28,8 |
| Мазырскі „ | — | 52,0 | 17,4 | 16,0 | — | 4,0 |
| Магілеўскі „ | 25.0 | 67,5 | 12.3 | 22,5 | 2.7 | 21,2 |
| Полацкі „ | 6.2 | 25,6 | 15,6 | 17,1 | 6,2 | 8,5 |
| Барысаўскі „ | 10,0 | 17,7 | 17,5 | 20,0 | 2,5 | 4,4 |
| Добрускі „ | — | 33,3 | — | — | — | 6,6 |
| Рэчыцкі „ | 2,7 | 18,8 | 5,4 | 5,4 | 5,4 | 13,5 |
| Шклоўск. гар. спаж. т-ва | — | 46,2 | — | — | — | — |
| Усяго | 7,0 | 47,1 | 11,9 | 21,6 | 9,9 | 12,0 |

У галіне пераводу сеткі крам на бесьперапынны тыдзень і на павялічаныя гадзіны гандлю, першае месца займае Гомельскі ЦРК, дзе на бесьперапынны тыдзень пераведзена 75,7 проц. сеткі крам і на павялічаныя гадзіны гандлю—61,1 проц.

Якія-ж пэрспэктывы?

Па складзенаму пляну да 1/XII вызначаецца далейшае пашырэньне сеткі, пераводу на бесьперапынку і на павялічаныя гадзіны гандлю, а менавіта:

| ГАНДЛЁВАЯ СЕТКА | На 1/VIII | На 1/XII | % павялічэньня |
|---|---|---|---|
| Хлебныя крамы | 84 | 96 | 14,3 |
| Гародніны | 26 | 32 | 73,0 |
| Мясныя | 124 | 136 | 28,2 |
| Нафтавыя | 19 | 35 | 84,2 |
| Харчовыя | 269 | 293 | 8,8 |
| Абутак скураны | 17 | 23 | 35,2 |
| Мануфактурныя і галянт. | 40 | 43 | 7,5 |
| Мяшаныя | 135 | 161 | 19,5 |
| Усяго | 714 | 853 | 18,5 |

Па пляну да 1/XII прадуктовая сетка намечана да пашырэньня на 10,7 проц. Сетка ларкоў, палатак і кіёскаў вызначана к павялічэньню на

51 проц. Некаторы зрух вызначаецца ў сэнсе развозкі тавараў. На 1/VIII было ўсяго 8 развозак, а к 1/XII вызначаецца давесьці колькасьць іх да 24.

У выніку колькасьць насельніцтва на 1 краму будзе 624 і на 1 гандлёвую адзінку—470.

На бесьперапынку да 1/XII вызначаецца перавесьці 53,9 проц. На 2-х зьменны гандаль—20,6 проц. і на павялічаныя гадзіны гандлю (10—12 гадзін)—26 проц.

З боку ЦРК павінны быць ужыты ўсе захады да выкананьня гэтага пляну. Трэба па прыкладу Менскага ЦРК стварыць брыгады з каапэрацыйнага актыву дзеля праверкі выкананьня мерапрыемстваў, абумоўленых рацмінімумам. Патрэбна ў кожнай краме вылучыць асоб, адказных за правядзеньне рацмінімуму і пэрыодычна заслухоўваць іх даклад аб ходзе выкананьня. Вакол гэтага пытаньня неабходна разварушыць грамадзкую думку.

## Па вясковаму сэктару

Выкананьне рацмінімуму знаходзіцца на мёртвым пункце. Дырэктывы аб правядзеньні рацмінімуму ня былі рэалізаваны да часу абсьледаваньня. Большасьць спажтаварыстваў ня ведалі аб наяўнасьці рацмінімуму. Праўленьне БКС у сваёй пастанове зусім выразна і яскрава падкрэсьліла, што каап. арганізацыі ня прысвоілі тэй вялізнай ролі выкананьня мерапрыемстваў, абумоўленых рацмінімумам у справе абслугоўваньня спажыўца ва ўмовах бурнага росту нашае прамысловасьці і рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Ці ёсьць у нас ненармальнасьць і недахоп у тэхніцы абслугоўваньня вясковага спажыўца? На гэта пытаньне кожны, які мае датычнасьць з нізоўкаю, адкажа, што ёсьць і нават шмат. Санітарнае становішча крамаў далёка не здавальняе вымаганьняў. Прыбіраньне крамаў амаль не адбываецца. Тавары раскладаюцца няправільна, і на грунце гэтага атрымліваецца брак і сапсаванасьць. Існуюць яшчэ і каапэрацыйныя пустыні і селяніну бедняку даводзіцца хадзіць некалькі вёрст, каб купіць некалькі скрынак запалак, ці пару фунтаў солі. Раённыя крамы амаль усюды прыяжджаюць за таварам у цэнтральную краму ў дні вялікага наплыву пакупнікаў. Гадзіны гандлю не прыстасаваны да патрэб насельніцтва. Па складзенаму пляну правядзеньне рацмінімуму па сыстэме вясковае сеткі вызначана да 1/I-30 году.

| | |
|---|---|
| Пашырыць сетку крамаў на | 15,7% |
| „ „ ларкоў на | 165% |
| Перавесьці на бесьперапынны тыдзень | 11,2% |
| Перавесьці на павялічаныя гадзіны гандлю | 4,4% |
| Арганізаваць | 174 развозкі |

Калі на 1/VIII колькасьць гаспадарак на 1 краму складала 356, дык на 1/I складае 316.

Саюзамі павінны быць прыняты ўсе захады да забясьпечаньня выкананьня вызначанага пляну.

Адначасова з гэтым павінны быць праведзены ўсе мерапрыемствы, прадугледжаныя рацмінімумам.

У правядзеньні рацмінімуму павінен быць зроблен пералом.

Неабходна прыцягнуць каапэрацыйны актыў для ўдзелу ў правядзеньні рацмінімуму.

Д. Нісуноў

# Нашы дасягненьні і недахопы

(*з вынікаў працы 7-ай сэсіі савету Вітсампрамсаюзу*)

Саматужна-прамысловая каапэрацыя Віцебскай і Полацкай акруг, якая аб'яднаецца Віцебскім сампрамсаюзам, за 1928-29 гаспадарчы год (па дадзеным за 3 кварталы: кастрычнік-ліпень), мае значныя дасягненьні як у арганізацыйных, гэтак і ў вытворчых адносінах.

Лік каапэраваных саматужнікаў узрос з 6.485 чал. да 6.965 чал., альбо на 7,4 проц., у тым ліку ў арцелях з 1.424 чал. да 2.143 чал., альбо на 50,3 проц., пры зьмяншэньні членаў у крэд.-прам. т-вах на 5 проц., у сувязі з уцягненьнем іх у арцелі, Каапэраваньне ў арцелі асабліва інтэнсыўна праходзіла ў мястэчках, дзе яно, дзякуючы мерапрыемствам па гаспадарчаму ўпарадкаваньню, дало рост у параўнаньні з мінулым годам на 88 проц.

Лік арцеляў павялічыўся з 99 да 111 адзінак, альбо на 12 проц., пераважна, за рахунак арганізацыі прамыслаў, якія працуюць на мясцовай сыравіне (цагляныя і смалакураныя арцелі)

Вытворчасьць арцеляў за 3 кварталы 1928-29 году дасягнула сумы ў 3.892.000 руб. супроць 2.760.000 руб. за ўвесь 1927-28 год., г. зн. больш на 41 проц.

Уласныя сродкі арцеляў павялічыліся з 257.800 руб. да 471.500 руб., альбо на 83 проц., у тым ліку паявы капітал з 128.250 руб. да 202.000 р., альбо на 57 проц. З прычыны пераважнага каапэраваньня беднаты, нядоімка па паям засталася стабільнай—35 проц. да статутнага паю, а сярэдні ўнесены пай на 1 члена арцелі з 90 руб. павялічыўся толькі да 94 р., альбо на 4,5 проц.

Уласныя сродкі ў крэд.-прам. т-вах узрасьлі на 11,3 проц. і паявы капітал—на 18 проц., пры чым нядоімачнасьць па паям зьнізілася з 34,6 проц. да 28,4 проц.

Увесь зварот Вітсампрамсаюзу за 3 кварталы дасягнуў сумы 4.984.000 р. супроць 3.482.000 руб. за ўвесь 1927-28 год, гэта значыць больш на 43 проц., пры чым па забесьпячэньню сыравінай, склаў 95,5 проц. мінулагодняй сумы, а збыт перавысіў на 110 проц., гэта значыць больш чым падвоіўся.

Паявы капітал Саюзу павялічыўся на 43 проц., пры зьніжэньні нядоімкі з 40 проц. да 28.4 проц. Уласныя сродкі далі рост у 94 проц.

Адзначаючы гэты дасягненьні саматужнай прамысловасьці Віцебскай і Полацкай акруг, 7-ая сэсія савету Вітсампрамсаюзу, якая адбылася ў другой палове кастрычніка месяца г. г. у мястэчку Бешанкавічы, пры шырокім і актыўным удзеле мястэчковых саматужнікаў, галоўную сваю ўвагу згрупавала на чарговых задачах разьвіцьця сампрамкаапэрацыі і пазбаўленьня недахопаў, якія яшчэ назіраюцца ў сыстэме.

У асяродку працы сэсіі стаялі пытаньні аб рабоце з беднатой, далейшай чыстцы сыстэмы ад кулацка-*нэпманскіх* элемэнтаў, разьвіцьці промыслаў, якія працуюць на мясцовай сыравіне, мерапрыемствах па сацыялістычнаму спаборніцтву, падняцьці вытворчасьці працы, зьніжэньні сабекаштоўнасьці і палепшаньні якасьці прадукцыі, намнажэньні ўнутраных рэсурсаў, забесьпячэньні сыравінай і збыце прадукцыі, палепшаньні пастаноўкі інструктарскай справы, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы актыву прамкаапэрацыі і рахункаводных працаўнікоў, а таксама ўзмацненьні культпрацы.

У рабоце с беднатой, хаця і ёсьць значны зрух, аднак за ім яшчэ не забясьпечан кіруючы пачатак у дзейнасьці арцеляў. Бедната павінна ня толькі колькасна перавышаць іншыя сацыяльныя групы ў арцелях, але яна павінна складаць кіру-

ючае ядро ўва ўсіх зьвеньнях сыстэмы. Беднаце ў большай ступені чужыя ўласьніцкія прыватна-капіталістычныя інстынкты і імкненьні, якія ўжо ў шмат лікіх выпадках прыводзяць арцелі да цэхавай замкнёнасьці і грамадзкай абмяжованасьці.

Нязноснасьць гэткага становішча яскрава вынікае з таго, што некаторыя арцелі прысвоілі і праяўляюць „собесовский" падыход да свайго Саюзу, што зьяўляецца пэўным тормазам у далейшым разьвіцьці сампрамкаапэрацыі.

У шчыльнай сувязі з работай па каапэраваньні беднаты пастаўлена задача рашучай чысткі ад кулацка-нэпманскіх элемэнтаў, якія яшчэ поўнасьцю ня выжыты з арцеляў, заменьваючы вычышчаных беднатой. Каб надаць гэтай рабоце сыстэматычны характар і папярэдзіць у далейшым магчымасьць пранікаьня ў арцелі чужога элемэнту, пры крэдытна-прамысловых т-вах складзены спэцыяльныя камісіі па адбору кандыдатаў у арцелі.

Несуразьмерны рост арцельнага сэктару ў галінах прамысловасьці, якія працуюць на дэфіцытнай сыравіне, з прычыны недахопу гэтае сыравіны, не дазваляе захаваць раней-шы тэмп каапэраваньня ў гэтых промыслах і ставіць, як неадкладную задачу, перамяшчэньне цэнтру арганізацыйнай работы Саюзу ў галіны прамысловасьці, якія працуюць на мясцовай сыравіне.

Апрача цяжкасьцяў у забясьпечаньні арцеляў дэфіцытнай сыравінай, (тэкстыль і скурсыравіна) пераапрацоўка якой ў значнай меры ахоплена дзяржпрадпрыемствамі,назіраецца адсталасьць промыслаў, якія працуюць на мясцовай сыравіне. Інэртнасьць, якую здабыло разьвіцьцё промыслаў на дэфіцытнай сыравіне, з прычыны высокай кан'юнктуры рынку, павінна зьмяніцца стабілізацыяй дасягнутага ўзроўню ў гэтых промыслах, пры адначасовым фарсаваным разьвіцьці тых галін прамысловасьці, якія працуюць на мясцовай сыравіне (смалакурэньне, апрацоўка дрэва, вытворчасьць агнятрывалых матар'ялаў, утылізацыя адходаў і г. д.).

У мэтах дасягненьня найбольш рацыянальнага кіраваньня арцелямі, прызнана неабходным паглыбіць вопыт аб'яднаньня арцеляў з аднароднай вытворчасьцю і вывучыць пытаньне аб стварэньні ў мястэчках аб'яднанага кіраўніцтва арцеляў. Гэтым дасягаецца ўзмацненьне кіраўніцтва, палепшаньне рахункаводзтва і справаздачнасьці, канцэнтрацыя зваротных сродкаў, а таксама снабжэньня і збыту і памяншэньне агульна-адміністрацыйных і гандлёвых выдаткаў.

Значнае адставаньне ўнутраных капіталанамнажэньняў у арцелях пры шпаркім росьце вытворчасьці, прывяло да надзвычайна напружанага грашовага становішча як у нізавой сетцы, гэтак і ў Саюзе.

Цяжкае фінансавае становішча Саюзу падвойваецца яшчэ і тым, што з прычыны абмяжованасьці ўласных зваротных сродкаў у арцелях і недастатковасьці для іх вучотнага ліміту ў крэдытных установах, Саюзу прыходзіцца прадастаўляць арцелям больш льготныя ўмовы разрахунку, чым ён іх атрымлівае сам. Пагэтаму збор паявых узносаў і мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў набываюць першаступянёвае значэньне. Дзеля таго, каб паявы ўзнос ня быў цяжкім, для беднаты ў гэтым годзе ўводзіцца дыфэрэнцыяваны пай у разьмеры сярэдняга 2 месячнага заработку для гарадзкіх і местачковых арцеляў і месячнага— для сельскіх.

Мерапрыемствы па сацыялістычнаму спаборніцтву яшчэ ня атрымалі належнага адбітку ў рабоце сыстэмы. Рабочы дзень працягвае па ранейшаму заставацца ў шмат якіх арцелях не ўкамплектаваным, нават і пры наліччы для гэтага поўнай магчымасьці, галоўным чынам, з прычыны адсутнасьці рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і слабасьці ўнутранай дысцыпліны. Якасьць прадукцыі не дасягнула чакаемага ўзроўню. Пры больш, альбо менш нармальнай кан'юнктуры рынку і паслабленьні попыту на тыя ці іншыя тавары (а гэтага

магчыма чакаць у недалёкім будучым з прычыны бурнага росту вытворчасьці дзяржпрамысловасьці), прадукцыя саматужнай прамысловасьці пры існуючай адсталай тэхніцы вытворчасьці ні ў якай меры ня зможа канкураваць ні па якасьці, ні па цане з аднароднымі таварамі дзяржпрамысловасьці.

У сувязі з гэтакім становішчам саматужнай вытворчасьці сэсія савету дала катэгарычныя паказаньні па разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва, зьніжэньню сабекаштоўнасьці ня менш чым на 14 проц., падняцьцю ўнутранай дысцыпліны і вытворчасьці працы, а таксама палепшаньню якасьці прадукцыі, прыняўшы меры да рашучай барацьбы з расхлябанасьцю, сабесаўскім падыходам да работы і рвацтвам. Гэтыя моманты павінны прыцягнуць да сябе самую сур'ёзную ўвагу вытворчых камісій. Эфэктыўнасьць усіх мерапрыемстваў па правядзеньню сацыялістычнага спаборніцтва павінна сыстэматычна праверацца.

Вялікую ўвагу сэсія зьвярнула на пытаньне ўзмацненьня інструктарскай работы ў сампрамсаюзе. Наяўнасьць шэрагу сур'ёзных злоўжываньняў у арцелях, слабая пастаноўка вучоту і справаздачнасьці, бязьдзейнасьць рэўкамісій і г. д. прымушаюць прыняць энэргічныя меры к узмацненьню кантролю за дзейнасьцю арцеляў з боку інструктарскага апарату, які падлягае як колькаснаму, гэтак і якаснаму пасіленьню.

Грамадзка-палітычная і прафтэхнічная адсталасьць саматужнікаў, якая надта перашкаджае правядзеньню мерапрыемстваў па далейшаму разьвіцьцю сампрамкаапэрацыі, паставіла перад сэсіяй пільную неабходнасьць прыняцьця больш сур'ёзных мер па ўкараненьню ў масы саматужнікаў грамадзкіх і тэхнічных ведаў, шляхам арганізацыі спэцыяльных курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы актыву сампрамкаапэрацыі і рахункаводных працаўнікоў.

г. Віцебск,
23/X—1929 г.

---

I. Г.

# Кан'юнктура па сыстэме спажкаапэрацыі БССР за кастрычнік м-ц 1929 г.

I.

Кастрычнік 1929 г. павінен быць ахарактарызаваны значна большым павялічэньнем плацежаздольнасьці вясковага насельніцтва, чым гэта абумоўліваецца звычайнымі для гэтага м-ца сэзоннымі фактарамі. Прычыны такога становішча заложаны ў ушчыльненьні ў г. г. загатоўчага пэрыоду— з перанясеньнем асноўнай часткі кампаніі на 1 квартал і, ў прыватнасьці, на яго першыя месяцы.

Побач з гэтым свой ўплыў мелі і грашовыя астаткі ў сялянскай гаспадарцы на пачатак году, якія паводле папярэдніх дадзеных ЦСК аб дынаміцы грашовых балянсаў павялічыліся на сялянскую гаспадарку з 16 р. 30 к. на 1/X-28 г. да 22 р. 05 к. на 1/X-29 г.

На гэты рост плацежаздольнага попыту значнае падвышэньне абавязковых плацяжоў (8,8 міл. руб. на 1/X-29 г. супроць 4,1 міл. руб. на 1/XI-28 г.) ня мела ўплыву.

Што датычыцца гарадзкога насельніцтва, то і тут наглядалася звычайнае асеньняе ажыўленьне спажывецкага попыту.

У процілежнасьць гэтаму кастрычнік 1929 г. павінен быць адзначаны істотным зьмяншэньнем завозу асноўных дэфіцытных тавараў у БССР—у выніку курсу на ўзмоцненае забесьпячэньне гэтымі таварамі хлебазагатавіцельных раёнаў саюзу.

Палітыка ўсямернага стымуляваньня ходу загатовак унутры БССР—абумовіла пераважнае накіраваньне завозных тавараў у вясковы сэктар.

У гэтых умовах запаўненьне асартымэнту шляхам далейшага шпаркага разьвіцьця апэрацый з прадукцыяй мясцовай вытворчасьці зьявілася адным з асноўных фактараў разьвіцьця каапэрацыйнага звароту. Аднак, большае ўцягненьне ў звароты прадукцыі мясцовай прамысловасьці затрымлівалася недастатковым забесьпячэньнем яе (прамысловасьці) дэфіцытнай, завознай сыравінай (цукровыя вырабы, абутак і г. д.).

Прынцыпы клясавага разьмеркаваньня тавараў знайшлі ў кастрычніку сваё далейшае разьвіцьцё як у горадзе, так і вёсцы (пашырэньне кола нармуемых тавараў у горадзе, выдзяленьне фондаў для забесьпячэньня беднаты і калгасаў).

Ход загатоўчай кампаніі працякае пад знакам упартай клясавай барацьбы і напружанага супраціўленьня заможнай верхавіны вёскі выкананьню загатоўчага пляну. Найбольш яскравым вынікам аб'яднаньня батрацка-серадняцкай масы навакол дырэктыў партыі і ўлады ў напрамку перамогі кулацкага зрыву загатовак зьявілася пасьпяховае давядзеньне плянаў загатовак хлеба і бульбы да двара і ператварэньне чырвоных абозаў у гэтым годзе ў фактар грамадзка-масавага парадку.

У такіх умовах звароты паасобных зьвеньняў сыстэмы, ў параўнаньні з адпаведнымі пэрыодамі мінулых гадоў, складаліся такім чынам:

| | Паступленьне ў %% | Продаж ў %% | Астаткі на канец месяца: Абсалют. у %% | Астаткі на канец месяца: У днёх: Верас. | Астаткі на канец месяца: У днёх: Кастр. |
|---|---|---|---|---|---|
| **Вясков. спаж. т-вы:** | | | | | |
| 1927-28 г. | +49,4 | +34,2 | +21,5 | 37 | 35,0 |
| 1928-29 г. | +18,0 | +29,0 | — 0,4 | 47 | 36,0 |
| 1929-30 г. | — 6,7 | + 1,5 | — 4,0 | 33 | 31,0 |
| **Ц. Р. К.** | | | | | |
| 1927-28 г. | +36,0 | +18,2 | +25,6 | 37 | 40,0 |
| 1928-29 г. | + 8,2 | +10,6 | — 4,8 | 43 | 36,0 |
| 1929-30 г. | + 5,4 | + 9,7 | — 5,0 | 30 | 27,0 |
| **Саюзы:** | | | | | |
| 1927-28 г. | +35,5 | +45 5 | — 4,6 | 29 | 21,5 |
| 1928-29 г. | — 3,5 | +14,6 | —16,0 | 30 | 22,0 |
| 1929-30 г. | —14,4 | + 7,7 | — 7,8 | 24 | 24,0 |

Пры ўзрастаньні паступленьня тавараў у адпаведныя месяцы мінулых гадоў у гэтым годзе наглядаецца тэндэнцыя адваротнага характару.

Тэмп росту продажу таксама зьяўляецца прыніжаным асабліва па вясковаму сэктару.

Астаткі тавараў па ўсіх зьвеньнях сыстэмы паменшыліся ў большых разьмерах, чым у мінулыя гады.

## II.

Пераходзячы да характарыстыкі паасобных рынкаў найбольш значных тавараў спажываньня, трэба адзначыць наступнае:

Агульны завоз **тэкстылю** значна скараціўся. Рабочы сэктар на працягу раглядваемага месяца амаль быў выключан з завозу. У параўнаньні з адпаведным месяцам мінулага году, маецца такое скарачэньне:

| | За кастрычнік 1928-29 г. | | | За кастрычнік 1929-30 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сялу | Гораду | Усяго | Сялу | Гораду | Усяго |
| Баваўнян. у тыс. р. | 982 | 386 | 1368 | 657 | 154 | 811 |
| Сукон. шэрсьцян. | 121 | 56 | 177 | 107 | 3 | 115 |
| Іншыя | 104 | 31 | 135 | 152 | 7 | 159 |
| Разам па тэкстылю | 1207 | 473 | 1680 | 916 | 169 | 1085 |

Такім чынам, стан дэфіцытнасьці ўсіх тэкстыльных тавараў яшчэ больш значна паглыбіўся, асабліва ва ўмовах значнага росту попыту ў сувязі з павялічэньнем плацежаздольнасьці і ўзрастаючымі сэзоннымі запатрабаваньнямі насельніцтва.

На грунце тэкстыльнага голаду значна пашырыліся звароты з **гатовым адзеньнем** пры перамяшчэньні разьмеркаваньня ў карысьць сяла, што відаць з наступных лічбаў:

(у тыс. рублёў)

| За кастрычнік 1928-29 г. | | | За кастрычнік 1929-30 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сялу | Гораду | Усяго | Сялу | Гораду | Усяго |
| 98 | 414 | 512 | 863 | 555 | 1418 |

Пры значна ўзросшым завозе адзеньня, усё-ж попыт насельніцтва не здавальняўся, асабліва гарадзкога. Адсутнічалі ў посуле тыя вырабы, на якія быў попыт. Вялікі попыт быў на дзіцячыя конфэкцыоны, якія зусім не выракляюцца ні Швейтрэстам, ні Белсампрамсаюзам. Мала выракляюцца баваўняныя тавары (паў-пальто ватныя, касавароткі і г. д.). У недастачы піджакі, аксамітныя талстоўкі, штаны галіфэ і г. д.

Аналёгічнае становішча, як па тэкстылю і адзеньню, маецца па **скуртаварах і абутку**. Па скуртаварах завоз характарызуецца зусім нязначнымі разьмерамі, асабліва для гарадзкога сэктару, у той час, калі попыт у гэтым пэрыодзе па сэзонных умовах значна ўзрастае. Такі мізэрны завоз не дазваляе ЦРК выконваць дырэктыву аб арганізацыі пачынaчных майстэрняў.

Звароты з **абуткам** значна павялічыліся, галоўным чынам, за кошт прадукцыі мясцовай вытворчасьці.

У вялікім дэфіцыце трэстаўскі абутак. Рабочыя боты амаль зусім адсутнічаюць у выніку часовага забесьпячэньня Скурсындыкатам мясцовай прамысловасьці.

Разьмеркаваньне тавараў паміж сэктарамі спажыўсыстэмы ў кастрычніку гэтага года выражаецца ў наступных лічбах:

(у тыс. рублёў)

| | За кастрычнік 28-29 г. | | | За кастрычн. 29-30 г. | | Усяго за кастрычн. 29-30 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сялу | Гораду | Усяго за кастрычн. 28-29 г. | Сялу | Гораду | |
| Абутак | 100 | 36 | 136 | 584 | 180 | 764 |
| Галёшы | 17 | 122 | 139 | 18 | 18 | 36 |
| Скуртавары | 164 | 16 | 180 | 101 | 68 | 169 |
| Шорныя | 16 | — | 16 | 17 | — | 17 |

Ва ўмовах нармаванага водпуску **цукру** ў зьвязку з недахопам запасаў у сыстэме сустрэліся некаторыя перашкоды ў здавальненьні некаторай часткі насельніцтва поўнай нормай, недахоп запасаў быў выклікан значным недагрузам за кастрычнік. З прылічваемых на кастрычнік сумесна з недагрузам за верасень у 130 вагонаў было адгружана 72 вагоны, пры гэтым завоз прыходзіцца на апошнія лічбы месяца.

Усяго па сыстэмэ на 1-е кастрычніка лічылася 45 вагонаў цукру, пры няроўнамерным разьмеркаваньні яго па асобных месяцах. На 1-е лістапада, у сувязі з слабым завозам, астачы засталіся на нізкім узроўні. Недагруз тлумачыцца запозьненым пускам цукровых заводаў. У лістападзе, у сувязі з разгортваньнем вытворчасьці чакаецца павялічэньне завозу і папаўненьне запасаў.

У зьвязку з нармаваным водпускам цукру, попыт на цукерныя вырабы не пакрываўся посулам. Значна пашыраецца праца з таварамі мясцовай прамысловасьці, з якою заключана ўмоваў на 1929-30 г. на 4 міл. руб. супроць 2 міл. руб. у мінулым годзе, пры скарачэньні завозу з 1360 т. р. да 1250 т. р. Аднак, у кастрычніку мясцовая прадукцыя на рынку яшчэ не адчувалася ў сувязі з недастатковым забесьпячэньнем мясцовай прамысловасьці цукрам.

У кастрычніку месяцы завоз **селядцоў** значна павялічыўся, што дало магчымасьць задаволіць бягучы попыт насельніцтва па нормах. Астатак селядцоў на працягу найбліжэйшых месяцаў павінен значна павялічыцца, паколькі ў гэтым пэрыодзе завозіцца ўся колькасьць селядцоў васеньняга ўлову.

У зьвязку з гэтым павінен быць распрацаваны каляндарны плян іх выдаткаваньня па асобных месяцах.

Ня гледзячы на павялічэньне нормы завозу ў 1929-30 г. **алею** (320000 тон у 1928-29 г., да 400 тыс. тон у 1929-30 г.), у кастрычніку ўсяго паступіла 5 цэнтнэраў у Полацкую і Віцебскую акругі, а некаторыя акругі амаль зусім не атрымалі яго, што прывяло да перашкод у забесьпячэньні насельніцтва алеем. У лістападзе мяркуецца завезьці значна большую колькасьць алею, што можа выклікаць недахоп у тары і памяшканьнях для яго хаваньня.

**Махорка**, як і раней, заставалася ў вострым дэфіцыце. З закупленых на кастрычнік месяц 7000 скрынак махоркі, усяго адгружана 2300 скрынак. Усяго за першую квадру году паступіць каля 14000 скрынак, што ў далейшым яшчэ больш пагоршыць становішча махорачнага рынку. Наогул у параўнаньні з мінулым паступленьне скараціцца прыкладна на 50 проц.

У зьвязку з вострым дэфіцытам на махорку, значна павялічылася патрабаваньне на табачныя вырабы з боку вясковага насельніцтва, ня толькі на больш нізкія гатункі, але і на I гатунак.

**Мыла гаспадарчае** засталося ў дэфіцыце, што прымусіла арганізацыі перайсьці на нармаваны яго водпуск. Пры паступленьні мыла ад Маслажырсындыкату на ўзроўні значна скараціўся посул з боку мясцовай прамысловасьці, ад якой атрымана ўсяго 580 пудоў замест 5000 пудоў.

Попыт на **сілікаты**, за выключэньнем фарфару, заставаўся нармальным і задавальняўся цалкам. Дзякуючы спэцыялізацыі вытворчасьці вызначаюцца цяжкасьці ў разгортваньні транзыту. Трэба падкрэсьліць, што яшчэ не адчуваецца, каб сыстэма прыняла захады для больш шпаркай работы з сілікатамі. З другога боку, ёсьць асобныя нараканьні арганізацый на несваячасовую адгрузку, аб чым паведамляе карэспандэнт па Бабруйскаму ЦРК.

З групы **культтавараў** значна павялічыўся попыт з боку сельскага насельніцтва на кнігу. У вялікім недахопе ня толькі падручнікі, але і масавая сельска-гаспадарчая літаратура.

**Радыё і фото-прылады** ў вострым дэфіцыце. У зьвязку з тым, што заява спажыўкаапэрацыі задавальняецца ўсяго ў 10-12 проц., прыходзіцца закупаць іх у дробных магазынах з значнай пераплатай.

**Папера пісоўная і іншая** таксама ў дэфіцыце—супроць 100 тон пісоўнай паперы ў квадры мінулага году, на І-ы квартал спажыўкаапэрацыі вызначана ўсяго 45 тон. Па маючыхся вестках з-за адсутнасьці сшыткаў, лікпункты на вёсцы зачыняюцца.

У галіне забесьпячэньня **сельгаспрадуктамі** рабочага насельніцтва трэба адзначыць нармальнае становішча з хлебам, а ў канцы месяца—і з бульбай, а таксама з іншаю гароднінаю.

Пагоршылася забесьпячэньне насельніцтва малаком у выніку значнага недавыкананьня паставак з боку Белмалжыўсаюзу і Белсельтрэсту, што прымусіла ЦРК ня толькі значна скараціць норму выдачы (Бабруйск да $^1/_2$ літру), а нават зусім спыніць водпуск малака пайнікам, забясьпечваючы толькі патрэбы сталоўняў (Барысаўскі ЦРК).

Згодна гэтых-жа умоў значна пагоршылася становішча з маслам кароўім. Забесьпячэньне трохі падтрымлівалася рэзэрвамі Белрабсэкцыі.

III.

Кастрычнік месяц характарызаваўся далейшым працягам напружанай працы ў галіне загатовак хлеба і пачаткам ударнай кампаніі па загатоўцы бульбы.

Кастрычнікавы плян **хлебазагатовак** выкананы на 257 проц.

З пачатку кампаніі па 1/XI хлебазагатоўкі далі 119,4 проц.

Першая дэкада лістападу сьведчыць аб далейшым неаслабным тэмпе загатовак і на 10/XI выкананьне гадавога пляну па спажыўкаапэрацыі складае 142,9 проц.—супроць 105,5 проц. выкананьня па ўсіх загатоўках наогул.

Адносная вага спажыўсыстэмы ва ўсіх загатоўках складае на 10/XI—68 працантаў.

Побач з гэтым трэба адзначыць некаторае пагоршаньне якаснага ходу хлебазагатовак у сэнсе зьніжэньня ў іх адноснай вагі асноўных харчовых культур (1/VII-1/X—65 проц.; у кастрычніку 52 проц.).

Гадавы плян па харчовых культурах на 1/XI (жыта і пшаніца) выканан па спажыўсыстэме—119 проц. (выходзячы з вызначаных па гадавому пляну –51 проц. удзельнай вагі).

Што датычыцца **бульбы**, то шляхам шэрагу арганізацыйна-эканамічных захадаў з аднага боку, і мабілізацыяй увагі ўсёй сыстэмы навакол

гэтага прадукту - у кастрычніку дасягнуты значны пералом у загатоўцы бульбы, характарызуемы падэкадна нарастаючымі тэмпамі:

(у тонах)

| | За ўвесь месяц | I дэкада | II дэкада | III дэкада | Падэкадны тэмп у % % | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | II да I-й | III-й да II-й |
| Верасень . . . . . . . | 742 | 182 | 116 | 441 | 63.7 | 380 |
| Кастрычнік . . . . . . | 40387 | 721 | 2810 | 36356 | 390 | 1310 |

Няпэўныя даныя за 1-ю 5-ці днёўку лістапада (16.140 тон—без Мазырскай і Віцебскай акруг) сьведчаць аб далейшым неаслабным тэмпе загатовак бульбы.

Плян **мясазагатовак** выканан на 91 проц. (828 тон) пры адставаньні акруг Бабруйскай (65 проц.), Аршанскай (65 проц.), Магілеўскай (66 проц.), Мазырскай (86 проц.). Аднак улічваючы становішча мяснога рынку БССР у гэтым годзе (спыненьне завозу ўкраінскай жывёлы высокага гатунку), прыходзіцца канстатаваць незабесьпячэньне такімі колькаснымі памерамі забесьпячэньня гарадоў у выніку няпрыгоднасьці часткі мяса ўнутранай загатоўкі для спажываньня. Нізкая якасьць унутраных мясазагатовак у сучасны момант паглыбляецца худзізнаю жывёлы.

Побач з гэтым разгортваньню мясазагатовак у неабходных разьмерах перашкаджае недахоп у зваротных сродках, у выніку непрадастаўленьня крэдытаў на гэту галіну з боку банкаў.

Адсутнасьць сродкаў не дае таксама магчымасьці арганізацыі сыстэмаю ўласных адкормачных апэрацый.

З загатоўкай **ільнанасеньня** ў лістападзе складаецца зусім няспрыяючае становішча. Пры зусім недастатковым выкананьні пляну ў самым сэзонным месяцы—кастрычнік (68,0 проц.) і гадавога пляну на 1/XI—(63,2 проц.) першая пяціднёўка лістапада, які зьяўляецца апошнім месяцам сэзону—паказвае рэзкае зьніжэньне загатовак ільнанасеньня—(усяго 6 проц. месячнага заданьня і каля 65 проц. гадавога пляну, што, аднак перавышае ступень выкананьня агульнага пляну па БССР у 60,4 проц.).

Найбольш адстаюць акругі: Менская (36 проц.), Мазырская (22 проц.) і Гомельская (14 проц.), якія ў мінулым годзе як раз паказвалі найлепшае выкананьне пляну, наогул загатоўкі ільнанасеньня. У гэтым годзе пры роўнацэнным вытворчым становішчы паказваюць адваротныя тэндэнцыі; (у 1928-29 г. каэфіцыент супроць верасьня—+35 проц.; выкананьне кастрычнікавага пляну—190 проц., гадавога на 1/XI-29 г.—на 90 проц.).

Па ўсіх відах **сельгассыравіны** адзначаецца ня толькі значнае недавыкананьне пляну, але і фізычнае зьмяненьне загатовак супроць кастрычніка мінулага году.

У галіне скурсыравіны, тут перш за ўсё трэба адзначыць уплыў фактараў вытворчага парадку: меншы, чым у мінулым годзе, продаж сялянствам жывёлы на рынку ў выніку наглядаючагася працэсу аднаўленьня стада.

Недавыкананьне загатовак па дробнай скурсыравіне ідзе галоўным чынам за кошт аўчыны, якая ў значнай частцы асядае ў гаспадарцы, у выніку вялікага разрыву, які існуе паміж сялянскім спажываньнем аўчыны і магчымасьцямі нашага забесьпячэньня сялянства апрацованай аўчынаю.

Фінансавае становішча рабоча-гарадзкога сэктару каапэрацыі можа быць адзначана прыкметным зьмякчэньнем напружанасьці, што стварылася ў выніку скарачэньня запасаў ва ўмовах вялікага зьмяншэньня паступленьня тавараў.

Што датычыцца сельскага сэктару, то і саюзы і нізоўка адчувалі на працягу ўсей другой паловы кастрычніку фінансавую напружанасьць што абумоўлівалася наступнымі прычынамі:

а) недастатковым фінансаваньнем хлебных загатовак, якія ішлі звыш пляну ў той час, калі Дзяржбанк фінансаваў іх у межах плянавых меркаваньняў.

б) шпаркім разьвіцьцём тэмпу загатовак бульбы, у выніку чаго афармленьне і прахаджэньне разьлікаў паміж саюзамі і пакупнікамі па акрэдытавах сыстэматычна адставалі ад парку адгрузак.

в) агульным скарачэньнем банкаўск.х лімітаў па сыстэме на 500 тысяч рублёў.

г) выпадкі зацягваньня разьлікаў з пакупнікамі па іншых збытавых апэрацыях (паміж Цэнтрасаюзам і Бабруйскім саюзам—на яблыкі ў суме 100 тыс. руб.).

д) зусім недапушчальным тэмпам паянамнажэньня, які пагражае поўным зрывам сучаснага квартальнага заданьня, а тым больш павялічваючагася, згодна апошніх кантрольных лічбаў, прынятых урадавымі органамі.

| | Сабрана паёў у тыс. | Заданьне на 1 квартал | % выкан. |
|---|---|---|---|
| **За I і II дэкады кастрычніка** | | | |
| Па ўсёй сетцы . . . . . . . . . | 194,8 | 2200 | 8,9 |
| **За ўвесь кастрычнік** | | | |
| Па Менскай і Бабруйскай акр. . | 90,0 | 725 | 12,4 |

Такое становішча зьяўляецца вынікам поўнага паслабленьня ўвагі з боку саюзаў і нізоўкі пытаньню паянамнажэньня ў той час, калі становішча ў галіне грашовых рэсурсаў насельніцтва цалкам спрыяе выкананьню заданьня.

---

**РЭЗКІ**

# Смалакураная справа патрабуе адпаведнага месца ў нашай Беларускай прамысловасьці

Да вайны і рэвалюцыі на тэрыторыі сучаснай Беларускае ССР існавала шмат соцень смалакураных катлоў, якія здабывалі смалу і шпігінар, галоўным чынам, дзеля замежнага рынку. Вайна і рэвалюцыя скарацілі гэты промысел на вялікую колькасьць катлоў, і толькі тыя смалакуры, бацькі і дзяды якіх займаліся смалакурэньням, не пакінулі свайго промыслу і ў гэтыя цяжкія часы. Новая эканамічная палітыка дала магчымасьць адбудаваць цэлы шэраг гэтых самалакураных катлоў, але да апошніх 2-х гадоў гэтыя катлы знаходзіліся выключна ў руках прыватнікаў, і галоўным спажыўцом гэтае прадукцыі зьяўляўся Дзяржгандаль. Дзяржгандбел авансаваў гэтых прыватнікаў у тых разьмерах, якія патрабаваліся дзеля таго, каб гэтыя заводы ў свой час рамантаваліся і ў свой час мелі асмол. Толькі з 1926 году смалакуранай справай, як вытворчай справай, а ня толькі гандлёвай, пачаў займацца Белсампрамсаюз. Шляхам каапэраваньня бяднейшых смалакураў і шляхам пабудовы ўласных заводаў пачалі арганізоўвацца арцелі, дзе бязумоўна на першых кроках былі няўдачы,быў нейкі дэфіцыт, але, калі падагуліць рэнтабельнасьць смалакуранай справы па

лініі сампрамкаапэрацыі, то яна бязумоўна не дэфіцытна, і дзяржаўныя сродкі, якія ўкладзены ў смалакураную справу па лініі сампрамкаапэрацыі, бязумоўна сябе апраўдваюць.

Разам з пачаткам арганізацыі арцеляў па лініі сампрамкаапэрацыі пачалі будавацца існуючымі пры РВК камбінатамі заводы мясцовай прамысловасьці, галоўным чынам, па Менскай акрузе. Тут вельмі характэрна прывесьці, як будаваліся і арганізоўваліся гэтыя камбінацкія заводы. Напрыклад, у Чэрвеньскім раёне камбінат проста купіў завод у прыватніка Фэльдмана, заплаціў яму грошы, пасадзіў як быццам і гэтага самага Фэльдмана ў якасьці загадчыка і „даёш прадукцыю“. У Бярэзінскім раёне, прыкладна, як і ў Чэрвеньскім арганізоўваліся заводы.

Пры правядзеньні ў жыцьцё пастановы СНК БССР ад 24-Х гэтага году аб перадачы бязьдзейнічаючых смалакураных катлоў прыватнікаў каапэрацыйным і дзяржаўным органам, прышлося знаёміцца з тым, як вядуць справу арцелі сампрамкаапэрацыі і як вядуць справу камбінаты пры РВК.

Тут неабходна прывесьці, як абстаіць справа з смалакурэньнем у адным з багацейшых, у сэнсе асмолу, Бярэзінскім раёне. Камбінат мае 4 катлы, а арцелі сампрамкаапэрацыі маюць у агульнай колькасьці 5 катлоў.

Мачэская арцель у 10-ці вярстах ад Пагоста мае ў сваім складзе 9 сяброў, з іх, за выключэньнем аднаго лішэнца, большая частка местачковай беднаты і сялян-батракоў. Гэта арцель мае 3 катлы. Сябры арцелі зьяўляюцца і загатоўшчыкамі асмолу, і спэцамі, і настаўнікамі, гоншчыкамі і возчыкамі. Катлы рамантуюцца акуратна, і таму выхад з аднаго катла дае да 20 пудоў шпігінару, што бязумоўна зьяўляецца добрым паказальнікам. І вось пры такой пастаноўцы справы, заробак сябра арцелі за апошнія часы складае ня больш 30-35 рублёў у месяц. Чаму-ж гэта так? А таму, што асмол зьяўляецца вельмі дарагім, замест каштоўнасьці ў папярэднія гады 6-7 рублёў, асьмуха цяпер каштуе 10 і больш рублёў, таму, што большасьць сялян, якія займаюцца карчаваньнем, у сучасны момант заняты лесараспрацоўкамі, якія ў даным раёне, у зьвязку з арганізацыяй Дулебскага фонду (дзеля земляўпарадкаваньня яўрэяў) шпарка разьвіваюцца. І вось, побач з гэтымі заводамі мае свае заводы і камбінат. Ён бязумоўна на ўсе 100 проц. абслугоўваецца найманай сілай і нават загадчык заводам і гонщчык таксама зьяўляюцца наймітамі-сябрамі прафсаюзаў. І калі ў арцелі пры гэтым становішчы кожны сябра мае пэўную нагрузку, на камбінацкім заводзе на загадваньне выдаткоўваецца 65-70 р. у месяц плюс усялякага роду сацстрах і другія фонды. У дадатак да гэтага пры камбінаце на чатыры катлы ёсьць спэц, які таксама атрымоўвае 100 рублёў. Дэфіцыт тут відавочан. Гэта будзе яшчэ больш відаць з прывадзімай калькуляцыі: каштоўнасьць асмолу на 1 кацёл—7 шурак па 10 р. =70 руб., дровы $1^1/_4$ саж.—12 руб., нагрузка катла—8 рублёў, падвозка карчоў—3 рублі. Каштоўнасьць штату і іншыя выдаткі, як-то: аплата за асмол лясьніцтву, рамонт, прастой катлоў і г. д., выходзячы з сярэдняга выхаду 5 катлоў у месяц—40 руб., усяго выдаткаў па аднаму катлу мы маем 133 руб. Пры сярэднім выхадзе 16 пудоў шпігінару па 4 рублі за пуд, мы маем 64 рублі, 35 пудоў смалы па 1 руб.—маем 35 рублёў і 60 пудоў вугалю па 20 кап.—маем 12 рублёў, усяго прыбытку—111 рублёў. Такім чынам, кожны кацёл дае дэфіцыт каля 20 рублёў У арцелі таксама ёсьць дэфіцыт па вышэй паказаным прычынам, галоўным чынам вялікая каштоўнасьць асмолу, але ўсёж-такі кожны сябра арцелі мае хаця-б па 35 рублёў, а дэфіцыт пакрываецца самімі сябрамі, а не дзяржавай. А калі мы возьмем па Чэрвеньскаму раёну, дык там справа абстаіць яшчэ горш, чым у Бярэзінскім раёне. Чаму-ж гэта так? Ды таму, што смалакураная справа—справа саматужная, і калі загадчык заводам камбі-

нату знаходзіцца ў 20-30 вярстах ад раённага цэнтру, ён упэўнены, што пэнсію ўсёроўна будзе атрымоўваць незалежна ад таго, будзе кацёл існаваць ці не. Пакуль там спэц з камбінату да яго даедзе, а калі даедзе, то ён ува ўсякім разе зможа даць адказ. Іншая справа ў арцелі: тут ён зацікаўлен сваім паем і ўкладам, і ён тут мае свой пэўны заробак большы або меншы, і таму зусім зразумела, што Наркамгандаль аддае перавагу, а СНК БССР патрабуе ад сампрамкаапэрацыі павялічэньня сваёй прадукцыі.

Але павялічэньне прадукцыі па сыстэме сампрамкаапэрацыі і наогул вырашэньне гэтага пытаньня цалкам залежыць ад таго, каму належыць займацца гэтай справай: сампрамкаапэрацыі, камбінатам мясцовае прамысловасьці альбо Дзяржгандальбелу, бо калі па інуць гэту справу ў такім становішчы, як яна ёсьць, дык гэта значыць—не даваць ёй ходу, бо акрама хваравітай канкурэнцыі і пераманьваньня спэцыялістых—нічога больш не даецца. Тут ізноў цікава будзе прывесьці некалькі фактаў адносін Бярэзінскага Райвыканкому да існуючай там Мачэскай смалакуранай арцелі. Ня гледзячы на просьбы Белсампрамсаюзу вылучыць у гэтую арцель сталага кіраўніка, які змог-бы пашырыць гэту працу, мясцовыя органы ад гэтага ўхіляліся. Між іншым, напрыклад, у Смалявіцкім раёне, дзе няма камбінацкіх заводаў РВК, у смалакураную арцель „Аб'яднаньне" мясцовыя органы вылучылі сябра бюро райкому. Там справа абстаіць добра. А ў Мачэскай арцелі апынуўся старшынёю нейкі афэрыст Захар'яш, які сябе выдаваў за партыйца, пагражаў усім тым, якія не падпарадкаваліся яго дэмагагічным загадам, допрам, выганяў беднякоў-сяброў арцелі, якія патрабавалі грошы за працу, сам браўся за выганку катлоў і замест шпігінару, атрымлівалася адна смала, няугодных яму сяброў арцелі ён выганяў, альбо ў лепшым выпадку кідаўся на іх з варам, *заезьдзіў* арцельнага каня і г. д. Аб гэтым, бязумоўна, ведалі мясцовыя органы: сельсавет, а можа, нават і раённыя органы і чамусьці не рэагавалі. Чым тлумачыцца тое, што ў Смалявіцкім раёне дзеля гэтае справы вылучылі сябра бюро райкому, а ў Бярэзінскім—ноль увагі на гэта. Ларчык тут проста адчыняецца. Гэта тлумачыцца словамі, сказанымі адным з раённых працаўнікоў „што вось мы пабачым, хто каго выцісьне, сампрамкаапэрацыя камбінацкія заводы, яльбо камбінат арцельныя". У Чэрвеньскім раёне ў камбінаце адсутнічаюць добрыя працаўнікі, сьвядомыя ў смалакуранай справе, а пагэтаму пераманьваюць спэцаў з арцелі, ня кажучы ўжо аб тым, што, паколькі вучасткі арцеляў і камбінацкія мяжуюцца, і тут існуе вельмі вялікая канкурэнцыя, што, бязумоўна, адчуваецца на сабекаштоўнасьці сыравіны. Усё гэтае сьведчыць аб тым, што смалакураная справа ў нашай БССР, як адна з асноўных галін нашага экспарту, патрабуе свайго адпаведнага месца, каб яна магла яшчэ больш разгортвацца.

Выходзячы з таго, што на бліжэйшыя гады гэтую справу нельга мэханізаваць іператварыць у буйныя смалакураныя заводы, дык яе неабходна цалкам перадаць сампрамкаапэрацыі. Але сампрамкаапэрацыя павінна перабудаваць усю сыстэму арганізацыі абслугоўваньня гэтых арцеляў. Папершае—трэба, каб у кожным раёне было ня больш аднэй арцелі. Гэта арцель павінна мець усе катлы, якія раней уваходзілі ў асобныя арцелі, мець шпігінара-ачышчальны завод і майстэрні дзеля параробу галіпоту і мазі. Потым неабходна, каб інструктаж насіў пэўны і сталы характар, каб Белсампрамсаюз паставіў вывучэньне гэтае справы з навуковага пункту погляду, запрасіў дзеля гэтае мэты некалькі інжынэраў-хімікаў, а гэта магчыма зрабіць і бязумоўна неабходна ўлічыць, што акрамя смалакуранае справы ў БССР будзе разьвівацца сьпірытусова-парашковая вытворчасьць.

Каапэраваньне павінна пайсьці па лініі ўцягваньня ў арцелі таксама і капальнікаў карчоў, якія павінны быць пэўна прымацованы да таго ці іншага заводу і карыстацца ўсімі правамі сяброў арцелі.

Усё тое, што праароблена аддзелам мясцовай прамысловасьці як у сэнсе будаўніцтва, так і ў сэнсе набыцьця інвэнтару, павінна быць перадана па пэўнай ацэнцы арцелям сампрамкаапэрацыі.

100 проц. каапэраваньне смалакуранае справы і адпаведны нагляд за правільным ходам каапэраваньня і працы арцеляў будзе гарантыяй, што тыя экспартныя пляны па шпігінару і смале, якія ўхвалены, будуць выкананы.

---

**Ф—аў**

# Павялічым кадры каапэратараў з грамадзкіх працаўнікоў

Спажывецкая каапэрацыя, хуткім тэмпам выціскаючы прыватны гандаль, сама на сёньняшні дзень зьяўляецца асноўнай арганізацыяй, якая забясьпечвае таварамі пайшчыка. З кожным днём з боку рабочых прад'яўляюцца ўсё большыя і большыя патрабаваньні да каапэрацыі. Вымагаецца павялічэньне гандлёвай сеткі, пашырэньне асартымэнту, накапленьне ўласных сродкаў і г. д. Апрача гэтага, галоўным пытаньнем сёньняшняга дню спажывецкай каапэрацыі, асабліва па рабочай сетцы, зьяўляюцца патрабаваньні ў галіне палепшаньня абслугоўваньня спажыўцоў, якія падробна адбіліся ў апошняй дырэктыве па ажыцьцяўленьні рацыяналізатарскага мінімуму (зьнішчэньне чаргі, павялічэньне гадзін гандлю, разьвіцьцё папярэдніх заказаў, дастаўка тавараў на дом і г. д.). Апрача тага, у зьвязку з часовымі таварнымі цяжкасьцямі, каапэр. прад'яўляюцца патрабаваньні правільнага разьмеркаваньня таварных рэсурсаў сярод пайшчыкаў.

Са ўсімі гэтымі задачамі каапэрацыя зможа справіцца толькі пры ўмове максымальна разгорнутай каапэрацыйна-грамадзкай працы. Аб тым, што грамадзкі бок у працы каапэрацыі ў нас значна адстае ад тэмпу гаспадарчага росту, у гэтым няма сумненьня. Формы і мэтады прыцягненьня да каапэрацыйнай працы пайшчыкаў і ў першую чаргу каапэрацыйнага актыву ў нас добра выявіліся. Але ўсё-ж праца ў гэтым кірунку адбываецца нездавальняюча: дрэнна працуюць сэкцыі ўпаўнаважаных, камісіі, вылучаныя сэкцыямі. Нельга пахваліцца працай каапэрацыйных камісій, нават у галіне ажыцьцяўленьня грамадзкага кантролю за правільным разьмеркаваньнем дэфіцытных тавараў па крамах.

Слабая праца каап. актыву часткова тлумачыцца недастатковым кіраўніцтвам з боку арг. аддзелаў. Прычыну тут патрэбна шукаць у недахопе штатаў арг. аддзелаў і ў значнай ступені пашыранай арганізацыйнай працы за апошні год. Праца асноўных работнікаў арг. аддзелаў у сучасны момант топіцца ў такіх пытаньнях, як разьмеркаваньне малака, у барацьбе са злоўжываньнямі каапэрацыйнымі кніжкамі, выдача наборных кніжак, у пытаньнях каапэраваньня і г. д. А праца з каапэрацыйным актывам адсоўваецца на задні плян.

Апрача ўсяго гэтага, яшчэ варта ўзяць пад увагу вельмі важную задачу ў працы каапэрацыі—гэта падрыхтоўка і абнаўленьне кадраў. Для вырашэньня гэтых вельмі важных задач, Менскі ЦРК прыступіў больш сьмела да прыцягненьня каапэрацыйнага актыву ў практычную працу каапэратываў.

У сучасны момант пры арг. аддзеле з найбольш актыўных упаўнаважаных вытворчых калектываў працуюць шэсьць інструктароў—грамадзкіх працаўнікоў. Гэтыя інструктары выконваюць працу ў вольны для іх час ад асноўнай службовай працы. Практычную працу інструктары гэтыя выконваюць шляхам прымацаваньня іх да асноўных галін арг. працы, бытавой, культасьветнай, масавай, па рацыяналізацыі працы з каап. актывам.

Кожны інструктар-грамадзкі працаўнік мае плян свае працы і выконвае яе пад кіраўніцтвам штатных інструктароў аддзелу. Напрыклад, аднаму з інструктароў у працягу двух месяцаў даручана арганізаваць тры раённых сходы пайшчыкаў. праверыць працу рабочых брыгад па нагляданьні за правядзеньнем рацыяналізатарскага мінімуму, абсьледваць работы 5-ці каап. арганізатараў і 5-ці ўпаўнаважаных, абсьледваць становішча кніг скаргаў у мясных крамах, падрыхтаваць вынікі паявога накапленьня за першы квартал і г. д. Два інструктары прымацованы да пэўнай колькасьці каапэрацыйных камісій, якія і кіруюць іх працай штодзённа. Таксама інструктары гэтыя прысутнічаюць на паседжаньнях арг. калегіі, праўленьня, сэкцыях упаўнаважаных, кіруюць рознаго роду камісіямі, робяць абсьледваньні.

Невялікая практыка працы інструктароў-грамадзкіх працаўнікоў паказала жыцьцёвасьць гэтага інстытуту каап. актыву, а таксама і тое, што інструктары гэтыя ў некаторых выпадках спраўляюцца са сваёю працай ня горш, чым штатныя інструктары.

На апошнім паседжаньні арг. калегіі МЦРК былі заслуханы даклады двух інструктароў. Выявілася, што адным з галоўных тормазаў у працы інструктароў зьяўляецца перагрузка іх грамадзкаю працаю па месцы службы. Было вынесена пажаданьне, каб колькасьць інструктароў-грамадзкіх працаўнікоў пры арг. аддзеле пашырыць і больш прыцягваць іх у якасьці дакладчыкаў і дзяжурных па Цэрабкоопу.

Трэба спадзявацца, што практыка вышэйпаказаных інструктароў у пытаньні падрыхтоўкі каапэрацыйных кадраў па лініі арганізацыйнай працы бязумоўна дасьць вельмі дадатныя вынікі. Выконваючы практычныя навыкі каапэрацыйнай працы, гэтыя інструктары адначасова дапамогуць узмацніць арганізацыйную працу, такую неабходную ў сучасны момант, калі ўзяты курс на максымальнае разгортваньне грамадзкага боку справы ў працы каапэрацыі.

---

А. Лодысеў

# Становішча нашае саматужна-прамысловае каапэрацыі

*(Бабруйская акруга)*

Мінулы 1928-29 г. у Бабруйшчыне даў рост арцеляў на 28 проц. і каапэраваньне ў арцелях—на 63 проц. Каапэраваньне ў таварыствах павялічылася на 16 проц., а каапэраваньне промыслаў на мясцовай сыравіне складае 43 проц.

Трэба адзначыць значны рост працоўных жанчын у арцелях на 60 проц. і рост вучнёўства—на 42 проц.

Каапэравана 485 чал. беднаты за рахунак створаных фондаў па каапэраваньню (скарыстана 20558 руб.).

Рост валавой прадукцыі даў падвышэньне на 86 проц., рост зваротаў па таварыствах—на 54 проц. і зваротаў саюзу—на 100 проц.

Трэба адзначыць, што ёсьць значны зрух у ажыўленьні культурна-масавае працы, якая выражаецца ў пась-

пяховым правядзеньні кампанейскіх прац., ліквідацыі няпісьменнасьці і г. д.

Вось гэта ў кароткіх рысах тыя дасягненьні, якія ёсьць у Бабруйскай саматужна-прамысловай каапэрацыі. А цяпер больш падрабязна спынімся на недахопах.

Я лічу вялікім недахопам тое, што гэты від каапэрацыі амаль што нічога не зрабіў у патаненьні сабекошту і ў зьніжэньні адпускных цэн. Недастаткова праводзілася работа вытворчых камісій, дзякуючы чаму прадукцыя ў некаторых арцеляй застаецца яшчэ дрэннай, а па некаторых промыслах і да гэтага часу яшчэ не ўрэгуляваны нормы зарплаты.

Ня ўдзелена дастатковае ўвагі працы па арганізацыі арцеляй у вёсках і адшуканьню новых працаёмістых промыслаў на мясцовай сыравіне.

Калі казаць аб сыстэматычнай працы сярод беднаты, то яе не вялося, і вучот апошняе адсутнічае.

Надзвычайна слаба праводзілася праца па збору паявых узносаў ад сяброў арцеляй.

Нічога ня зроблена ў адшуканьні рынкаў збыту прадукцыі арцеляй па лініі дзяржаўных органаў і каапэрацыі, у выніку чаго назіраюцца зьявішчы нязначнага продажу вырабаў прыватным асобам (3 проц.).

Кіруючы склад некаторых арцеляй зусім слабы.

Што трэба будзе зрабіць Бабруйскаму Акрсампрамсаюзу, каб у далейшым зьнішчыць усе адзначаныя недахопы? А вось што: неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на пытаньне рэгуляваньня сацыяльнага складу арцеляй і таварыстваў і працягваць працу па чыстцы арцеляй ад сацыяльна чужых элемэнтаў.

Узяць рашучы курс на арганізацыю арцеляй у вёсках, разьвіваючы промыслы на мясцовай сыравіне, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на вытворчасьць будаўнічых матар'ялаў.

Першачарговай задачай Акрсампрамсаюзу павінна стаяць праца па каапэраваньню беднаты і беспрацоўных сяброў прафсаюзаў, дзеля чаго патрэбна стварыць новыя фонды па каапэраваньню беднаты, якія на гэту мэту трэба будзе скарыстаць поўнасьцю

Наладзіць працу Сампрамсаюзу па максымальнаму ўцягненьню ў прамысловыя арцелі жанчын і моладзі. У мэтах паляпшэньня якасьці прадукцыі неабходна наладзіць вытворча-тэхнічны інструктаж па важнейшых відах вытворчасьці і ажывіць працу вытворчых камісій.

Неабходна ў бліжэйшы час заняцца пераглядам у арцелях існуючых ставак па зарплаце і ўстанавіць апошнія ў межах тых норм якія існуюць на дзяржаўных прадпрыемствах адпаведных промыслаў, дапушчаючы павялічэньне ня звыш 10 проц., пры абавязковым захаваньні накапленьняў ня менш, як 3 проц. вытворчасьці.

Зьвярнуць асаблівую ўвагу на выкананьне дырэктывы акрвыканкому наконт мерапрыемстваў па патаненьню сабекошту прадукцыі арцеляй і зьніжэньню адпускных цэн на падставе прадугледжаных кантрольных лічбаў.

Акрплянавай камісіі прыдзецца вывучыць пытаньне аб магчымасьці зьніжэньня арэнднае платы за карчавыя вучасткі смалакураных арцеляй і аб водпуску дроў на патрэбы смалакурэньня без гандлёвай наддачы.

Інспэкцыі мясцовай прамысловасьці трэба хутчэй закончыць усю працу па здачы прамкаапэрацыйным арцелям арандуемых прадпрыемстваў (на падставе пастановы СНК БССР).

Неабходна, каб усе райвыканкомы і гарадзкія саветы больш цікавіліся саматужна-прамысловай каапэрацыяй, дапамагаючы ёй у сваёй штодзённай працы, заслухоўваць даклады на прэзыдыумах і г. д.

У мэтах рацыяналізацыі вытворчасьці, скарачэньня выдаткаў і папаўненьня прамыслова-каапэрацыйных арцеляй здаровым пралетарскім ядром, Наркампрацы прыдзецца задумацца наконт неабходнасьці перадачы прамысловай каапэрацыі аднатыпных працкалектываў.

Акрсампрамсаюзу не паслабляць тэмпу далейшага вядзеньня культасьветнай працы, зьвярнуўшы сваю асаблівую ўвагу на падрыхтоўку і перападрыхтоўку новых кіруючых кадраў.

Узмацніць працу па гаспадарчаму ўпарадкаваньню мястэчак (Глуск, Парычы, Побалава), дзеля чаго ў хуткім часе абсьледваць ход гаспадарчага ўпарадкаваньня і вызначыць далейшыя мерапрыемствы па замацаваньню вынікаў гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчак.

Пасіліць інструктаваньне арцеляй шляхам больш часьцейшых выездаў інструктароў, а таксама улічваючы, што вынікі падпіскі на 3 заем індустрыялізацыі па саматужнай кааперацыі недастатковыя, неабходна Акрсампрамсаюзу ўзмацніць працу па падпісцы і дабіцца 100 проц. уцягненьня сяброў арцеляй і ня менш як на месячны аклад пэнсіі.

Вось усё тое, што наглядаецца ў Бабруйскай саматужна-прамысловай кааперацыі і што неабходна зрабіць на далейшы час.

---

Я. Байцоў

# Усекабанк і каапэрацыя інвалідаў БССР

Абслугоўваньне каапэрацыі інвалідаў з боку Усекабанку пачалося з восені 1924 году з таго моманту, як Менскі саюз інвалідных каапэрацыйных аб'яднаньняў уступіў пайшчыкам Усекабанку і пачаў карыстацца спачатку вельмі нязначным крэдытам у суме 5000 р. Пасьля гэтага, на працягу 5 год складанае арганізацыйнае і эканамічнае будаўніцтва сыстэмы каапэрацыі інвалідаў праходзіла з удзелам Усекабанку.

У 1927 годзе ў часе разьмежаваньня кліентуры паміж банкамі—сыстэма каапэрацыі інвалідаў ахвотна была аддадзена Дзяржбанкам для поўнага крэдытаваньня Ўсекабанку.

Дзякуючы разьвітой карэспандэнцкай сетцы Ўсекабанку, у выглядзе крэдытна-прамысловых т-ваў па акруговых гарадох, арцелі інвалідаў карыстаюцца крэдытам на месцы. Вучотны процант ва Ўсекабанку такі-ж, як і ў Дзяржбанку (8 проц. па вучоту вэксалёў да 3 м-цаў).

Уся складанасьць праробленай арганізацыйнай працы ў працягу, асабліва апошніх двух год, у выніку якой, замест разрозьненых, арганізацыйна слабых і фінансава хворых арцеляў, цяпер маем даволі стройную каапэрацыйную сыстэму, па праву, канешне, належачай рэспубліканскаму цэнтру (БСІКА). З дасягненьняў сыстэмы можна адзначыць: пазбаўленьне пратэсту вэксалёў, накапленьне ўласных сродкаў, рэнтабельнасьць апэрацый, мэханізацыя вытворчасьці, перагляд сяброў па сацыяльнай адзнацы і ўсьведамленьне каапэрацыйнай дысцыпліны. Прайшоўшы ў лістападзе мінулага году сход упаўнаважаных арцеляў рабіў надзвычайна прыемнае ўражаньне дзелавым падыходам да вырашэньня эканамічных пытаньняў, спэцыфічных для каапэрацыі інвалідаў.

У сучасны момант ва Ўсекабанку і каапэрацыі інвалідаў ёсьць наступныя накапленьні: 1) паявы капітал—22,5 т. р. 2) запасны капітал—(з 10 процантных адлічэньняў ад прыбыткаў)—30,4 т. р., з гэтай сумы 60 проц. вызначаюцца для кароткатэрміновага крэдытаваньня, 3) фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня (з 10 процантных адліч. ад прыбыткаў мінулых гадоў)—37,4 т. р., 4) бягучыя рахункі па гораду Менску ад БСІКА і арцеляў складаюць суму ад 70 да 120 т. руб.

Цяпер усе заяўкі на крэдытав. каапэрацыі інвалідаў Ўсекабанкам выконваюцца цалкам. На 1-шы квартал 1929-30 г. адчынен крэдыт у 175 т. р., на 2-гі квартал вызначаецца 225—250 т. р.

Кожны квартал пры складаньні крэдытных плянаў кароткатэрміновага крэдытаваньня ўтвараюцца нарады прадстаўнікоў Усекабанку і БСІКА, на якіх высьвятляюцца як грашовыя сродкі, якія ў надыходзячым квартале могуць быць выдаткаваны на крэдытаваньне каапэр цыі інвалідаў, так і неабходнасьць у крэдыце як БСІКА, так і асобных арцеляў.

Што зроблена Ўсекабанкам і БСІКА ў мэтах павялічэньня крэдытнага фонду каапэрацыі інвалідаў?

1. З тае прычыны, што ў акруговых гарадох і ў арцелях інвалідаў ёсьць сродкі на бягучых рахунках у розных крэдытных установах, прызнана мэтазгодным і эканамічна неабходным усе сродкі каапэрацыі інвалідаў па акруговых гарадох канцэнтраваць на бяг. рахунках у крэдытна-прамысловых т-вах.

Усекабанк і БСІКА заключылі паміж сабою ўмовы, згодна якіх, з аднаго боку, арцелі інвалідаў павінны хаваць свае сродкі ў карэспандэнтаў Усекабанку - у крэдытна-прамысловых т-вах. Яны атрымліваюць на іх найвышэйшы процант, які толькі дазваляецца Наркамфінам (6%), а Ўсекабанк, з другога боку, выдаў БСІКА гарантыйнае пісьмо ў тым, што Ўсекабанк гарантуе захованасьць укладаў арцеляў інвалідаў у крэдытна-прамысловых т-вах і сьвячасовы іх зварот. Апрача таго, Усекабанк абавязаўся 80 проц. сярэдняй астачы ўкладаў каапэрацыі інвалідаў накіроўваць на крэдытаваньне толькі сыстэмы каапэрацыі інвалідаў.

Дадзена мерапрыемства на 1-шы час павялічыць фонд крэдытаваньня каапэрацыі інвалідаў на 50-70 т. р.

Усекабанк у дастатковай ступені праінструктаваў сваіх карэспандэнтаў—крэдытна-прамысловыя т-вы, і па некаторых гарадох ёсьць ужо здавальняючыя вынікі.

2. Перад каапэрацыяй інвалідаў стаіць другая задача — пасьпешнае выконваньне якой будзе сьведчыць як аб дысцыплінаванасьці, так і аб каапэрацыйнай сьпеласьці сыстэмы. Гэта сваячасовае, на працягу 1-га кварталу ўнясеньне ва Ўсекабанк адлічэньняў ад чыстага прыбытку па балянсах на 1 кастрычніка 29 г. у фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня і фонды запасных капіталаў, што адбываецца на аснове адпаведных аб тым урадавых пастаноў.

Неабходна па справядлівасьці адзначыць, што ў мінулым годзе каапэрацыя інвалідаў першаю ўнесла належачыя з яе адлічэньні ад прыбыткаў і першаю з каапэрацыйных сыстэм пачала іх скарыстоўваць.

Так, першымі з створанага фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня атрымалі пазыкі на капітальнае будаўніцтва:

1) Менская арцель № 7 „Эканомія" . . . . . . . . . . . . . . 1300 руб.
2) Бабруйская 6-ая арцель „Новы Шлях Інваліда" . . . . . . 5000 „
3) „ 3-ая „ „Кастрычнік" . . . . . . . . . . . . . 2000 „
4) Касьцюковіцкая арцель „Сьцяг Працы" . . . . . . . . . . 6000 „
5) Шклоўская арцель „Адраджэньне" . . . . . . . . . . . . 3000 „
6) Бабруйская арцель „Праца Інваліда" . . . . . . . . . . . 5000 „
7) Менская арцель № 2 „Новы Шлях" . . . . . . . . . . . 1500 „
8) Гомельская арцель № 5 „Працаўнік" . . . . . . . . . . . 5000 „
9) Менская арцель № 3 „Чырвоны Інвалід" . . . . . . . . . 2500 „
10) Калінкавіцкая арцель „Энэргічная праца" . . . . . . . . 6000 „

З сродкаў НКФ за адказнасьцю Ўсекабанку атрымалі:

1) Менская арцель № 1 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 15000 руб.
2) БСІКА для арцеляў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 15000 „

Такім чынам каля пятае часткі ўсяго ліку арцеляў інвалідаў Беларусі атрымалі таварыскую дапамогу на капітальнае будаўніцтва.

3. Па прыкладу каапэрацыі інвалідаў другіх рэспублік СССР неабходна на працягу кварталу ўсім арцелям інвалідаў уступіць у пайшчыкі Ўсекабанку і адлічаць пэўны процант ад свайго паявога капіталу ў паявы капітал Усекабанку. Гэтым яшчэ мацней будзе замацована сувязь паміж Усекабанкам і каапэрацыяй інвалідаў, і яшчэ мацней Усекабанк будзе, адчуваць сябе абавязаным найлепш абслугоўваць фінансавыя патрэб каапэрацыі інвалідаў.

Усекабанк па гор. Менску ўзяў на сябе аплату вэксалёў БСІКА, сьпісваючы з яго бяг. рахунку адпаведную суму, а таксама Ўсекабанк атрымлівае на пошце ўсе сумы, адрасаваныя на імя БСІКА, запісваючы іх у яго бягучы рахунак.

Усекабанк праз сваіх карэспандэнтаў па акруговых гарадох прымае ад арцеляў інвалідаў на бягучы рахунак БСІКА узносы у „фонд індустрыялізацыі“ каапэрацыі інвалідаў.

Асобных сяброў арцеляў інвалідаў і асобныя арцелі ў адносінах да ўсяе сыстэмы па справядлівасьці можна прыраўнаваць да працалюбівых мурашак, якія напружана працуюць над тым, каб іх муравейнік (сыстэма) усё больш і больш пашыраўся і ўзвышаўся, каб ён быў заўважан у агульнай сацыялістычнай гаспадарцы СССР.

---

**Кожная новая савецкая гаспадарка, калгас—яшчэ адна перамога СССР у справе пад'ёму вытворчых сіл вёскі і будаўніцтва сацыялізму ў краіне.**

**Другі год пяцігодкі павінен зрабіцца годам яшчэ больш хутчэйшага тэмпу індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскае гаспадаркі.**

# ЖЫЦЬЦЁ і ПРАЦА КАЛГАСАЎ

Мацьвеенка

## Пра калгас „Чырвоны Маяк“

*(Нараўлянскі раён, Мазыршчына)*

На Мазыршчыне з агульнае колькасьці 150 калгасаў на 1 лістапада зьяўляецца 13 нацыянальных яўрэйскіх калгасаў. Мне давялося абсьледваць калгас „Чырвоны маяк“. Гэты калгас арганізаваны 5 красавіка 25 г. на зямлі абшарніка. З старога складу калгасу засталася толькі адна сям'я. У сучасны момант у калгас уваходзіць 22 сям'і з 38 членамі, з іх мужчын—22, жанчын—16, падлеткаў—3, дзяцей—28.

Па сацыяльнаму становішчу рабочых—5, сялян—2, саматужнікаў—6, гандляроў другога разраду—2 і трэцяга разраду—4[1]).

Тут яскрава выяўляецца права-апартуністычная лінія ў справе неразуменьня клясавай лініі ў нацыянальных пытаньнях пры ўкамплектаваньні гэтага калгасу. Такое сацыяльнае становішча складу калгасу дрэнна адбіваецца на яго працаздольнасьці. Некаторыя лішэнцы ня зусім уважліва адносяцца да калгаснага будаўніцтва. Унутры калгасу вядзецца жорсткая клясавая барацьба, але яна прыняла тут другі напрамак і форму.

Большасьць жанчын, асабліва з сямей лішэнцаў, ня прымае актыўнага ўдзелу ў працы, аб чым сьведчыць наступная таблічка ўжываньня найманай працоўнай рабочай сілы.

| Працавала | Членаў калгасу 1928 г. | Членаў калгасу 1929 г. | Найманых раб. 1928 г. | Найманых раб. 1929 г. |
|---|---|---|---|---|
| | У працантах | | | |
| Мужчын | 70 | 85 | 30 | 15 |
| Жанчын | 40 | 70 | 60 | 30 |
| Падлеткаў | 98 | 100 | 4 | 0 |

У сярэднім ужывалася найманых чалавека-дзён у 1928 г.—30 проц., ў 1929 г.—20 проц. у адносінах да ўсіх рабочых дзён.

Вялізнае ўжываньне найманай рабочай сілы прымушае гаспадарку скарыстоўваць значныя кароткатэрміновыя і доўгатэрміновыя крэдыты, што бязумоўна зьмяншае тэмп накапленьня непадзельных капіталаў і наогул матар'яльных рэсурсаў у калгасе.

Калгас мае 20.000 руб. запазычанасьці дзяржаўным крэдытным установам. Рахункаводзтва вядзецца, але балянс на 1-ае кастрычніка 1929 г. яшчэ ня зроблен.

Калгас земляўпарадкаван у 1926 г. з агульнай плошчай 560 гкт. Ворнае зямлі—228,17 га, сенажаці заліўное—33 га, сенажаці сухадольнае—115, выгану—7,78 га. Уся сенажаць знаходзіцца на адлегласьці 15 клм. ад гаспадарчага цэнтру, што зьвязана з лішнімі транспартнымі выдаткамі ў час уборкі і перавозкі сена. У гэтым годзе калгасам закантрактавана канюшыны на насеньне—5 га, аўсу—40 га, бульбы—8 га, табакі-махоркі—1/8 га, лубіну—5 га і 3 бычкі. Таварнасьць калгасу ў 1929 годзе наступная: здадзена дзяржаве і каапэрацыі малака ў сьвежым відзе — 20.500

---

1) Факты ўзяты з інструктарскага абсьледваньня.

літраў, мукі жытняй—360 пуд., жыта—700 пуд., бульбы—3.400 пуд., яблыкаў—3000 п., капусты—750 п. буракоў—250 п., цялячых скур—16 шт.

Калгас яшчэ не прыступіў да малацьбы яравых, з прычыны адсутнасьці складанай малатарні, але ён выдаў крэдытнаму Нараўлянскаму т-ву сахранную росьпіску на 1.200 пуд. аўсу.

Калгас мае 54 галавы буйнай рагатай малочнай жывёлы, пераважна мясцовай палепшанай і нямецка-галяндзкай пароды. Цялят 2-х летак—4 гал., цялят гадавых - 9, з іх бычкоў—7, цялят менш 1 году—10, рабочых коняй—24, жарабят—3, 1 жарабец-вытворца, сьвіней—6 надворных, 1 кормная, падсьвінкаў—2, адзін бораў, парасят—19. Гаспадарка мае ўхіл жывёла-паляводчаскі. Буйную рагатаю жывёлу ў гэтым годзе неабходна выбракаваць ў колькасьці 10 галоў, бо ўтрыманьне жывёлы дробнае пароды зьяўляецца нерэнтабельным.

У калгасе ёсьць вялікая колькасьць складаных с.-г. машын і прыладаў: снопавязалак—2 шт. (1 папсаваная, якая патрабуе рамонту), конных грабель—2, спрунжынных боран - 3, культыватар—1, боран драўляных з жалезнымі зуб'ямі—100, каткоў конных—4, карняплодкапацеляў—2, саккаўскіх плугоў 2-х лямешных—4, сухеняўскіх—13, касілак—2, жнярак „Мак-Кормік"—1, веялак—2, трыераў—1, сеялак разбрасных для ўгнаеньня насеньня—2, жмыхадрабілак—1, саломарэзак - 1, лакамабіляў—2, трактараў—1, сэпаратараў—1, маслабоек—1. Акрамя пералічаных машын і прыладаў, у гаспадарцы ёсьць шэраг простых с.-г. машын і прыладаў, якіх нельга тут пералічыць.

У бліжэйшы час у калгасе пачынае працаваць камбінаваны паравы млын з прасарушкай і воўначоскай. У гэтым годзе калгас засеяў, раскідным пасевам, гатунковым пяткускім жытам 75 га, падрыхтавана на 1000 дрэў 10 га фрутовага саду.

Калгасам заключан дагавор па сацыялістычнаму спаборніцтву, але ён на справе не ажыцьцяўляецца. Праўленьне, вытворчая нарада і ўсе члены калгасу не займаюцца гэтай важнай справай. Дагавор не правяраецца, толькі ў апошні час наглядаецца невялікі пералом. Па ініцыятыве праўленьня, вытворчай нарады калгасьнікамі арганізаван суботнік па рамонту шляхоў і пабудове сьвірна. Вытворчая нарада пачала займацца рамонтам хлявоў для жывёлы, вырабам кармушак для кароў, складаньнем кармавых норм для жывёлы.

Насьценгазэта, якая павінна быць ў калгасе завадыяшом у правядзеньні мерапрыемстваў партыі і ўлады, не адбівае на сваіх старонках дасягненьняў і недахопаў, якія ёсьць у калгасе.

Калгас недаўкамплектаваны членамі, яго неабходна пашырыць да 35 сямей. Але з прычыны адсутнічаньня жыльлёвых памяшканьняў калгас замкнуўся. Раённая і вучастковая аграномія ня цікавіцца працай і будаўніцтвам калгасу. Калгас ня мае сваіх кваліфікаваных спэцыялістых і к раўнікоў, якія маглі-б даць добры напрамак у разьвіцьці буйнай сацыялістычнай гаспадаркі.

Культурна-бытавая праца ў летні час была ў заняпадзе. Культкамісіяй выдаваўся ў 3-4 месяцы адзін нумар насьценгазэты. У гаспадарцы ёсьць клюб, у якім праводзяцца сходы і спэктаклі, але ён знаходзіцца ў хаотычным становішчы. Сучаснае літаратуры ў калгасе няма. Газэты выпісваюцца паасобнымі членамі калгасу, але ў недастатковай колькасьці. Радыё, якое ёсьць у калгасе, бязьдзейнічае.

Да гэтага часу многа сямей не пакінула рэлігійных настрояў калгасу: ледзьве ўдалося перайсьці на новы дзень адпачынку—аўторак. З восені ў

калгасе пачала прачаваць школа, у якой займаецца 10 дзяцей калгасьнікаў і 25 ваколічнага насельніцтва. Увечары працуе лікбезаўскі гурток, якім ахоплена 12 асоб.

Партыйная праслойка ў калгасе адсутнічае. Кіраўніцтва акруговых, раённых, савецкіх і па тыйных устаноў зусім не адчуваецца. Акркалгассаюз цікавіцца пастаноўкай працы і дасылае ў калгас на пэрыодычную працу сваіх працаўнікоў. У зьвязку з арганізацыяй у Нараўлянскім раёне куста, ў які ўваходзіць і калгас „Чырвоны Маяк“, палепшылася наведваньне і кіраўніцтва з боку аграноміі.

Ня гледзячы на цэлы шэраг недахопаў у калгасе, гаспадарка ў ім усё ўзмацняецца. Для аздараўленьня калгасу неабходна ў бліжэйшы час павялічыць бядняцка-серадняцкую праслойку, узмацніць партыйнае кіраўніцтва акруговых,раённых органўа.

---

Я. Палескі

# Як мы жывём і працуем

*Паміж значных дасягненьняў у калгасе імя „1-га жніўня“ (Нараўлянскі раён, Мазыршчына) ёсьць і шэраг недахопаў.—„Я ўстрымліваюся ад абавязковага ўступленьня ў калгас“—кажа сэкратар ячэйкі КП(б)Б. т. Іодка. Кіраўніцтва і праца ячэек КП(б)Б і КСМ слаба вядзецца.—„Уничтожим шпионов“.—„Што будзец рабіць, калі прыдуць палякі?“ „...Мне страшна вайна“. Беднякі выкрэсьліваюць свае прозьвішчы з сьпіскаў беднаты. Ксёндз і кулакі арудуюць.*

У Мазырскай акрузе на 1-ае лістапада налічваецца 144 калгасныя гаспадаркі. Юравіцкі раён пераходзіць да суцэльнай калектывізацыі, дзе ўжо арганізавана 25 калгасаў і абагулена да 25 проц. усяе зямельнае плошчы. Прынцыпы і ідэі калектывізацыі пачынаюць пранікаць у самыя глухія вёскі і хутары Мазыршчыны. Не адстае калгаснае будаўніцтва і ў польскіх нацыянальных с/саветах і вёсках. На Мазыршчыне мы маем 5 польскіх нацыянальных калгасаў. Амаль усе гэтыя калгасы з'арганізаваны ў 1929 годзе. Стварэньне польскіх калгасаў праходзіла пры актыўным супраціўленьні з боку кулацтва, ксяндзоў і іншых варожых элемэнтаў.

Калгас „1-га Жніўня“ з'арганізаваны ў 1929 годзе. У склад яго ўваходзіць 10 гаспадарак з 20 членаў, 35 едакоў. Па сацыяльнаму становішчу: батракоў—8, беднякоў—7 і серадняков—5.

Па пляну намечана увясну калгас земляўпарадкаваць і адвесьці 500 га. Маёмасьць і жывёла абагулены. Кароў малочных калгас мае—21, ялавак—6, двухгодак—3, цялят—3, сьвіней гадавых—7, кормных—1, маладняка—4-6 месячнага—6 шт. Цягавая сіла недастатковая. Коняй рабочых—9, з іх з патрабуюць замены. Па сканчэньні палявых работ калгас прыступае да пабудовы гумна і агульных хлявоў. Калгасу перададзена 6 жыльлёвых будынкаў з дзяржмаёмасьці. Увясну іх намечана абагуліць у адзін жыльлёвы дом. Акрамя гэтых будынкаў, вядзецца падрыхтоўчая праца па пабудове памяшканьня на 10 кватэр для новых членаў. Калгасу перададзена лесапілка з млынам, якая патрабуе капітальнага рамонту ў суме каля 2.000 руб. Калгас атрымаў у кастрычніку г. г. 1650 р. крэдыту, з якіх 600 руб. на жывёлу і 1050 р. на каапэраваньне беднаты. Сельска-

гаспадарчым т-вам калгасу прадастаўлена на 400 руб. крэдыту на набыцьцё с.-г. машын і прыладаў. У васеньнюю пасеўкампанію сіламі калгасу засеяна 20 га азімага жыта.

Культурная праца ў калгасе пачынае займаць выдатнае месца. Да калгасу далучана 3-х камплектавая нацыянальная школа і хата-чытальня. Арганізавана партшкола-адзінка па праходжаньню ленінізму і пытаньняў бягучай палітыкі. Разгарнуў сваю працу с.-г. гурток, якім ахоплена 15 асоб. Пры школе працуе лікпункт на 20 асоб. У чытальню выпісваюцца газэты: „Праўда“—1 экз., „Зьвязда“—1 экз., „Орка“—5 экз., „Трыбуна Радзецка“—1 экз. і часопісь „Шляхі калектывізацыі“.

Да сьвята Кастрычнікавай рэвалюцыі было вызначана скончыць пабудову калгасам клюбу на 300 асоб.

Настрой калгасьнікаў добры, усе цьвёрда ўпэўнены ў сваей будучыне і працуюць з энтузыязмам.

А што рабіла і робіць партыйная і камсамольская ячэйкі Аляксандраўкі? У калгас уступілі член КП(б)Б старшыня с/савету тав. Позьняк, які абран старшынёю савету калгасу і 6 камсамольцаў. Сакратар партыйнай ячэйкі т. Іодка дагэтуль прыкрываецца ўсялякімі агаворкамі і ня ўступае ў калгас. Ён заяўляе—я—„служачы, для мяне гэта неабавязкова“. Бедната на сходах адзначае гэта недапушчальнае зьявішча, калі партыйцы-камсамольцы ня ўступаюць ў калгас. Гэтага мала, тав. Іодка, як сакратар партыйнай ячэйкі разлажыў камсамольскую ячэйку. Члены КСМ бралі раўненьне па „правадыру“. Калі на бюро КСМ ставілася пытаньне аб ўступленьні ў калгас т.т. Сікорскага, Будкоўскага і Сьлізенка, ніхто іншы, як сэкратар ячэйкі КП(б)Б т. Іодка замест узьдзейнічаньня і асабістага прыкладу плёўся ў хвасьце і выступаў супроць: „я пакуль што ўстрымліваюся ад абавязковага ўступленьня ў калгас“, у выніку чаго некаторыя камсамольцы дэзэртыравалі ад уступленьня ў калгас.

Партыйная чыстка Аляксандраўскай ячэйкі прайшла. Па якому выпадку т. Іодка застаўся ў партыі—нікому невядома. У партыю Іодка ўступіў у 1924 годзе. Маці і сястра яго цяпер яшчэ гандлююць у Калінкавічах, брат высланы за бандытызм за межы БССР, з якім па гэты час Іодка падтрымлівае сувязь і нават хадайнічаў аб яго аслабаненьні. Ужо пасьля чысткі ячэйкі т. Іодка застаўся на працы ў Аляксандраўскай каапэрацыі і там ужо сябе паказаў: з атрыманых 5-ці пуд. пшанічнай рацэптовай мукі для дзяцей Іодка засвоіў сабе 3 пуды. Калі быў расстрэлян вядомы Аляксандраўскі контррэвалюцыянэр Сікорскі—„партыец“, Іодка хныкаў: „а мне шкада яго, я лічу, што Сікорскі быў добры чалавек“—так ён заяўляў некаторым партыйцам і камсамольцам. Вось, якія тыпы кіруюць працай ў нацыянальным с/савеце.

РК і РВК слаба ўдзялялі ўвагі кіраўніцтву працай ў нацыянальных калгасах.

Бедната да кастрычніка ня была каапэравана. Мухаедаўскае с./г. т-ва „надзяліла“ калгас „гатунковым насеньнем“, якое аказалася зусім нягодным для пасеву, пасьля перасартыроўкі атрымалася 40 проц. глуму.

Пры перадачы дзярж. маёмасьці РВК ня прыслаў свайго прадстаўніка. Судовы выканаўца на маёмасьць арганізаваў таргі, дзе заможная частка падняла цану, і калгасьнікі не змаглі сабе купіць неабходныя прылады і розныя хатнія рэчы.

Калі партыйная і камсамольская ячэйка, за выключэньнем некаторых таварышоў, не займаліся дастаткова пытаньнем калгаснага будаўніцтва і барацьбы з кулацтвам, дык ксёндз і контр-рэвалюцыйныя элемэнты ня толькі з Аляксандраўкі, але нават з суседніх вёсак УССР вялі актыўную варожую працу. Ксёндз, які знаходзіўся ў мястэчку Хабнае Старасьценскай акругі, трымаў цесную сувязь з кулацтвам і пры арганізацыі калгасу праводзіў работу па падрыву яго. Калі калгасьнікі, перадавая моладзь арганізоўвалі драмгурток, ён жадаў пераіменаваць яго ў гурток „пеўчых“. Кулацтва і ксёндз дасяг-

нулі нават некаторых посьпехаў. Аляксандраўка ўжывала іх лё зунг. Не рабілася клясавага распластаваньня Знаходзіліся загітаваныя беднякі, якія нават выкрэсьлівалі сваё прозьвішча з сьпіскаў беднаты.

Пры падрыхтоўчай працы па арганізацыі калгасу кулакі стваралі нелегальныя сходы, а таксама праводзілі індывідуальную апрацоўку батрацтва, беднаты і серадня коў. На агульных сходах у прэзыдыум, калі ставілася пытаньне аб пабудове калгасу, падкідваліся „запісачкі“ „уничтожим шпионов“, падразумяваючы пад гэтым членаў партыі, камсамол, бядняцкі актыў. Сялянам задаваліся ўсім вядомыя пытаньні: „што будзеце рабіць, калі прыдуць палякі“. Некаторыя манэўравалі: „я сёньня гатоў уступіць у калгас, але мне страшна вайна“, робячы напамінак на прыход белапалякаў. Многія з мэтай захаваць свае контр-рэвалюцыйныя грашкі, уступілі ў калгас, спадзяючыся на яго няжыцьцёвасьць, а калі калгас пачаў гаспадарча і сацыяльна мацнець, падкулачнікі выйшлі з калгасу.

Там, дзе раней панавала рэакцыйная эксплёататарская каста кулакоў і ксяндза, пачынае вырастаць сацыялістычная база сельскай гаспадаркі. Батрацтва, бедната і серадня кі пад кіраўніцтвам здаровай партыйнай часткі ўзяліся за сваю родную працу.

Нягодны элемэнт камсамольскай ячэйкі вычышчан. У бліжэйшы час партыйную і камсамольскую ячэйкі неабходна папоўніць калгасьнікамі-беднякамі і батракамі. Нягоднае кіраўніцтва партыйнай ячэйкі трэба зьмяніць і рашуча павесьці барацьбу з кулацка-ксяндзоўскім элемэнтам шляхам выхаваньня ў Ленінскім сьветапоглядзе бядняцка - серадняцкага актыву.

**Батракі, бедната, серадня кі, цясьней вакол партыі Леніна ў барацьбе з кулаком, за сацыялістычную перабудову вёскі!**

# НА МЕСЦАХ

Агей Перабіла

## Да пытаньня разьмяркоўваньня тавараў у вясковай каапэрацыі паміж пайшчыкамі

Перажываемы пэрыод тавarнага недахопу і асабліва дэфіцытных тавараў—гэта балючы момант у каапэрацыі і найбольш у вясковай. Пры такім становішчы разьмяркоўваньне тавараў паміж пайшчыкамі мае вялікае значэньне. Тут патрэбен вельмі асьцярожны падыход і ўмелая пастаноўка працы. Што-ж мы бачым на самай справе? Бачым, што ў некаторых вясковых каапэрацыях справа абстаіць ня зусім добра. Неправідловае разьмеркаваньне тавараў выклікае вялікае абурэньне, розныя нездаровыя настроі і ў больш несьвядомай часткі пайшчыкаў нават нараканьне на ўладу. Каб ня быць галаслоўным, папрабуем ілюстраваць гэты момант селькораўскімі лістамі.

Рэдакцыя атрымлівае шмат лістоў аб працы каапэратываў на вёсцы. І вось большасьць гэтых лістоў прасякнуты скаргамі на няправільнае разьмеркаваньне тавараў. Першае, куды ўпіраецца нездавальненьне—гэта ў прыказчыкаў. У вясковых каапэрацыях прыказчыкі, звычайна, людзі мясцовыя. У іх, вядома, ёсьць радзіна, розныя сваякі, блізкія людзі, знаёмыя і г. д. Вось тут нашы прыказчыкі пасуюць, што называецца. Вось, што піша селькор з м. Бобр: „Працаўнік каапэрацыі Патапаў Даніла зачыняе перад адыходам краму, пакідаючы там сваіх і дае ім тавары“.

Другі селькор піша, што ў Траскоўскай краме прыказчык Бажок дае тавары сваім знаёмым, ня ўпісваючы іх у кніжку. Гэта дае ім магчымасьць атрымліваць тавары па некалькі разоў.

Найбольш характэрным у гэтым моманце зьяўляецца ліст селькора К. В. з Самахвалавіч. Ліст гэты, бадай, будзе прыкладам для шмат якіх каапэрацый і шмат якіх прыказчыкаў. Ён адлюстроўвае ў сабе вялікую колькасьць усіх лістоў такога зьместу. Мы бяром яго для прыкладу. Вось што пішацца ў ім: „Тавар, які пападае ў нашу каапэрацыю,—гэта сакрэт. Аб часе знахаджэньня яго ў каапэрацыі, так і разьмеркаваньні, за выключэньнем некаторых „надзейных“ і сваякоў-ніхто ня ведае. Загадчык цэнтральнай крамы т. Каплан паведамляе толькі сваіх. За разьмяркоўваньнем тавараў ніхто ня сочыць, ніякага падліку ў гэтым напрамку не вядзецца. Далей характэрны ідзе момант аб самім малюнку першага дня пасьля разьмяркоўваньня тавараў. Вось што наглядаў той-жа Самахвалавіцкі селькор К. В.

„Калі я накіроўваўся да каапэратыву, дык убачыў, што там *рабілася* нешта нябывалае: крык, гоман і таўкатня ў запруджаных людзьмі дзьвярах была вялікая, адкуль пасьля вырваўся абліты ўвесь потам мужчына. Ён доўга ня мог загаварыць з-за стомленасьці. Гэта быў аб'ежчык. Пакуль ён выбіўся адтуль, дык у яго лопнула папруга на жываце і недзе засталася там у натоўпе“.

Далей селькор зазначае, што пры такой разьмяркованасьці тавараў ёсьць абурэньне супроць улады і нават нацыянальная варожасьць, паколькі прыказчыкам зьяўляецца яўрэй.

Можна было-б прывесьці для прыкладу яшчэ не адзін дзесятак такіх момантаў, але нам здаецца, што хопіць для ілюстрацыі і гэтага, бо амаль усе яны ўпіраюцца ў адно пытаньне—у

пытаньне правільнага разьмяркоўваньня тавараў.

Такім чынам, мы бачым, што сапраўды тут ня ўсё добра. Такія зьявішчы ёсьць, яны спараджаюць розныя настроі і нездавальненьне. Усе гэтыя прыказчыкі, якія няправільна разьмяркоўваюць тавары могуць падрываць працу свае каапэрацыі. Усякія няправільныя дзеяньні ў разьмеркаваньні тавараў даюць сябе адчуваць—пайшчыкі ходзяць, наракаюць на ўладу, на ўсю сыстэму каапэрацыі, заместа таго, каб адразу выявіць вінаватых у гэтай справе.

Паўтараем што гэта пытаньне на сёньняшні дзень самае актуальнае ў вясковай каапэрацыі, на яго патрэбна зьвярнуць увагу. Праўленьням каапэрацыі патрэбна прыглядзецца да сваіх прыказчыкаў, пры чым самім таксама ўхіляцца ад памылак. У разьмеркаваньні тавараў павінен быць вызначаны кантроль ад самых пайшчыкаў—гэта значна палепшыць працу каапэрацыі і будзе менш нараканьняў, усякіх „поговорочек“. Зводзіць такія пытаньні да пытаньняў дробязных нельга. Каапэрацыйны актыў павінен сачыць за тымі прыказчыкамі, якія працуюць у каапэрацыі для сваякоў, для знаёмых, для свае карысьці, павінен паказваць на непахопы працы, на няправільныя дзеяньні, даводзячы аб злосных ужываньнях да належных органаў.

Толькі агульнымі сіламі магчыма пазбавіцца ўсіх тых ненармальнасьцяў, усіх тых недахопаў, якія зараз наглядаюцца ў каапэрацыі ў зьвязку з разьмеркаваньнем дэфіцытных тавараў.

Р. Л—оў

# Цялускім каапэратарам мёду хочацца

У 15 кілёмэтрах ад Бабруйску працуе Цялускае спажывецкае таварыства[1]). Як працуе, як яно жыве, якія вынікі яго працы,—аб гэтым мала хто ведае.

А справы, якія крыюцца і творацца ў Цялускім спажывецкім т-ве, варта ведаць ня толькі селяніну-пайніку з Цялушы, а кожнаму спажывецкаму т-ву, кожнаму пайніку каапэрацыі, усёй савецкай грамадзкасьці.

У сувязі з чысткай савецкага і каапэрацыйнага апарату, вылучанай камісіяй, пры актыўным удзеле беднаты і самых пайнікаў, зроблены агляд працы і становішча Цялускага т-ва, і вось што знойдзена гэтым аглядам.

На працягу апошніх год Цялускае спажывецкае т-ва зьяўлялася лепшым прыкладам таго, як не павінна працаваць каапэрацыя. Безгаспадарчасьць, растраты, няўвага да запатрабаваньняў пайнікаў, невыкананьне дырэктыў партыі і савецкае ўлады ў галіне каапэрацыі,—вось характарыстыка гэтага таварыства.

[1]) Матар'ялы ўзяты з чысткі сав. апарату Бабруйскай акругі.

## 1. Як па-цялуску каапэруюць беднату, і куды такія справы вядуць

Узяць хаця-б такія галіны працы т-ва, як каапэраваньне беднаты і правядзеньне рознага (дыфэрэнцыяванага) паю. Да гэтага часу маецца 360 р. нескарыстанага фонду для каапэраваньня беднаты. 360 руб. ва ўмовах бядняцкага раёну! Што гэта, памылкова вызначаны фонд і не скарыстаны па адсутнасьці беднаты для каапэраваньня, ці недапусьцімы праступак праўленьня? Беднаты па раёну дзейнасьці т-ва хапае, але прычына ў тым, што праўленьне аб ёй ня ведае. Бедната вакол каапэрацыі не арганізавана, працы з ёй ніякай не праводзіцца, ніякія пытаньні з ёю не абмяркоўваюцца, і праца па каапэраваньні беднаты адбываецца „самацёкам“. Крута стане якому-небудзь бедняку без паявой кніжкі, ён ідзе ў сельсавет, дзе яму пішуць даведку, што ён ня плоціць падатку, і па гэтай даведцы праўленьне т-ва яго каапэруе.

Але і тут маецца своеасаблівы „падыход“: **вызваленыя ад падатку**

**беднякі** Аўрамчык Рыгор і Ступень Аксіньня каапэраваны **па 1 рублю, а серадняк** (!?) Сяліцкі Павел **каапэраван на 5 руб.**

Вось вам ужо і „дыфэрэнцыяваны пай!

У сапраўднасьці малюнак з разьмеркаваньнем рознага паю такі: для ўсіх серадняко ў да 1 кастрычніка г. г. быў устаноўлены **аднакавы**—15 р., з 1 кастрычніка устаноўлены другі—25 руб., але зноў **для ўсіх сераднякоў аднолькавы!**

Растэрміноўкі па ўнясеньню паёў маюць таксама ўсе падставы, каб паслухаць аб іх з увагай, бо да таго-ж „арыгінальна", „самабытна" пацялускі яны зроблены: **індывідуалам** Вавулу Янку і Ермаленку Янку пай растэрмінованы на 10 месяцаў і **вызваленаму ад падатку бедняку** Аўрамчыку Васілю—таксама на 10 месяцаў, а **каапэраванаму бедняку** Васілёву Дзям'яну растэрміноўка паю зроблена толькі на 8 месяцаў!

Такі-ж малюнак і ў спагнаньні паёў.

Скажаце, што ўсе вышэйпададзеныя факты ёсьць паасобныя выпадкі, што для характарыстыкі каапэраваньня беднаты, разьмеркаваньня і растэрміноўкі паёў цалкам яны недастатковы? Тады падумайце, таварышы-чытачы, сур'езна падумайце: а ці могуць быць такія выпадкі ў час абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы, і ці не паказваюць гэтыя выпадкі на самае грубое скрыўленьне клясавай лініі ў Цялускім спажывецкім таварыстве?

Савецкая грамадзкасьць інакшай назваць гэтую справу ня можа.

## 2. Мёд, мука, тара і сьпісаныя тавары.

Цяпер паглядзім на становішча самога спажывецкага т-ва і на яго гандлёвыя парадкі.

Па-першае—крамы. Самае жахлівае ўражаньне пакідаюць яны ад свайго абсталяваньня. Ды яго, па праўдзе, і няма. Хіба-ж можна ўгледзець якое-небудзь абсталяваньне ў бакалейнай краме, дзе вагі дзесятковыя стаяць... на прылаўку, і дзе, каб прыняць прывезенае зерня, трэба спачатку добра памучыць селяніна на гэтых чортавых вагах, а потым канчаткова вывесьці яго з цярпеньня марудным перасыпаньнем зярна з меха ў мех, бо засекаў для гэтага ў краме ня зроблена.

А ўсё гэта азначае, што калі, прыкладам, дзесяць чалавек прыедзе разам здаваць хлеб, дык аднаму з іх напэўна прыдзецца везьці свой хлеб дадому альбо кінуць начаваць у краме няпрынятым, што не адзін раз і было.

У гэтай-жа бакалейнай краме пад прылаўкам, у мяхох, на сырой падлозе трымаюцца мука, крупы, цукар, мыла, скураная сыравіна і старызна, а побач—газа і каламазь!.. Ну, скажэце, каму прыемна атрымаць кілё цукру альбо круп, якія добра выва-ляліся ў склізкай салёна-содавай жыжцы, што цячэ з-пад засоленых скураў, альбо мукі, якая набралася духам газы і каламазі? Ды гэта-ж проста зьдзек над чалавечымі пачуцьцямі.

Ці не таму так шчодра гноіць праўленьне зямлю, сьпісваючы з рахункаў розныя спажывецкія тавары? Вы толькі паслухайце: актам № 1 сьпісана папсаваных селядцоў на 5 руб. 28 к., актам ад 9/ІІ сьпісана селядцоў на 6 руб. 32 кап., актам ад 9/ІІІ сьпісана шпротаў на 2 руб. 49 кап., актам ад 8/ІV сьпісана сала, мяса і пячэньня на 16 руб. 15 кап., актам ад 24/ІV сьпісана сьвежай рыбы на 10 р., актам ад 22/ІV сьпісана 2 кілё селядцоў, па фактуры № *2986 сьпісана..* ды ці можна пералічыць усё тое, што сьпісана т-вам для ўгнаеньня цялускай зямлі? Варта адзначыць, што пералік гэтых „сьпісаных" тавараў займае ў акце абсьледваньня добрых паўстаронкі. Ня малае месца *паміж* імі займае і гарэлка з півам, сьпісваліся яны „воптам"—на 10, на 15 рублёў разам!

Тут ужо прычына не зразумела... Аб гэтым трэба некаму добра падумаць, бо яшчэ ўмеюць часта нашы каапэратары выпіваць і закусваць на

рахунак каапэрацыі, а потым сьпісваць прапітыя тавары, як папсаваныя. [1])

Ня дзіва пасьля гэтага, што процантныя надбаўкі, вызначаныя Акрсаюзам на тавары, падвышаліся амаль удвойчы. Так, на луцьце надбаўка ўстаноўлена 12 проц., прадавалі з надбаўкай 20 проц., на пшонную муку надбаўка ўстаноўлена 11 проц., прадавалі з надбаўкай 17 проц., на соль надбаўка ўстаноўлена 5½ проц. прадавалі з надбаўкай 10 проц. і г д.

Але самы цікавы прыклад гаспадараньня паказала праўленьне Цялускага т-ва на муцэ.

Атрымала т-ва муку для раздачы рабочым, занятым на распрацоўках Бабруйскага лясьніцтва. У якім стане была прывезеная мука—невядома, але калі прышлося раздаваць гэтую муку рабочым, дык выкалачвалі яе з мяхоў ня іначай, як... разьбіваючы дваццаціхунтовымі шалямі, бо мука згарэлася...

Рабочыя ад мукі адмовіліся, а праўленьне „зрабіла ласку"—100 пудоў гэтай мукі яно раздало беднаце і служачым у якасьці пайка, а рэшта пудоў—каля 50 і зараз валяецца ў краме, як нягодная к продажу.

Сапраўды, „калі топішся, дык і за шчэпку хопішся",—трэба-ж было неяк прыкрыць стыднае месца, а тым часам і грошы вярнуць.

І вярнулі. З гонарам, можна сказаць...

Тое самае з мёдам.

Захацелася праўленьню мёдам пагандляваць. Разумнае хаценьне ў разумных каапэратараў. Чаму не закупіць мёду рублікаў гэтак на сто. Глядзіш, пасьля продажу нейкі рубель прыбытку будзе! І закупілі. Праўда, аказаліся разумнымі не закупшчыкі, а прыказчыкі, якія былі супроць гэтай закупкі, бо ім нейдзе было падзець яго, ды і попыту на мёд ня было. Грэла толькі сонейка, бо было лета, і на 75 рублёў мёду прышлося адправіць туды, куды адпраўлялі і ранней сьпісаныя тавары.

Салодка абышоўся мёд! Ад душы нехта пасьмяяўся з разумнікаў...

Прагарае т-ва на кожным кроку. З дымам-пылам вылятаюць на вецер грамадзкія чырвонцы, а праўленьне т-ва, заместа карэннай і канчатковай перабудовы свае працы, займаецца тым, што хапае само сябе за валасы. У прыказчыкаў дэфіцыт, але ці-ж гэта непаправімая справа? І прыказчык бакалейнай крамы Дудаль рабіў проста: ён складаў акты на тару, дзе бочкі з-пад сёлядцоў запісваліся вагой у 4 пуды, малыя бачонкі—ў 2 пуды і г. д. Акты Дудаль складаў і падпісваў (некаторыя нават і не падпісваў) сам, а потым ішоў да рахункавода, які з дазволу праўленьня сьпісваў яму тару па цане адпаведных тавараў, сьпісаўшы такім чынам Дудалю больш за 700 рублёў грошай.

Так пакрываліся дэфіцыты ў прыказчыкаў.

А чым пакрываліся дэфіцыты ў т-ве? Нічым. Яны расьлі... Расьлі дэфіцыты, пышнымі кветкамі расьцьвіталі растраты, заблытвалася рахункаводзтва...

У акце аглядавай брыгады так і адзначана;

**„Рахункаводзтва і ўся канцэлярыя—ў самым дрэнным становішчы; немагчыма ўстанавіць, якія дырэктывы выкананы і як яны выкананы; паперы не падшыты; кнігі не падагнаны"...**

### 3. Грозен рак, ды вочы ззаду...

А дзе-ж былі вочы рэвізійнай камісіі, куды яны глядзелі і за чым глядзелі? Рэўкамісія, аказваецца, выяўляла... Выяўляла і пагражала...

Лепш за ўсё яе характарызуе праца па выкрыцьцю растратчыкаў: актам ад 25/II выяўлена растрата ў 263 руб. 42 кап., актам ад 26/II выяўлена растрата ў 787 рублёў, потым

[1]) Варта прыпомніць, прыкладам, Гарадзецкую каапэрацыю, дзе паміж прыказчыкам, старшынёй праўленьня і рахункаводам (ён-жа... старшыня рэўкамісіі!) у мінулым годзе ў гэткіх справах была самая цесная спайка.

дзьве растраты па 70 рублёў і шэраг дробных. І ні за адну растрату прыказчыкі пад суд не аддадзены, ім толькі пагражалі, што ў выпадку непапаўненьня растраты яны будуць аддадзены пад суд, з якой прычыны і грошы да гэтага часу ня ўзысканы, і прыказчыкі-растратчыкі гуляюць на волі.

### 4. Пралетарскі суд навучыць

Зараз справа аб Цялускім спажывецкім таварыстве перададзена камісіяй па чыстцы сав. апарату ў Бабруйскую акрпракуратуру для тэрміновага дасьледваньня.

Трэба спадзявацца, што пралетарскі суд выкрые прычыну тых недарэчнасьцяў, якія тварыліся ў Цялускім т-ве. Выкрые і зробіць тыя вынікі, якія ўжо даўно чакаюць цялускіх каапэратараў. Праўда, адзін з іх не захацеў далей жыць і застраліўся, але гэта ня важна.

Калі ня цялускім, дык другім каапэратарам, да іх падобным, мёду больш не захочацца.

---

Макар Валацуга

# Па каапэрацыйных ухабах

Па каапэрацыях хаджу
за парадкамі сачу.

*(Мая ўласная прыказка)*

*(Артыкул прысьвячаю каапэрацыям, старшыням і прыказчыкам, але канешне ня ўсім)*

### I. Каапэрацыям

„Дзёгаць і цукар—аднэй
крамы ягады, або іначай—
гара з гарой ня сыйдуцца,
а цукар з дзёгцам можа“.

Па парадку першае слова мае **Путчынская спажывецкая каапэрацыя, Койданаўскага раёну, крама № 2.**

— Тавары прывозяцца кожную сераду. Раскідаюцца па ўсіх паліцах. Паўнейшае роўнапраўе. Цукар спакойна ляжыць з газай і каламазьзю. Мяшкі з цукрам стаяць у такім месцы, у якім хто хоча па іх з рукамі лазіць. Праскурантаў ярлычковых на цэны ніякіх няма. Усёроўна. Усе роўныя. Адно з адным ляжыць і ніякой дыфэрэнцыяцыі на цэны не патрабуецца. Бярэце прыклад. Прыклад кажаце браць? Нашто! Мо' ў нас, гэта справа раней куды лепш пастаўлена. Прашу наперад не заскакваць. Слухайце, ў нас як:

— **Наша Залускае спажывецкае т-ва „Беларускі Працаўнік“**, Бабруйскай акругі, зусім па другому працу ладзіць. У нас дзежка з дзёгцем ня ў краме, а на двары, таму ў нас ня дзёгаць проста, а „вададзёгаць“ завецца.

— А чаго-ж вакеньніцы зачынены ў вашай краме?

— Як чаго? У нас кожны дзень так. Адчыняем позна і зачыняем рана. Абедаем мала: гадзіны 2-3. Ды як-жа раней і ня выходзіць, бо наш дзелавод і „далбануць“ любіць. А тавару ня так шмат. А калі ёсьць, то ці ты адчыняй краму, ці не, усёроўна разьбіраюць. Толькі дай. Бяруць пайнікі і няпайнікі і галоўным чынам наш паважаны Міхась Мельнік. Хоць ён і спэкулянт і кулачок, але свой добры чалавек.

— А наша-б каапэрацыя ў **в. Замоцьце, Халопенецкага р-ну**, і рада была-б адпусьціць тавару, ды няма. Ды нашто яго прывозіць—кажа прыказчык Грыцкевіч: прывязі—для мяне горш. Аблічуся яшчэ. А так вось пудра ёсьць, паяскі ёсьць і хопіць пакуль. А пакуль жыві ды пасьвіствай. Вось жа, напрыклад, пасьвістваюць некаторыя каапэрацыі хоць-бы тая самая **Путчынская, Койданаўскага раёну.**

Загатоўка ідзе. Няхай ідзе. 22/X кабана прывезьлі для продажу. Прывезьлі ў каапэратыў. Так. А ён зачынены мусіць быў. Так от сала з кабана пайшло ня ў краму каапэрацыі, а прыватніку. А ў каапэрацыі не адзін лёзунг вісіць: „Даб'ем прыватны гандаль сваёй уласнаю рукой".

## 2. Розным каапстаршыням

„Пстрыкні яго ў нос,
а ён хвастом крутне,
або лезе ў ваўкі, а
хвост сабачы.

Вы сумленны чалавек?

Сумленны. Дык от зайдзеце ў **Мсьціскае спажывецкае т-ва, Бягомльскага раёну**. Там вас напаткае старшыня т-ва Мароз. І калі вы яму што ня ўладзіце, ён не глядзіць, ці вы ў лапцёх, ці вы ў ботах, ці сыты, ці вы галодныя і наогул ня ўлічыць вашага сацыяльнага становішча і бух вам:

— Кулак ты!

О, як у чалавека распалілася „клясавае чуцьцё", да „бесчувствия", як кажа адзін мой знаёмы. Затое, от, другое дзела са старшынёй **Пясочанскага селькрэдыту, Капыльскаго раёну**, Нікановічам Янкам. Ён з вамі крыху іначай. От, дапусьцім, вам шына пагрэбна, звычайная шына на кола. Прыходзіце да яго. Ён вам:

— Пай колькі?

— 14 р.

— Яшчэ 8 трэба.

— Дык у мяне ўсяго пры сабе 3 рублі.

— Нічога ня выйдзе! Прашу ня тлуміць галавы.

Вы выходзіце на вуліцу. Ваш знаёмы нясе шыну.

— Дзядзька, колькі ў вас паю пакладзена?

— Пакуль што 5 р.

— А як-жа шыну далі?

— Дык мне Нікановіч дазволіў.

От як бывае. Добра быць начальнікам. Дазваляеш сабе, калі хочаш і каму хочаш, а калі хочаш, дык і не, адным словам добра!..

Так ось добра, як, прыкладна, старшыню Скароднянскага т-ва тав. Грыбу. Ну і прыказчыку Пярлову.

Прашу выбачэньня. Маленькае адступленьне.

Сяджу гэта я цяпер за сталом у пайніка **Кузьміцкага каапэратыву, Каралінскага раёну, Трахімава Уладзі**. А ён чалавек добры і мяне капустай з баранінай частуе. А капуста тлустая і гарачая. Пар так і валіць у столь. А есьці так і хочацца Уй як хочацца!.. Узяў лыжку, сярбануў раз, другі—дзёгцем у нос так і дало. Ня веру. Сёрбаю трэці—газай пахне ды годзе.

— Што гэта, кажу, нібы ваша капуста дзёгцем аддае?

— Гэта ня толькі мая, кажа Уладзя, гэтакая капуста па ўсім сельсавеце нашым.

— Чаму, дзіўлюся я?

— От, чалавеча, ёсьць новая пагаворка ў нас: „Якія каапэратары, такая і капуста".

— Пры чым тут што?

— А вось тут тое, што ёсьць у нас каапэрацыя, а ў каапэрацыю ды солі вагон прывезьлі. А нашы работнікі, старшыня Грыб ды прыказчык Пярлоў, да таго запрацаваліся што мяшкі паслаць да солі ня ў іх галаве. Куды там.. Соль з вагону пад страху, туды, дзе нафту і газу згружваюць. Адтуль соль у краму. З крамы па хатах ды і ў капусту. Гэта што—вы пастаронні чалавек, дык вам аддае. А мы дык прывыклі ўжо. Ядзім і нішто сабе. Ды ня толькі от мы, а ўвесь сельсавет ёсьць. Дыж от цяпер і кажуць: „якія каапэратары, такая і капуста".

## 3. Прыказчыкам

„Ня ўсё стрыжы, што
расьце".

**У Каралінскім раёне, Мазырск. акругі**, ёсьць **в. Падгальле**. У Падгальлі ёсьць каапкрама. У каап. краме, вядома, ёсьць прыказчык, і завецца яна Рая Міхалёва. Сац. становішча яе такое: бацька каваль, а маці

калісь гандлявала ўласнымі таварамі. Сама-ж яна нядаўна замуж вышла, за чалавека маладога. Ды жыве-ж ён далекавата ад Раі, але нічога—на тое коні ёсьць, каб езьдзіць. Бярэш сабе хурманку ў панядзелак (выхадны дзень), плоціш 3 рублі, а прыяжджаеш у сераду на другой хурманцы, пры тым, канешна, плоціш зноў 3 рублі. Ды чаму ж не заплаціць? Усёроўна-ж рахунак да справы падшыюць, і тады да цябе ніхто не прыдзярэцца. От паедзеш ты сабе на сьвята рэлігійнае 4 кастрычніка да мужыка, а прыедзеш аж 7-га, і ніхто табе нічога ня скажа. Добра жывецца Раі! Уй як добра! Але яна і яшчэ лепш умудраецца. От атрымае яна белае палатно, ну мэтраў 37, дык з яго атрымала па сакрэту Лось Хвядора 2 ці 3 мэтры ды такім-жа шляхам Аксіньня Сукталенка 2 мэтры, а апошняе, апошняе... можна і маме аддаць. А мама таксама ўмее гандляваць. Яна 'шчэ не забылася. Ды 'шчэ як умее! От па 1 рублю за мэтр бярэ, а ня то што ў каапэратыве—па 35 ці па 40 к. Разумная Раіна галава!.. Дужа разумная!.. Прынясеш ты ёй ягад-чарніц 3 к. 600 грм., а яна вам:

— Тут усяго 3 к. 400 грм. І нават не пачырванее, калі пры ёй пераважыш на вагах і пакажаш, што ня 3 к. 400 грм., а 3 к. 600 грм. Адным словам папала наша Рая ў рай. І ня сварыцца ні з кім і не палохаецца, гэта ня тое што **Капялевіч Майсей з Мала-Галошава, Коханаўскага раёну.** Мо' і ён бы нічога ніколі, нікому, ніякага не зрабіў, каб ня гэтыя селядцы. Ах каб на іх немач з селядцамі! Да таго народ на іх падкі—страх адзін. Ты от зачыняеш краму з вуліцы, каб ня ўсе лезьлі, бо каму трэба сялёдкі, то той знае, адкуль зайсьці, от з двара можна. Ну, дык каму-ж толькі трэба? А тут, на табе, лезе, няма ведама чаго, таксама са двара і пайнік Шалупін Хведар. От бок чалавек, і знойдзе-ж, адкуль зайсьці і не казаўжа яму нічога. Але нічога, ён у дзьверы, а я, Капялевіч, за клямку дзьвярэй. Ён лезе, а я грук дзьвярмі яго як прусака, і нясі Шалупін, заместа селядцоў, сінякі—ня лезь, куды табе не казалі лазіць. Шчэ' от падзякуй, што ня лаюся. Атрымаў і нясі на здароўе! Я ж вам, мо', ня Платон Яворскі, што з Грабоўскае крамы Пятрыкоўскага раёну. Ты да яго прыдзі цукру прасіць, а ён табе „маму“ дае. Ты яго пачнеш сароміць, а ён табе: „каціся каўбасой!..“ Камсамольцу, канешне, добра быць адважнаму, але ня ў краму толькі ды з „мамай“ яшчэ. Зусім другая справа з Дамброўскім, што з **Рычаўскай крамы Туроўскага таварыства „Чырвоны Араты“.** Ён цукар, калі ёсьць, дасьць. І ня лаецца. Яй права, дасьць. Ды 'шчэ каму, канешне, не абы каму: от намесьніку лясьнічага Папкаўцу дасьць, а табе не. Бо Папкавец служачы, яму трэба, а ты другі—чаго захацеў... А хлопец добры наогул. Прывязуць паркаль, ён, хто прыдзе, таму і раздасьць, а што там калгасьнікі запрацаваліся ў полі ды ня прыходзяць, ёнжа невінаваты. Есьць-жа людзі, якім час ёсьць. Прыходзяць, ну і прадаю. У краме продаж, а нядзе-небудзь, як якісь Ждановіч Пятрусь з Судакоўскай крамы Узьдзенскага раёну. Прыдзеш, станеш у чаргу і просіш шэрсьці, што на паліцы ляжыць.

— Шэрсьці? Які ты ласы на шэрсьць! Даўно ўжо яна прададзена бяз усякай чаргі пры лесе, на дарозе ля Пасечак, Багумінскаму Язэпу. А ты прышоў, стаў у чаргу ды 'шчэ мудруешся. Ня мудруйся, хлопец!

Ну што ты зробіш! От бок які чалавек, якія прыказчыкі! Стукай ім у нос, а яны хвастамі круцяць.

(Працяг будзе).

К. Буслоўскі

# „Спэц“ па спадчыне

Ёсьць прыказка: якое дрэва—такі клін, які бацька—такі сын. Так ці не, паглядзім. Разглядаем бацьку Бацька—Кантаровіч. Чалавек з ініцыятывай. Калі-б ён запоўніў адну з нашых, як кажуць, „бюракратычных“ анкет, яна атрымалася-б у такім выглядзе:

1) **занятkі да Кастрычніка**: арэндатар буйных маёнткаў і прыватны гандляр.

2) **пасьля Кастрычніка**: прыказчык каапэратыўнай крамы ў в. Мотарава, Менскай акругі, Сьмілавіцкага раёну;

3) **колькі плоціце с.-г. падатку?** Абкладзен індывідуальна...

Гэта, як кажуць, каротка. Даём больш шырэй. Ітак, Кантаровіч, як спэц, як чалавек энэргічны, „быў прыцягнуты“ да працы ў каапэрацыі, пад якую ён адлаў у арэнду свой сьвіран. Сьвіран стаіць на яго-ж уласным двары, супроць яго-ж уласнага вакна.

У адну з начэй, як і заўсёды бывае звычайна начамі, сьвіран апусьцеў. Кантаровіч падняў усіх на ногі...

— Каравул! Абакралі! Справа была перададзена ў райміліцыю і нават ў акруговую. Сам Кантаровіч, як „сумленны працаўнік“ нізавой каапэрацыі разьяжджаў у пошуках. Ён часта прывозіў „нейдзе знайшоўшы“ то замок ад крамы, то розныя маркі. За ўсе гэтыя пошукі пасьля Кантаровіч улажыў у касу крамы рахунак на 20 р. Потым у адзін са шчасьлівых дзён Кантаровіч прывёз частку адшуканага тавару.

— Быў ён знойдзены Менскай акруговай міліцыяй у лесе, на аднэй цыганскай хурманцы. Хурманкай кіравала нейкая баба цыганка і з ёю было яшчэ двое дзяцей—так гаварыў людзям Кантаровіч.

Праўленьне зацікавілася гэтым і запытала ў міліцыі. Міліцыя разьвяла рукамі і сказала: нічога ня ведаем! Так ці ня так—Кантаровіча з працы зьнялі. Але на гэтым справа ня спыняецца. У працавітага чалавека рукі сьвярбяць. У 1927 годзе Кантаровіч зноў улазіць у кіраваньне каапэрацыі. Пашла новая песьня на стары лад. Увясну, у самую пару пасадкі гародніны, у каапэрацыі няма насеньня, затое... калі ласка заходзьце да Кантаровіча і бярэце яго, колькі хочаце.

Тавары, якія прывозіліся ў краму, першым чынам для „рэвізіі“ завозіліся дамоў да Кантаровіча. Адтуль „пахудзеўшыя“ ўжо цюкі тавараў ішлі ў краму. Нейкім злыднем-чалавекам было перададзена аб гэтым у міліцыю. Бессаромная міліцыя патрэсла і знайшла мануфактуру і нават сукно ў Кантаровіча. Справа пайшла ў суд. Кантаровіч, канешне, як сумленны чалавек, зьявіўся на яго, зьявіўся і... канешне, змог апраўдацца, таму што ў яго былі сьведкі, проста ня сьведкі, а людзі, якіх цяперашнім, як кажуць, сьветам цяжка і знайсьці. А райвыканком і райміліцыя сьведак ня далі, хоць ад іх яны і павінны былі быць.

Ды, ўрэшце, што яму хто—гэтаму Кантаровічу? Абклалі яго індывідуальным падаткам. Кантаровіч перад сабранымі дзядзькамі сказаў: Я буду плаціць індывідуальна?—Ніколі... І сапраўды, да чаго праўдзівы чалавек на словы, і не плаціў. У гэтым годзе яго таксама абклалі, і ён зноў гаворыць: мо' як-небудзь пералезем... І так пра бацьку даволі. Быў суд, яго апраўдалі. Пакуль што ён у каапэрацыі не працуе. Але... але ўсеж-такі ён яе з болем на сэрцы не пакінуў. У той-жа самы тыдзень, як яго зьнялі пры дапамозе Белкаапсаюзу, на цёпленькае яшчэ месца узышоў, як „спэц“, сын таго-ж самага Кантаровіча. Штосьці з ахвотай верыцца ў яго „спэцыяльнасьць“. Думаецца, што прыказку:—якое дрэва—такі клін..., або, як часта гавораць школьнікам на вуроках арытмэтыкі—ад перамены месца складнікаў сума ня зьменьваецца, можна прыстасаваць тут.

С. Агрэсьцік

# З вясковых навін

І дробныя факты ў важнай справе адыгрываюць вялікую ролю.

❃ Аднаго разу ў мяст. Дуброўне здарылася няшчасьце вышлі запалкі. Працаўніка крамы № 3 агарнуў страх. —Няма сярнічак нідзе, а ў мяне яшчэ ёсьць, чаго будуць прападаць, думае ён. І „сумленны“ працаўнік захаваў іх на паліцы, заставіўшы мылам. Цікава, для каго і дакуль-бы яны былі там захаваны, каб хутка не падвезьлі ў Дуброўну зап лак?

❃ У Пухавіцкую каапэрацыю прывезьлі цьвікі. Здаецца, няма тут нічога дзіўнага. Дзіўнага то няма, але вось дзіўна, што цьвікі прывезены, а расцэнкі ня прывезьлі. І так яны „бедныя“ чакаюць пайшчыкаў, а пайшчыкі—расцэнкі. Хапацца няма куды, кажа прыказчык. Стаяць яны, гэтыя цьвікі, у краме. Няхай стаяць: можа чаго дачакаюцца.

❃ Вяліка-Да ецкая каапэрацыя дае дэфіцытныя тавары толькі таму, хто больш хлеба здасьць чырвоным абозам. Цікава, колькі здасьць хлеба бядняк, і колькі ён атрымае тавару? А калі не атрымае, дык чаму?

❃ У самахвалавіцкай каапэрацыі прыказчык Біруля абвясьціў вайну газавым бутэлькам. Прынясеш яму бутэльку, а ён табе:—у бутэльку газы не даю, можна бітончык купіць, што гэта я буду ўсе цыркацца па бутэльках. Няўжо тав. Біруля, абавязкова такі патрэбен бітончык? Нам здаецца, ня важна, куды газу ўліваюць, а важна, хто і як.

❃ Прыказчыцы Паўлючкоўскага аддзяленьня на Віцебшчыне Лук'янавай Альжы, мабыць, падабаецца добра кулак Сахонаў Якуб. Ён у яе зьяўляецца „першым пайнікам“, гэта значыць, атрымлівае ў першую чаргу і першы тавар. Калі заходзіць якаянебудзь гаворка пра Лук'янаву, дык Сахонаў кажа: „Супроць яе я нічога ня маю“ Дзіва што!

❃ Добра жывецца сваяком і знаёмым прыказчыка Бажка (Траскоўская каапэрацыя). Дзіва, што добра! Свой бажок сядзіць у краме і ў першую чаргу дэфіцытныя тавары дае сваім блізкім. Адным словам, добра таму жывецца, хто з Бажком жыве ў згодзе і знаходзіцца ў свацтве.

❃ У Лядзенскую каапэрацыю (Аршанская акруга) зноў пралез лішэнец голасу Шэндлер Хем. Жыве нішто сабе. Важыць жыта, прымае скуркі, бярэ грошы, лічыць іх адным словам, жывецца! Калі яго выгналі ў адным месцы праз дзьверы, дык удругім упусьцілі праз вакно. А яму што, жыві да пасьвіствай.

❃ У Круглянскай краме кнігі для продажу застаўлены і заціснуты розным ломам. Просяць яны часта хуткай дапамогі. Просяць пайнікаў дапамагчы ім стаць на віднае месца, паказацца людзям і паглядзець людзей.

❃ Прыказчыкам галіцкай каапэрацыі (Клімавіцкі раён) Ласікаву і Лягчыніну спадабаўся нэпман з мяст. Хоцімска. А людзям так, калі спадабаецца чалавек, дык яны ўсімі сіламі імкнуцца дагад іць яму, заслужыць аўтарытэт. Так і з нашымі прыказчыкамі было. Добрыя прыказчыкі з-за павагі далі нэпману 3 пуды цукру. Вось бачыце, што значыць спадабацца. Зусім бы нэпману добра і салодка жылося з гэтым цукрам, але... (ох, гэта самае а л е!) не павязло яму—міліцыя напаткала. От бо гэтая міліцыя ня дасьць спакойна і салодка пажыць людзям у наш час!

❃ Вельмі добра гандлюе крамар Халопеніцкай папяровай каапэрацыйнай крамы. Скажам: кніга каштуе 75 кап., а ён за яе... 1 рубель. Бярэ ён ня з усіх так, а па „усмотрению“, робячы клясавы падыход да пакупцоў.

❃ Добра сьпіцца ў Чыжовіцкай каапэрацыі, Старобінскага раёну, крамару Рухаўцу Айзіку. Сьпіць ён, колькі хоча. Адчыняе краму, калі

хоча. Зачыняе таксама. Адным словам, прытрымліваецца прыказак: „Шчасьлівыя гадзін не наглядаюць“ або „Лішняга не перадавай“.

❃ У вёсцы Князаўцы (аддзяленьне бярэзінскай каапэрацыі „Смычка“) гандлюе „славуты“ крамар Бэгейман. Славутасьць яго выяўляецца ў водпуску дэфіцытных тавараў ня пайнікам, пры тым, канешна, у першую чаргу знаёмым і сваяком. Цікава, калі скончыцца яго „славутасьць“?

❃ Прыказчык Рахман растраціў у Шчыткоўскім таварыстве 74 руб. 44 кап. і ўхмыляецца цяпер. Сьвет, думае не бяз добрых людзей, растраціў у Шчыткоўскім, дык я тады ў Парэчскім апынуўся. Гандлюю тут і нічога ведаць не хачу.

❃ Хема Цырлін меў раней сваю крамку, а цяпер няма. Але чалавек прывык гандляваць. Ён тады ў асавецкую каапэрацыю ўбіўся. Гандлюе там па старых мэтадах: дзе недаважыць свайго, дзе пераважыць чужое; „забудзецца“ расцэнку і, такім чынам, к рэвізіі звычайна ў людзей недахоп, а ў Цырліна лішніх 130 р.

— Вось што значыць набыць практыку. Мець стары стаж. „У каго недахоп, а ў мяне ўсё добра“, ды яшчэ і лішкі—кажа Цырлін.

❃ „Дзелавы“ прыказчык жыве ў мяст. Бобр—Патапаў Даніла. Прыдзе хто тавар браць, а ён пытаньне: „А пай твой поўны“, а як з крамы пойдуць усе, ён зачыніць яе і тады ў сваякоў ня пытае аб паі, а дае тавар на выбар—бяры, што трэба. От што значыць быць „дзелавому“ чалавеку. І каапэратар будзеш добры і ў сваякоў у пашане.

❃ Мы ведаем, што часта вецер зьменьвае пагоду. У Танескай каапэрацыі прыказчык Іваноў таксама жыве пад гэту стыхію. У яго, куды вецер вее, туды цэны хіляцца. З раніцы ён прадае селядцы па 54 кап. кілё, пад вечар—па 47, а назаўтра—па 40 кап. Скажаце, селядцы другія? Верце мне, што не. Адны і тыя-ж, а вось настроі ў Іванава на цану не адны і тыя. Можа хто гэту стыхію ўціхамірыць?

**Партыя і надалей будзе няўхільна праводзіць ленінскі лёзунг: апора на беднату, моцны саюз з серадняком, барацьба з кулаком.**

(з рэзалюцыі XVI усес. канф. УсеКП(б).

# БІБЛІАГРАФІЯ

**А. Лунін Деревня на переломе. Выданьне ГИЗ. Масква. 1929 г. 32 стар. Тыраж 100 000 экз.** *Цана 5 кап.*

Аўтар, даючы такую назву сваёй брашурцы, не памыліўся, бо цяпер, менавіта цяпер, вёска знаходзіцца на пераломе. Той буйны рост калгаснага будаўніцтва сьведчыць аб гэтым.

Прыводзячы цыфры росту калгасаў па Саюзу, мы сапраўды можам пераканацца ў гэтым. Так, на 1-е ліпеня 1928 году калгасамі было ахоплена 2,1 проц. сялянскіх двароў, да 1/VII-29 году было ўжо 4 проц., а ў 1929-30 годзе павінна быць 10 проц. У лічбах гэта выяўляецца так: на 1/VIII-28 г. 38 000 калгасаў, у 1929 годзе—61.000 калгасаў, а ў 1929-30 годзе—89.000 калгасаў.

Той шырокі рух калгаснага будаўніцтва, якім ахоплена сялянства, паказан у кніжцы на яскравых прыкладах.

„...Цэлыя вёскі, цэлыя раёны падавалі заявы аб залічэньні іх у калгасы там, дзе добра была наладжана праца трактарных калёнаў". Чытаем далей і бачым: ня сьпіць і кулацтва—варожы элемэнт калгаснага руху—там, дзе адбываецца арганізацыя калгасаў. Усякімі спосабамі імкнецца яно дасьці нявыцьцёвасьць калгасаў, а калі бачыць, што ня можа нічога зрабіць, дык само тады жадае ўсту іць.

Простымі словамі расказана ў гэтай брашурцы аб тым вялікім, аб тым магутным руху, якім ахоплена цяпер вёска, аб тым пераломе, на якім яна знаходзіцца.

Кніжку трэба раіць для шырокага чытаньня сялянству. Невялікая цана кніжкі дае магчымасьць набыць яе кожнаму. Напісана кніжка зразумелаю моваю.

**А. В-к.**

---

**К. Караткоў. Як і што здабываецца з драўніны. Сялянская бібліятэка. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск—1929 г. ст. 24,** *цана 10 коп.*

Наша багацьце лясоў патрабуе ад насельніцтва максымальнай да яго ўвагі. У нас насельніцтва не заўсёды разумее, што нам дае лес, што нам дае звычайнае дрэва. І ў нас да гэтага часу ня было такой асобнай папулярнай кніжкі, па якой змог-бы кожны малапісьменны пазнаёміцца з значэньнем лесу, у прыватнасьці з тым, што дае лес, якія каштоўныя прадукты з яго можна здабываць. Кніжачка Караткова як раз і зьяўляецца тым кароткім, але папулярным падручнікам малапісьменнаму чытачу-селяніну, праз які можна добра азнаёміцца, што нам дае лес, інакш кажучы, што мы здабываем з дрэва.

Акрамя таго, другая і амаль галоўная вартасьць кніжачкі—гэта тое, што яна можа быць добрым дапаможнікам у справе здабываньня з дрэва розных хэмічных прадуктаў, як, напрыклад: воцатнае кіслаты, драўлянага сьпірытусу, смалы і інш. У кніжачцы паказана, што з усякага дрэва і нават з драбніц-пілавін і стружак гэтыя прадукты магчыма здабываць. Гэтаксама паказана, колькі процантаў тое ці іншае дрэва дае розных прадуктаў паасобку.

А трэба сказаць, што на хэмічную перапрацоўку дрэва нашы каапэрацыйныя арганізацыі дагэтуль зусім мала зварочвалі ўвагі. Ці лепш сказаць, у нас да гэтага часу каапэрацыйныя арганізацыі мала маюць у сябе смалярных заводаў, якія даюць такі вялікі прыбытак.

Кніжачка Караткова павінна быць шырока папулярызавана сярод насельніцтва і яна адыграе належную ролю. Прачытаўшы яе, кожны селянін будзе мець поўнае ўяўленьне, што дае чалавеку дрэва, і як з яго здабываць тыя ці іншыя хэмічныя прадукты, пачне па інакшаму адносіцца да лясных матэр'ялаў, да лесу.

**Х. Гак.**

---

**М. Лурье. Всем селом в колхоз. Выданьне „Книгосоюз" 1929 г., тыраж 15.000 экз., стар. 24,** *цана 6 кап.*

Патрэбнасьць у літаратуры, якая-б асьвятляла жыцьцё і працу калгасаў, у сучасны момант вельмі вялікая. Бязумоўна, у такі час, калі руйнуецца стары ўклад сельскае гаспадаркі, калі з кожным днём рух калгаснага будаўніцтва пашыраецца, такая літаратура будзе мець пашырэньне. Выдавецтвам „Книгосоюз" ужо выдадзена на гэту тэму цэлая сэрыя кніжак.

Адну з такіх кніжак мы сёньня рэцэнзуем з мэтаю яе папулярызацыі. У ёй простымі словамі апавядаецца, як на месцы ранейшых вёсак узрасьлі два вялізныя калгасы—„Гігант № 1 і № 2". Даводзіцца карысьць буйных калгасаў у параўнаньні з дробнымі.

Лік калгасаў з кожным днём расьце. Звыш 60.000 калгасаў (у палове 1929 г.), з лікам 1.100 тыс сялянскіх гаспадарак і 5 мільёнамі насельніцтва, аб'ядналіся, каб ісьці па шляху да лепшага жыцьця.

У рэцэнзуемай брашурцы вы можаце прачытаць і пра тое, якая карысьць ад аб'яднаньня ў калгасы цэлых вёсак і цэлых раёнаў і як трэба ў такіх выпадках вытрымліваць лінію, каб туды не трапілі кулакі з мэтаю падрыву і шмат другіх пытаньняў.

Прачытаць гэту кніжку карысна кожнаму, як працаўніку, які працуе па калектывізацыі, так і селяніну, які думае ўступаць у калгас, але не адважваецца, хістаецца яшчэ пакуль што.

Цана кніжкі не дарагая.

**Т. Рачаісны.**

---

**З. Лаўрэнцеў — 5-летний план социалистического строительства—коллективизация сельского хозяйства. Госиздат РСФСР „Московский рабочий“, 1929 г.** стар. 112. *Цана 18 кап.*

Пытаньне аб шляхох разьвіцьця сельскай гаспадаркі і аб узаемаадносінах паміж сацыялістычным сэктарам нашай народнай гаспадаркі і сялянскімі гаспадаркамі—стаіць перад рабочай клясай нашай краіны з першых дзён пралетарскай рэвалюцыі. Відавочна, што на кожным новым этапе рэвалюцыі гэтае пытаньне ставіцца і вырашаецца па-іншаму. Гэта зусім ня кажа аб тым, што мы выдумляем зусім новую праграму па аграрнаму пытаньню. Але гэта кажа аб тым, што адна і тая-ж задача на розных этапах высоўвае перад намі розныя спосабы, шляхі, падыходы да яе вырашэньня.

Пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі высунуў шэраг новых момантаў, шэраг асобных задач.

Кніжка Лаўрэнцева ня ёсьць абстрактнае развважаньне, голая агітацыя за савецкую ўладу, а зьяўляецца прадуктам глыбокай прадуманасьці справы. Сказаць, што паколькі наша асноўная і галоўная задача—пабудова сацыялізму і адгэтуль неабходнасьць калектывізацыі, роўна таму, што не сказаць нічога. Некаторыя-ж аўтары нярэдка гэтак і развважаюць.

Тав. Лаўрэнцеў ня толькі спыняецца на задачах, што выцякаюць з нашага пяцігадовага пляну ў галіне калектывізацыі, а ён галоўным чынам гаворыць аб тых канкрэтных шляхох, аб канкрэтных формах і сродках, праз якія павінна ажыцьцяўляцца калектывізацыя вёскі.

Часта ў нас тармозіцца справа таму, што, апрача агітацыі, мы мала тлумачым нашаму селяніну перавважнасьці калектыўнай формы гаспадараньня над індывідуальнай.

Папулярных кніжак, дзе-б селянін мог знайсьці адказы на такія, да прыкладу, пытаньні, як індустрыялізацыя краіны, неабходнасьць перабудовы сельскай гаспадаркі, будаўніцтва буйное сацыялістычнай гаспадаркі на вёсцы, саўгасы, машына-трактарныя станцыі, калгасы, кантрактацыя, сельска-гаспадарчая індустрыя, калектывізацыя і клясавая барацьба і інш. амаль няма. Зразумела, мала растлумачыць сэнс „тэрмінаў“, трэба давесьці, растлумачыць, паказаць наглядна перавагу кожнай з новых форм над старымі формамі гаспадараньня. Рэцэнзуемая брашура ў асноўным і адказвае на такія вось пытаньні. Праўда, шэраг разьдзелаў мае ў гэтым недахопы: вельмі каротка і павярхоўна часам спыняецца аўтар на некаторых пытаньнях, але ў асноўным кніжка вельмі каштоўная, патрэбная кожнаму нашаму вясковаму актывістаму. Кніжка сапраўды зьяўляецца прадуктам глыбокай прадуманасьці, сур'ёзнай уважлівай працы.

**М. Г—кін.**

---

**С. М. Френкель „Рабочий в борьбе за урожай и коллективизацию деревни“, ГИЗ. Москва. 1930 г. старонак 78.** *Цана 12 к.*

Патрэбнасьць выданьня літаратуры па пытаньнях калектывізацыі вёскі, па пытаньнях рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на новай тэхнічнай базе, на сацыялістычных падставах, зараз, як ніколі, зусім ясна акрэсьлілася. І адгэтуль зусім зразумела, што асабліва апошнія два-тры месяцы на нашым кніжным рынку зьяўляецца ўсё больш і больш літаратуры на вызначаную тэму. Інакш і не магло быць. Друк, як сур'ёзнейшае арудзьдзе ў сацыялістычным будаўніцтве, ня мог застацца ў баку пры вырашэньні такой агромнейшай гістарычнай задачы, як аб'яднаньне мільёнаў дробных сялянскіх гаспадарак на сацыялістычных падставах.

Аднак, у даным выпадку, як і заўсёды, рашаючую ролю мусіць адыграць адпаведны настрой вакол высунутых партыяй задач, адпаведны настрой у першую чаргу ў асяродзьдзі самой рабочай клясы. Удзел шырокіх колаў пралетарыяту, удзел у гэтай справе кожнага рабочага—важнейшы фактар да больших посьпехаў калгаснага будаўніцтва.

„Пакуль прамысловыя рабочыя шчыльна ня возьмуцца за практычнае падтрыманьне справы калектывізацыі на вёсцы, нічога моцнага, нічога сапраўды надзейнага, нічога сапраўды сацыялістычнага ў будаўніцтве калгасаў—калгасаў, якія ахапляюць

сапраўды шырокія бядняцка-серадняцкія масы, ня будзе". (з прамовы т. Молатава.)

Аўтар як раз і паставіў сваёй задачай ахапіць сваёй брашурай суму ўсіх гэтых пытаньняў. Барацьба за большы ўраджай, барацьба за калектывізацыю даўно ўжо перарасла з ведамсьцьвеных рамак Наркамземаў ці Калгассаюзаў у агульна-палітычную задачу партыі, у агульна-грамадзкую справу.

Галоўнае зараз, як кажа аўтар—падрабязна, раз назаўсёды вырашыць справу тых рознастайных форм, у якія змагла-б выліцца актыўнасьць і ініцыятыва шырокай рабочай грамадзкасьці: арганізацыя спэцыяльных рабочых брыгад, рамонтныя брыгады на вёсцы, удзел рабочых адпускнікоў у гэтай справе і г. д. Вось тыя формы, у якія павінна выліваццa рабочая самадзейнасьць і ініцыятыва.

Аўтар шырока і досыць удала паясьняе практычную працу кожнай з названых форм.

Кожны рабочы павінен прачытаць рэцэнзуемую кніжку. Напісана яна вельмі проста і зразумела. Нашаму Бел. Дзяржвыдавецтву трэба перакласьці яе на беларускую мову.

Каштуе кніжка ўсяго 12 кап.

**Енс. Боот.**

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк.*